УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)
Б17

**Календа, С.**

**Б17** Часам панкі паміраюць / Сяргей Календа. – Вільня: Logvino literatūros namai, 2018. – 122 с.

**ISBN 978-609-8213-48-5**

Кніга Сяргея Календы «Часам панкі паміраюць» – падарожжа эмоцыяў, у якое выправіцца чытач. Пакручасты аповед перапыняюць дыялогі аўтара і першых чытачоў (сапраўдных і ўяўных). Гэтая кніга – эксперымент з формаю, спроба аб’яднаць літаратуру і штодзённасць, мастацтва і рэальнасць. Бязлітасны трыб’ют панкаўскаму юнацтву: каханне, алкаголь, агіда, сентыментальнасць. Чытанка для дарослых. Магчыма, вы будзеце плакаць, і вашае жыццё ніколі ўжо не зробіцца ранейшым.

УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)

**ISBN 978-609-8213-48-5**

But I’m a creep
I’m a weirdo
What the hell am I doing here?
I don’t belong here
*Radiohead, «Creep»*

Ці не здаецца вам, што фактычна
кожны з нас – два чалавекі:
адзін левы, другі правы?
Адзін карысны, другі ні на што не прыдатны?
*Хульё Картасар, «62. Мадэль для зборкі»*

Уяўныя фігуры больш выразныя
і праўдзівыя, чым рэальныя.
*Фэрнанду Пэсоа, «Кніга неспакою»*

КЛЮЧЫ

0. Alive
1. Бар
2. Вёска
3. Горад
4. Запалкі
5. Машына
6. Панкі
7. Раён
8. Раман
9. Сустрэчы

**0**

Я не хачу пераяжджаць, да падарожжаў я гатовы, да часовага побыту, ня больш за месяц, – таксама, мне ня хочацца жыць у Эўропе, я ніколі не хацеў бы трапіць у Расею, у Штаты я б паехаў працаваць. Я мог бы жыць у Аўстраліі, каля пяці гадоў, і мог бы пажыць на пэнсіі ў Шатляндыі, калі б мне дазволіла мая пэнсія. Я адчуваю, што здольны на раман з краінай, на прыгожыя дачыненьні, а потым доўгае вяртаньне дадому, сваркі, нянавісьць, стрэс, бо ня хочацца з той, якую ты гэтак любіў, аднойчы зрабіцца адно аднаму не цікавымі, стомленымі. Толькі радзіма зможа цябе прыняць такім, які ты ёсьць, і любіць зь любым настроем і целаскладам.

Я шмат дзе жыў, дыхаў паветрам вольным і ня вельмі чыстым, назіраў за суседзямі і эмігрантамі, такімі чужымі і блізкімі, за мясцовымі і карэннымі, як мае расхістаныя зубы, жыхарамі. Мяне цягне дадому, у гэты горад, у гэтую вялікую вёску, на гэтыя расколатыя двары, і мне хочацца вяртацца да сваіх ужо родных бабак каля пад’езду, і сустракаць, хоць не заўсёды ў гуморы, сваіх суседзяў – музыкаў, міліцыянтаў, інжынэраў, прадаўцоў, кіроўцаў таксі – розных, дзіўных, шаблённых, ад нараджэньня вопытных, мудрых і бадзёрых, якія звычайна без парады ці пытаньня пра жыцьцё, так проста не прапусьцяць, хоць ты дакладна ведаеш пароль дамафона і маеш ключы ад усіх замкоў.

У сваім раёне, горадзе, краіне, можна напіцца і адседзець пятнаццаць сутак за яе свабоду. Тут усё маё: мая памяць, магчымасьці, расчараваньні ды немагчымасьці, каханьні і сьмерці родных. Гэты горад – яго зямля ўтрымлівае мае эмоцыі, пачуцьці, яна ўсмактала ў свае нетры мае сьлёзы, кроў і мачу.

У гэтым двары я адначасова вялікі і мужны, і нейкі дурны і нязграбны падлетак. Я сябе адчуваю адным вялікім цэлым, складзеным з разьбітага посуду, кавалкаў мабільнага тэлефона і раскіданага адзеньня, якога я ўжо ніколі ў жыцьці не надзену.

Я нарадзіўся тут, і, зразумела, мяне яшчэ будзе закідваць у розныя месцы зямнога шару, але я ведаю, што ў маім пакоі, які ўсе сэзоны году застаецца ў цені, ахінуты пасаджаным мною бэзам пад вакном, схаваная сярод кніжных паліцаў бутэлька купажнага віна, і гэтая бутэлька ведае, што і калі рабіць: каго клікаць на другі келіх, а пра каго варта забыцца, можа толькі часова, не назаўсёды. Алькаголь дапаможа ўзважыць стомленасьць, супраць мараў усяго жыцьця.

**0/7**

Людзі пераяжджаюць, перамяшчаюцца зь вёсак у гарады, спальныя раёны множацца, шматпавярховыя панэлькі дублююцца, размываецца сэнс жыцьця, усе драбняцца на маленькія сямейкі, гетэрасэксуальныя і гомапары, альбо абіраюць самоту і кампутарныя гульні, зьяўляюцца даўншыфтэры і гіпстэры, вэйпэры і хайпэры, нацболы і літрболы, раёны ператвараюцца ў клоны, хтосьці з блогераў вам скажа, што гэта ня так, бо кожны новы раён стварае своеасаблівы ўнёсак, адбітак праз

жыхароў і новае пакаленьне, але рэальнасьць паказвае зусім іншы бок манэты.

Акрамя гаджэтаў і новай моды, у кожным раёне застаецца той асаблівы подых, які лунае, як Дух Божы пасьля стварэньня сьвету, іманэнтны прывід, створаны праз адмысловы рознакаляровы кантынгент насельніцтва, які часта бывае шаблённым, нават – архетыповым. Дух гэты складзены з густых пахаў згатаванага абеду і вячэры, з квашанай капусты і смажанай бульбы, з пахаў тытуню, траўкі і ацэтону, які выпарваецца падчас варэньня маку. Усё ёсьць, і было, і будзе, пакуль сьвеціць сонца.

Ад усіх гэтых гарадзкіх ваколіцаў і побыту немагчыма пазбавіцца, немагчыма перабудаваць раён, перастравіць яго, пакуль не адсячэш галавы ад гэтай гідры, якая завецца кожны раз па-рознаму, але заўсёды застаецца тым самым мястэчковым прывідам, якому пакланяюцца, – Сьвяты воблік мінулых шчасьлівых савецкіх гадоў і яго памагаты збраяносец, п’яны супрацоўнік ЖЭСу.

Я станаўлюся выпадковым сьведкам чужога жыцьця, праз усю нашу блізкасьць – панэльныя сьценкі. Жыву, назіраючы міні-сэрыялы, хоць сам таго і не жадаю. І я адчуваю абсалютную аддаленасьць ад людзей, суседзяў, раённых герояў.

Гэта як быць Гі дэ Мапасанам і праз сваю нянавісьць да Эйфэлевай вежы есьці ў яе рэстарацыі, бо гэта адзінае месца, дзе вежы не відаць, гэтак і ў маім выпадку – я жыву сярод сваіх настолькі блізка і шчыльна, што мне іх не відаць, я проста застаюся сярод сваіх пэрсанажаў для новай кнігі, мяне пачынаюць цікавіць жыхары, што побач, адно дзеля наданьня новай рысы свайму герою.

Я не эгацэнтрык і не мізантроп, магу ненавідзець, але так, па-добраму. Я ніколі нікому не зычыў сьмерці, але…

Можа быць, аднойчы, калі думаў, пра тое, як было б файна назіраць, як мазгі гэтага гопніка-суседа бягуць кроплямі, апярэджваючы адна адну, як адвальваюцца невялікімі кавалачкамі ад засранай, аблупленай і сьпісанай вільготнымі жаданьнямі кісла-зялёнай сьцяны, рэшткі чэрапа.

Я неяк сядзеў дома, на краі ложка, а трэцяй ночы, і ўяўляў, як міліцыя, якую я выклікаў на гук шансону ў суседняй кватэры, падчас супрацьстаяньня і пагрозаў акуратна, высокапрафэсійна, выносіць мазгі гэтаму курдупелю. Страляе знэрваваны малады сяржант роўна і проста вышэй левай вачніцы, і галава расколваецца, і фантаны крыві, і вока левае, такое зьдзіўленае, спаўзае на шчаку.

Літаральна як у фільмах Квэнтына Тарантына, як я люблю, каб зь перабольшаньнем, з надрывам і няёмкім адценьнем скрыўленьня.

**4**

Упершыню Амэрыку я ўбачыў здалёк і быў зачараваны. Я бачыў, як ён мудрагеліста пляваў скрозь зубы на адлегласьць дзесяць мэтраў (мэтры лічыліся вялікімі крокамі). Раніца, празь пяць хвілінаў усіх пачнуць запускаць у школу, а вакол Амэрыкі – натоўп хлопцаў, ён усьміхаецца і харкаецца, а ўсе назіраюць, і колькі пацаноў адразу кідаюцца лічыць крокі-мэтры.

Амэрыка быў сапраўдным героем школы. Ён насіў кепку ЗША з выяваю арла, у яго былі модныя скураныя фенечкі; дзе, хто і як яму іх сплёў, прадаў ці падараваў, – невядома; ён хадзіў у школу ў гарнітуры, зусім не падобным да нашых, якія нам набывалі бацькі ў «Гандлёвым доме на Нямізе», і ў замежных прыгожых красоўках, за якія яму часта даставалася ад дырэктара.

Ён усім распавядаў, што жыў у Штатах усё жыцьцё, а цяпер, калі здарылася перабудова, бацькі прыехалі сюды, бо вырашылі, што тут былым алімпійскім чэмпіёнам лягчэй. Амэрыка нас усіх заварожваў сваёй лёгкасьцю быць нахабным і прыцягальным, уважлівым да кожнага аднаклясьніка і хамам для настаўнікаў. Амэрыка мог лёгка пазнаёміцца зь дзяўчынаю і мог лёгка закінуць «трошку» за баскетбольнай лініяй любым мячом: футбольным, баскетбольным ці валейбольным. І ён мог лёгка пасварыцца з кожным мінаком і адразу даць у вока. Нашая школа такіх кадраў ніколі ня бачыла, і зразумела, абсалютна ніхто, акрамя саміх бацькоў Амэрыкі, не разумеў, навошта яны вярнуліся сюды, у Менск.

**6**

Як гэта было з аўтобусам нумар 313? Мы, нашая кампанія падлеткаў, якія амаль ад нараджэння былі фанатамі менскага «Дынама», пілі «Крыжачок» і гулялі ў панкаўскія гульні кшталту «рамонка» альбо замыкаліся ў пакоі, выключалі сьвятло і харкаліся ў розныя бакі, потым уключалі сьвятло й лічылі пляўкі на сваім адзеньні й скуры, і той, хто быў больш запляваны, выйграваў. У нас не было кампутараў, мы не цікавіліся тэлевізарам, мы мала чыталі, але ў нас была нашая музыка, правілы вуліцы, уласныя законы анархіі й гісторыі.

Шмат гісторыяў, кожны з нас імкнуўся стаць майстрам аратарскай справы. Печань, так звалі аднаго з нашых, ён пераўзышоў у гісторыях усіх, распавёўшы, як п’яны гопнік піў піва й нават не заўважыў, што яму ў паўлітровую плястыкоўку па прыколе нахаркалі сопляў сябры, так ён амаль да канца й дапіў бы, але ж на апошнім глытку соплі зацягнула ў горла, і ён пачаў ванітаваць.

**3**

У першы дзень пасьля школьнага выпускнога я зьнік. Самым сапраўдным чынам зьнік.

Сышоў. І сышоў не абы-куды, падрыхтаваўся. Грошай, якія я назьбіраў, мусіла хапіць на доўгатэрміновае падарожжа, альбо каб дваццаць месяцаў аплачваць здымную кватэру.

Я чакаў гэтага дня. Я мог і раней зьбегчы, але мне не дазвалялі мае прынцыпы. Я быў упэўнены, што спачатку я мушу атрымаць мінімальную адукацыю, а ўжо потым уладкоўваць сваё жыцьцё.

Пачынаючы з шасьці гадоў я пракручваў у галаве плян зьнікненьня, марыў аб тым, як гэта будзе выглядаць для маці. Як яна будзе праз гэта пакутаваць, як пачне вінаваціць сябе, што кепска мяне гадавала, што не даглядала і не любіла як трэба, што я сышоў, і, можа, недзе ў падвале невядомага менскага дому ўжо нюхаю клей, ці мяне ўжо пасьпелі згвалціць і забіць.

Я ўсё разьлічыў, каб зьнікнуць: дзяцінства навучыла мяне жыць паводле ўласных правілаў і давяраць толькі сабе. Тое, што мяне забралі ў сталіцу і з шостай клясы я вучыўся і жыў прыстойней, ніж раней, ніякім чынам не адбілася на маім адчуваньні ўдзячнасьці або падсьвядомым. Мне хапіла моцы і розуму скончыць школу, сабраць заплечнік, грошы і дакумэнты, і мэтанакіравана выправіцца на чыгуначны вакзал.

Мой бліскуча пабудаваны плян зьнікненьня быў распрацаваны акурат да моманту, як я зьявілюся на вакзале. Далей мне трэба было наважыцца на падарожжа. Я наўмысна не плянаваў месца свайго далейшага жыцьця: рамантычнасьць выпадковасьці цешыла мяне ня менш за думку пра помсту маці зьнікненьнем.

**1**

У кожнага пісьменьніка мусіць быць бар, свая кавярня, сваё гарадзкое месца, дзе ён будзе ствараць кнігі, разважаць і ператварацца ў мясцовы помнік, пэрсону, да якой можна дакрануцца, зь якой можна выпіць і проста пагутарыць пра надвор’е, і абавязкова, што зусім не ў традыцыях Менску, пасьля сьмерці пісьменьніка ягоны любімы бар павесіць шыльду і зробіць стол, за якім той любіў сядзець, месцам пакланеньня.

Але, яшчэ да сьмерці аўтара, гарадзкія ўлады пасьпеюць некалькі разоў зруйнаваць бар і дом з барам, і нават суседні дом-гістарычную-каштоўнасьць зьнесьці, так што ніякай памяці, акрамя гэтага тэксту, пра месца не застанецца.

Адна з сакральных роляў беларускай літаратуры – захаваньне, і гэта датычыць нават кнайпы і дому, у якім гэтая кнайпа ёсьць.

Я выбраў бар «Рукі Мадонны», абсалютна выпадкова, кіруючыся толькі блізкасьцю да дому, каб, калі ўжо так напрацуесься, што будзе складана перасоўваць ногі, ня ехаць паўвечара праз горад на таксі, але акуратна і прыгожа дапаўзьці да сваёй нары за дзесяць хвілінаў.

У першы дзень працы ў «Руках Мадонны» я выпіў два кубкі кавы, астылай і шэрай, як танны пуэр, нічога ня еў, і ўвогуле саромеўся свайго перабываньня ў гэтым месцы на працягу пяці гадзінаў, бо цадзіў каву і нічога не замаўляў, нават двухрублёвую манэту ўмудрыўся закаціць пад барную стойку, калі даваў барыста гасьцінца.

Няўклюдны і спужаны, я выйшаў у халодны горад зь вялікай, велічэзнай цеплынёй унутры ад напісаных трох няшчасных старонак кнігі.

Няшчасных, але доўгачаканых і вартых таго, каб яшчэ раз адчуць усю няёмкасьць замоваў кавы ў «Руках М.».

**2**

Я быў малым падшыванцам, і цягаў пад сталом котку за хвост, калі мая бабуля, сабраўшы ў садзе вялікія букеты ружаў і прывёзшы з гораду пэрсікаў, стаяла на кухні й рыхтавалася варыць з гэтага каляровага багацьця сочыва. Яна брала сваімі старымі, лядашчымі рукамі маладыя бутоны белых цнатлівых ружаў, камячыла іх скручанымі пальцамі й кідала ў вялікі рондаль, потым брала чырвоныя ружы, трушчыла й дадавала да белых скамечаных пялёсткаў, далей у кулачках сьціскала жоўтыя ружы, і таксама дадавала да астатніх, ціхенька напяваючы сабе пад нос, наразала сакавітыя пэрсікі, якія расьціскаліся пад пальцамі, як плястылін, і запаўнялі прастору салодкім пахам.

Бабуля засыпала наскрыляныя пэрсікі ў рондаль з ружамі, дадавала цукар, запальвала агонь на нямецкай газавай пліце й сядала, з абмазанай смакатой драўлянаю лыжкаю ў руцэ, на скасабочаны зэдлік.

У гэты час чаканьня пакой пакрысе насычаўся пахам і чорна-белымі малюнкамі, фотаздымкамі ды стужкамі. Пра што разважала альбо марыла мая бабка? Можа быць, пра мужа, які маладым сышоў з гэтага сьвету? Можа быць, пра першы дарослы ровар, на якім яна, перакінуўшы праз раму левую нагу, круціла пэдалі ў лес. А можа быць яна, паглядаючы на мяне, думала, кім я зраблюся, калі вырасту, і ці будзе мая маці калі-небудзь мяне гадаваць, альбо гэта цяпер яе, старой жанчыны, лёс. Невядома. Адзінае можна сказаць дакладна: у гэты момант, варэньня сочыва, я пачуваўся Дома, як ніколі больш нідзе.

**5**

Як гэта, адкатаць дзесяць гадоў на машыне і ніводнага разу ня быць спыненым даішнікам?

Атрымаць за дзесяць гадоў толькі некалькі штрафаў ад відэарэгістрацыі за перавышэньне, і ўсё?!

Зразумела, за стырном лёгка разьнявольваесься і пачынаеш лічыць сябе калі ня Богам, то хаця б Ягоным сынам.

З такім шчасьцем варта было б у казыно хадзіць і зрываць вялікі куш. Нахабна выйграваць, але я чалавек азартны, мяне лёгка можа зацягнуць.

Калі мінае шмат гадоў беспакаранасьці, становісься сьмелым і дзёрзкім кіроўцам, якому выдалі ці ня самыя шчасьлівыя правы, ліцэнзавана дазволілі праяжджаць праз даішныя кардоны непрыкметным. Кранутым ласкаю Ўсявышняга.

І за два месяцы да заканчэньня тэрміну дзеяньня правоў, калі трэба было паклапаціцца аб іх замене на новыя, адной жнівеньскай раніцай захацелася паехаць на працу незвычайным шляхам, ня так, як заўжды, бо не вядома чаму, але так было трэба.

**7**

З маім суседам змагацца за цішыню немагчыма. У яго заўсёды знойдуцца два аргумэнты супраць майго пытаньня: маю права да адзінаццатай слухаць музыку любой гучнасьці, бо інакш можна лёгка атрымаць у вока.

Сваё права маёмасьці і «даць у вока» ён гэтак дбайна ахоўвае, што падыходзіць блізка да яго кватэры немагчыма, ён успрымае гэта як напад. Ён можа проста адчыніць дзьверы і кінуцца ў бойку. Суседзі-мужчыны да яго ўжо

ня ходзяць. На агульных тамбурных дзьвярах – засохлыя адбіткі крыві, напамін пра тое, што лепш гэтага гопніка не чапаць нават на нэўтральнай тэрыторыі.

Цяпер да суседа пачалі хадзіць толькі суседкі, бо мужыкоў шкада. З жанчынамі ён ня б’ецца, толькі лаецца і крычыць, каб не чапалі яго і не заходзілі за межы ягонай законнай нерухомасьці.

**8**

Вечар, усе, каго ты ведаеш, сёньня п’юць.

П’юць у рэстарацыях, барах і на здымных кватэрах, у гасьцях і дома, у машынах і грамадзкім транспарце.

А я сяджу на зэдліку, на кухні, мяне пачынае ціха калаціць:

«Можа, схадзіць купіць выпіць?

Вельмі хочацца.

Ажно скулы зводзіць.

Альбо ня піць?

Так.

Не, ня буду сёньня піць.

Альбо буду?

Усё-ткі – не, і кропка.

Пайду павешуся!

А можа, лепей раней спаць пакласьціся.

Гэта называецца ўнутраны гандаль.

Блядзкі гандаль!

Трэба заняцца чымсьці цікавым!

Але трэба быць яшчэ і моцным, і хаця б раз на месяц ня піць!

Порна паглядзець?

Адцягнуць увагу ад думак?

Ці?..

Не!

Альбо адцягнуць увагу ад думак?!

Ня буду сёньня піць!

Вырашана!

А ў мяне, дарэчы, і міні-сэрыял з Ўудзі Аленам ёсьць.

Але калі я гляджу кіно – я п’ю. І як так, паглядзець фільм і не нажэрціся?

Трэба дачакацца дзесяці вечара… калі зачыніцца крама!

Але я бачыў, што ў майго суседа па кватэры ў лядоўні дзьве бутэлькі гарэлкі!

Пачытаць?!

Не, не атрымаецца, калі галава так пульсуе ад іншай думкі!

Зьесьці чаго смачнага?

Але я паеў гадзіну таму.

Заварыць гарбату?

Але літаральна трыццаць хвілін мінула, як я выпіў два вялікія кубкі зялёнай гарбаты!

Альбо ўсё-ткі схадзіць у краму і не ябаць сабе мозг?!

А можа, выпіць снатворнага?

Паболей!

Альбо яшчэ пасьпець схадзіць у вінны аддзел?

Жыцьцё – боль».

Прыйшоў ліст: адзін пісьменьнік прапаноўвае перакласьці пару маіх тэкстаў на адну з эўрапейскіх моваў.

Дзякуй Богу, ёсьць нагода! Я адразу пішу Тэрэзе, каб кідала ўсе справы і ехала па мяне на сваёй машыне, альбо на таксі, ня важна, тэрмінова трэба ў начнік!

Няма часу тлумачыць, усё распавяду па дарозе.

Тэрэза адказвае мне адразу.

**9**

«Ты, канечне, майстра апісаць момант. Крута! Ну і пра сэксуальныя, інтымныя рэчы пішаш сьмела – часам шакуе, але я прызвычаілася.

Калі разьмежаваць пачуцьці на сымпатыі ды спачуваньне герою, то я хутчэй яму спачуваю.

Ягоныя разгубленасьць, супярэчлівасьць, эмацыйнасьць – гэта тое, што рэзануе з маім унутраным станам. Магчыма, я сама сабе спачуваю, ці хачу, каб мне паспачувалі».

«Наконт моманту – так, я шмат над гэтым працаваў, часам сам адчуваю, наколькі гэта мяне ўласна кранае.

Наконт шчырасьці, я стараюся апісаць тэму як мага больш эмацыйна і шчыльна да дробязяў, мне тады здаецца, што гэта дапамагае сюжэту жыць напоўніцу».

«Не магу сказаць, што я закрыты чалавек. Супярэчлівасьць для мяне ў тым, што з таго панка, які быў (а ён быў? хацелася б больш доказаў), не вынікае чалавек, які цяпер ёсьць. Значыць або праўда жыў жыцьцём кагосьці іншага, або некалькі супрацьлеглых граняў асобы сышліся ў адным чалавеку. Вось гэта мне знаёма. Я куляюся часьцей за ўсё ад гіпі да сур’ёзнай бізнэс-лэдзі. Супярэчлівасьць і ў тым, як плавае самаадзнака, ступень упэўненасьці ў сабе. Эмацыйнасьць – калі кранае. Амаль усё кранае. Часам хочацца пазбавіцца ад гэтых акуляраў, якія высьвечваюць для цябе ўсё: прыгажосьць, боль, пачварнасьць. Але бязь іх робісься цынікам і губляеш ласку тых, хто побач. Так і застаесься неабыякавым дэбілам, якому баліць і трэба больш за ўсіх. Я гэтак адчула героя. Але я апошнім часам параною на тэму «мы бачым у іншых тое, што ёсьць у нас», таму чорт яго ведае. Я дакладна такая, таму мне адгукнулася».

«Я з табой згодны наконт падвойнага, супярэчлівага жыцьця, я сам быў вымушаны шмат гадоў так жыць, і працаваць, удаваць зь сябе кагосьці іншага, і часта ва ўнівэрсытэце жартаваў, што я Дор’ян Грэй, ажно пакуль не пачаў сталець, і Дор’ян Грэй паступова зьнік».

**7**

Што датычыць новага раёну, то адразу па пераезьдзе я пачаў адсочваць, як да балкона на першым паверсе ў супрацьлеглым доме падыходзяць жанчыны. Такія жанчыны, якія відавочна маюць патрэбу ў фінансавай падтрымцы, і доўгі час сядзяць на алькаголі не ад добрага жыцьця.

Падыходзяць гэтыя жанчыны, і заўсёды розныя, і грукаюцца ў вокны балкона. Прыходзяць, быццам на паклон да мэсіі, ды стаяць у чарзе, каб памыць яму ногі сваімі сьлязьмі ды абцерці даўгімі валасамі.

Адмыкае ім звычайна заспаны гаспадар, у карычневым халаце, і перадае нешта, зусім невялікае.

Што гэта? Навошта? Не ключы ж шторазу ён перадае. І вось я, нават ненаўмысна, але стабільна раз ці два на тыдзень у розныя гадзіны, то раніцай, то ў абед, альбо ўвечары, назіраю, як да суседа ў двары ходзіць натоўп жанчын.

Пазьней, недзе праз тры месяцы, стала яшчэ весялей жыць, бо калі рана выйсьці гуляць з сабакам, недзе так а шостай, калі табе альбо на працу раней трэба, альбо ты прачнуўся зь перапою па чарговай творчай сустрэчы зь літаратарамі ды мастакамі, і ня можаш больш спаць, – можна назіраць адных і тых жа двух пацаноў, наркаманаў, маладых яшчэ зусім. Яны двойчы на тыдзень ходзяць вакол дому, і з такім трымценьнем, вусьцішу, шукаюць «нычку» гандляра.

Дылер з рук наркотыкаў не перадае, закладае хованку – напрыклад, у вакенцы, што ў падмурку дому, дзе трубы. Аднойчы гэтыя самыя два маладыя чалавекі, адзін зь якіх па мабільным перапытваў, дзе дакладна шукаць, а другі на каленях поўзаў, дасталі тавар з расколіны дому. Радасныя былі, не перадаць словамі.

**4**

Кожны дзень Амэрыка прыносіў у школу штосьці цікавае і, як папугай, насіўся з гэтым.

Шлем гульца ў амэрыканскі футбол – і цэлы дзень у калідорах школы толькі і чуваць, як хлопцы носяцца за кімсьці, хто ў шлеме.

Носяцца за ім, а той спрабуе зьбегчы, альбо спыняецца і разварочваецца, і бяжыць у натоўп хлапчукоў, і літаральна за імгненьне ператвараецца з хлопца ў шлеме ў шар для боўлінгу, а тыя, хто трапіліся на дарозе, – у кеглі.

Бэйсбольная драўляная біта – і ўвесь трэці паверх зьвініць бітым шклом, бо ў памяшканьнях біта зь няўмелых і слабых рук школьнікаў выпадае і ляціць верталётам у бліжэйшую шыбу, і вось ужо дырэктар вызваньвае бацькоў.

Рагатка амэрыканскай вытворчасьці ў параўнаньні з нашымі драўлянымі рагаткамі выглядала як сапраўдная зброя. Мэталічная цяжкая ручка і гума, якая была здольная нацягвацца на даўжыню рукі, і біць хутка, як пісталет, прабіваючы дзіркі ў сьценах.

Скураныя каляровыя шарыкі для жангляваньня, напампаваныя пяском, на цэлы дзень ператваралі школу ў сьвята, кожны вучыўся, як гэта – круціць у руках тры,

чатыры ці пяць мячоў. Амэрыка, здаецца, мог круціць усе дзесяць.

Распавядаць пра тое, што зь цікавостак Амэрыка мае дома, альбо што ён меў у Айдаха, бессэнсоўна, бо ніводны тэтрыс ня стане на адзін п’едэстал з прыстаўкаю, каляровым тэлевізарам ці сапраўдным, самым сапраўдным крутым горным роварам.

**6**

Такім чынам, калі Печань зрабіўся майстрам апавяданьняў, Нэрв навучыўся граць на гітары й сьпяваць брудныя й жорсткія песьні, а Верабей стаўся чэмпіёнам пітва, я вырашыў быць генэратарам ідэяў, бо падставаў для новага й сьвежага баўленьня часу было багата.

Нашым месцам сустрэчаў быў лесапарк, праз які зрэдчас праходзіў хуткасны аўтобус нумар 313, ён спыняўся на прыпынку й потым ішоў пад невялічкі пешаходны мост, які яднаў дзьве паловы парку, мост быў танюткі, меў невысокія парэнчы ў выглядзе турэмных кратаў і замест вадасьцёкаў – простыя дзіркі на краях, у якія, каб не запашвацца на мосьце, сьцякала дажджавая вада.

Штовечар мы езьдзілі на гэтым аўтобусе і праз раз натыкаліся на злоснага кіроўцу, які, выглядае, хацеў быць настаўнікам, богам альбо выхавацелем для нас. Тое, як ён сябе паводзіў, абурала, але адначасова яднала яго зь іншымі пасажырамі.

«Езьдзяць яны тут без квіткоў, грэбаная моладзь! Брудныя вунь якія! Лепей бы месцы саступілі!» – звычайна ён на прыпынку спыняўся, высоўваў твар праз акенца выдачы квіткоў і роў на нас, а мы толькі сьмяяліся зь яго, а іншыя пасажыры ківалі галовамі, пагаджаліся з кіроўцам.

Але якая магла знайсьціся на нас управа – добра, што мы ня драпалі цьвікамі вокнаў і не размалёўвалі фарбаю сядзеньняў, мы проста жадалі аднаго – абы ён нас не чапаў і моўчкі давозіў дадому!

**3**

Я стаў каля табло з раскладам руху цягнікоў.

І так прастаяў, вагаючыся, хвілінаў дзесяць і, нічога не надумаўшы, ужо нават быў схільны вярнуцца дадому, бо нейкая ўнутраная вусьціш мяне клікала паехаць назад.

Я прымусіў сябе падняцца на другі паверх вакзалу і завітаць у чабурэчную.

Я сядзеў некалькі гадзінаў з алькаголем і смажанкай, глядзеў на іншых наведнікаў, разглядаў іх твары, вопратку. Жаваў тлустае цеста зь невядомым мясным зьмесьцівам і запіваў усё гэта самаробнай адвёрткай, пакуль паўзь мяне не прайшла дзяўчына, якая лёгка зацікавіла мой захмялелы зрок.

Пазнаёміўся з Воляю. Яна аказалася вясёлая і цікавая дзяўчына, і ў гэты ж вечар павезла мяне дадому.

Калі б мне хтосьці сказаў, што я, сеўшы ў таксоўку, якая накіравалася ў бок Вользінай кватэры, захрасну тут, у гэтым горадзе, на пяць гадоў, я б ніколі не паверыў. Я б нават прыняў за сьвятую праўду адразу, зь першага слова, што Воля – цнатлівіца, і што наступныя мае дзяўчаты і знаёмствы таксама будуць аточаныя пахам цнатлівых засмоктаў і спатнелых дотыкаў.

Ну добра, цнатлівіцы ў Менску, перад тым як зьбегчы, – гэта было тое, што мне сапраўды трэба, каб падняць статус, каб пачаць хаця б крыху сябе паважаць пасьля процьмы сэксуальных няўдачаў.

Я адчуваў, што наблізіўся да краю бездані, у якую хутка скокну, і ніколі, ніколі мне ня ўдасца адразу пераскочыць гэтую ўсёпаглынальную пустэчу й апынуцца на супрацьлеглым баку; я разумеў, цьмяна, скрозь алькаголь і вочы Вольгі, што я ўжо лячу на самае дно, зацяжным скокам, і, упаўшы, мне давядзецца караскацца наверх самастойна. Давядзецца пражыць не сваё жыцьцё. Пражыць дзеля таго, каб камусьці стала лепш, лягчэй, – але ня мне.

«Ты далёка жывеш?»

«Не, празь пяць хвілінаў будзем на месцы».

**2**

Маё дзяцінства прайшло ў вёсцы, маці я рэдка бачыў – яна зьяжджала ў горад працаваць, і толькі ў выходныя, зрэдчас вызваляючыся на два дні, наведвала мяне і бабулю.

З падлецтва, калі толькі пачалі зьяўляцца валасы на целе, голас зрывацца на фальцэт альбо бас, я пачаў губляць штосьці ад сябе сапраўднага, зьмешваючыся з жанчынамі, якія, нібыта ружы, зьмешваліся ў маім рондалі з пэрсікамі, суніцамі, чарніцамі і скрылікамі лімона. Жанчыны адразу занялі галоўнае месца ў маім жыцьці, абмінуўшы рэшту дома, сям'і, любімага сабаку, хобі. На некаторы час сэксуальны ўсёпачатковы сэнс выціснуў астатняе.

Сьціраючы сваю памяць, распушчаючы сваё насеньне ў цёплых улоньнях, я пакідаў частку самога сябе, каб адшукаць сябе сапраўднага.

У разнастайных дамах, сярод шэрых шпалераў здымных кватэраў, мною кіравалі юр, жарсьць, любоў, каханьне, і мне здавалася, што гэта мае найлепшыя пачуцьці. І, здавалася, што я адначасова і Самсон і Салямон.

**1**

Другі раз я трапіў у «Рукі Мадонны» пасьля абеду, і цьвёрда пастанавіў, што замест кавы буду піць сухое белае віно.

Пасьля трэцяга келіха папрасіў бутэльку.

Пасьля трэцяй бутэлькі віна папрасіў сто ўіскі.

Пасьля трох па сто ўіскі – прынесьлі пляшку, якая ўжо была не патрэбная, пра што казаў нават афіцыянт.

За шэсьць гадзінаў «працы» я нічога не напісаў, не адрэдагаваў і нават не стварыў накіду. Ніякія тэксты нават не праглядаліся. За гэты час раскрываўся толькі рот, каб заліць у страўнік алькаголь.

Я нажлукціўся, чапляўся да адміністратаркі залі, распавядаў ёй, што я пісьменьнік, спрабаваў пасварыцца з барыста праз храновую каву мінулы раз.

Потым доўга сядзеў у ноўтбуку і ліставаўся з абы-кім.

Потым мяне акуратна папрасілі з бару.

«Акуратна» – галоўнае слова ў характарыстыцы «Рук М.», мне гэта падабалася, я ўсьміхаўся сам сабе.

Добра, што рэстарацыя побач з домам, ісьці было лёгка, з надзеяй на лепшае, я хутка быў дома, скручаны і не задаволены сёньняшнім вынікам працы з кнігай.

**5**

Прачнуўся я вельмі кепска – сказаць, што мне моцна хацелася гэтак рана падымацца, гэта схлусіць і вам, і мне, і ўсім чатыром пакаленьням мужчынаў маёй сям’і.

Я проста ня мог расплюшчыць вачэй. Ня быў здольны ўдыхнуць застаялае паветра ў прапахлым, заканапачаным

пакоі. Батарэі грэлі, як на трэцім коле пекла, мая жанчына была на кухні, я чуў звон талерак – мыла посуд, сам я змагаўся з клятай гравітацыяй, каб падняць галаву з пакамечанай і вільготнай падушкі.

Ізноў піў. Ізноў атрымаю на кухні па правай шчацэ, але падстаўлю яшчэ і левую, бо так лягчэй, так самаахвярней, а я гэтак хачу быць ахвяраю.

Адолеўшы пад'ём на рукі ды ногі, я, стоячы пасабачаму, праз дзесяць хвілінаў эвалюцыянаваў у homo erectus'а і выправіўся ў ванны пакой.

Зубы.

Твар.

Галава.

Падпахі.

Жывот.

Пахвіна.

Ногі.

Памыўся цалкам. Гатовы сьнедаць.

Пасьля свайго цудадзейнага зьяўленьня на кухні я пасьпеў выпіць толькі паўкубка кавы, бо вытрымліваць ціск сварлівых войскаў было ўжо немагчыма. Мая жанчына была не ў гуморы – відавочна чаму, і я яе разумеў.

Я пагадзіўся паехаць у крамы, іншага выйсьця няма, піць мне сёньня нельга, шопінг-тэрапія нам абодвум патрэбная: ёй – супакоіцца, мне – адцягнуць увагу ад сваёй пэрсоны і праблемаў са злоўжываньнем.

Мы селі ў машыну, я завёў матор, прагрэўся і газануў з двара як ашалелы.

І адразу пасьля першага сьвятлафору даішнік палачкай паказаў мне, куды трэба збочыць.

Блядзтва.

**7**

Калі сусед п’е ў выходныя зь сябрамі, то нікому няма паратунку. Даводзіцца таксама пачынаць піць і рабіць усю тэхніку дома гучней: няхай пралка гучна двойчы пракруціць бялізну, няхай па тэлевізары канал з «Разбуральнікамі легендаў» выбухае на ўсе лады піратэхнікі, а з майго ноўта няхай дзярэ глытку Бацька Тараканаў, хутка нас чакае раённая вайна ў агульным калідоры.

Я з суседам усё-ткі знайшоў нейкае паразуменьне, бо калі тэлефаную яму, часам атрымліваецца зрабіць крыху цішэй музыку, і калёнкі паставіць на падлогу, папярэдне кінуўшы адзеньне, каб заглушыць басы сабвуфэра.

Ён згаджаецца, і я яму і за гэта ўдзячны, бо ён толькі і чакае, каб прабіць каму чэрап.

Сябры ў суседа такія самыя: бывае, уначы яны адно з адным распачынаюць разборкі, і ўжо раніцай на вуліцы можна бачыць плямы крыві на асфальце, ваніты, бітыя бутэлькі.

Міліцыю выклікалі шмат разоў, але пакуль яны едуць, гэтыя бастарды пасьпяваюць замкнуцца і выключыць музыку або разысьціся.

Дзесяць дзён таму ў суботу, увечары, недзе а дзясятай, да яго пагрукалася жанчына зьверху, і проста стала на калені ды пачала плакаць:

– Прашу цябе, над табою памірае мой бацька, ён зусім стары і нямоглы, гэтая музыка яго пужае, мы яму колем абязбольныя, але ён прачынаецца кожныя пяць хвілінаў і пакутуе.

Мой сусед-гопнік толькі сказаў, што да адзінаццатай яшчэ паўгадзіны, і ён мае права слухаць музыку, і за ягонай сьпінай трое брытагаловых у падкасаных джынсах заківалі ды загаманілі, каб падтрымаць свайго.

– Па-чалавечы цябе прашу, – прамовіла суседка.

## 8

Я вырашыў сустрэцца з Тэрэзай, маёй старой сяброўкай, жанчынай цікавай і надзвычай нелягічнай, непасьлядоўнай і закаханай у аднаго чалавека, які яшчэ са школы пачаў яе падманваць і біць, але ніяк ня кідае, а ёй і добра.

Тэрэза сама ніколі яго не адпусьціць, але прыехаць да мяне на віно і сэкс яна здольная, гэта яе своеасаблівая помста каханаму. Яна нават неяк рабіла сэлфі са мною і адпраўляла яму, каб зайздросьціў, але ён нічога не адказваў. Дайшло нават да сэлфі з засмоктамі.

Я заўсёды чакаю, як вяртаюся дадому позна, што вось тут, на бліжэйшым павароце, мяне напаткае малаток у патыліцу ад пакрыўджаных мужчынаў.

Тэрэза пазваніла, папрасілася прыехаць. Ня бачыў яе месяц. Адказаў, каб ехала да мяне, ключы пакіну як звычайна ў паштовай скрыні, дзьверцы якой зламаныя, дамафон не працуе, а калі раптам працуе, код 4835, няхай заходзіць, а сам я – у краму, па віно і бастурму, буду праз гадзіну.

Вечар, чарга па мяса, адчайна хочацца як найхутчэй адкаркаваць віно, якое ляжыць у кошыку і самотна на мяне глядзіць.

– Мне, калі ласка, вось гэтую бастурму, нарэжце тонкімі слайсамі.

– Ой як шкада, а я сама так разьлічвала на гэты кавалак, – кажа мне прадавачка, – можа, палову возьмеце?

– Не.

– От жа… – кажа жанчына, якая стаіць у чарзе за мною, – я таксама разьлічвала на гэтую бастурму.

– Выбачайце, але я настроены забраць усю гэтую бастурму. Да віна ў мяне больш нічога дома няма.

– Гэта апошні кавалак, пашчасьціла вам.

– Ну хоць у чымсьці мне пашчасьціла.

У чаргу становяцца двое мужчынаў нападпітку, і на ўсю залю:

– А гэта што, больш бастурмы няма?

– Не, няма, забіраюць апошняе, – уздыхае жанчына за мною, пакуль прадавачка маўкліва даразае электрычным нажом маю ялавічыну.

Мінае доўгая, вельмі доўгая і пакутлівая хвіліна. На маіх плячах увесь цяжар такога ўчынку.

– Можна падумаць, сёньня ўвесь сьвет вырашыў купіць гэтую бастурму, – кажу я.

**7**

Я жыву ў новым двары, дамам ня больш за сем гадоў, паркавачных месцаў шмат, і, калі не шукаць месца пад сваім акном, а крыху ад’ехаць, – вольных месцаў яшчэ больш.

Летась адзін жыхар пачаў паркаваць новы мэрсэдэс А-клясы пад балконам, як мага бліжэй да сваёй кватэры.

З уладальнікам машыны спачатку культурна змагаліся, пакідалі на лабавым шкле папярэджаньні, каб паркаваўся паводле правілаў, але гэта не дапамагала. Пару разоў выклікалі ДАІ, машыну забіралі.

Дамагліся ад мясцовых уладаў паставіць дарожныя знакі, але мэрсэдэс паркаваўся, як хацеў і, галоўнае, як мага бліжэй да пад’езда, балкона, кватэры.

Потым аднойчы, калі машыны не было, месца пад балконам засеялі травою і пасадзілі елкі.

Сусед прыехаў увечары, вырваў елкі ды паставіў на іх месца машыну.

Ня ведаю, можа, ён лічыў, што мае асаблівы прывілей, бо набыў сабе мэрсэдэс, але ў некага сапраўды здалі нэрвы, бо ноччу, а трэцяй гадзіне, камэры ў двары зафіксавалі,

як мужчына ў чорнай байцы, падышоўшы да аўтамабіля (які тым разам стаяў чамусьці не на «сваім» месцы, а крыху далей, на газоне), дастаў бутэльку з бэнзінам, падпаліў тканіну, якая тырчэла з рыльца, і кінуў пад машыну.

Згарэў ня толькі мэрсэдэс, але яшчэ чатыры машыны, апошняя ўспыхнула, калі працавалі пажарныя, яны проста не пасьпелі згасіць полымя.

**4**

Аднойчы Амэрыка прынёс у школу маленькі жоўты дыктафон. Цэлы дзень ён запісваў гутаркі і шэпты, пакідаў жоўты плястыкавы прастакутнік у самых дзіўных месцах: настаўніцкая, прыбіральня, распранальня, пад партамі ў дзяўчат. Хлопцы, якія ведалі пра дыктафон, таксама ведалі і пра месца сустрэчаў праз кожны ўрок, дзе Амэрыка даваў праслухаць запісанае за гадзіну.

Чаго толькі яны ні чулі: і як абмяркоўваюць вучняў настаўнікі, і як хтосьці гадзіць і пукае ў прыбіральні, і як дзяўчаты шэптам адна адной распавядаюць свае сакрэты, прыгоды і думкі, але ўзорным Днём дыктафона стаў той, калі Амэрыка запісаў голас батанічкі, націснуў на колькі кнопак – і ўся кляса рагатала ад яе сьмешнага, скажонага, пісклявага віскату: «Грібы належаць да царства...» Гэта было сапраўды крута – настолькі, што ў аднаго з аднаклясьнікаў Амэрыкі паехаў дах, самым сапраўдным чынам зьехаў дах ад дыктафона, бо хлопец, звалі яго Саша, захацеў сабе гэтую прыладу настолькі моцна, што ня проста пачаў угаворваць замежнага хлопца даць, абмяняць, прадаць яму дыктафон, але прысягаць, што гатовы выканаць усё, што той захоча.

І Амэрыка захацеў. Ён сказаў Сашу, каб той на каленях папрасіў яго падарыць дыктафон. Укленчыўшы, на вялікім

перапынку паміж зьменамі, на першым паверсе, каля вахтарскай, дзе больш за ўсё школьнікаў і настаўнікаў.

І Саша пагадзіўся.

Абед. Вялікі перапынак. Стаіць дзесяціклясьнік на каленях, перад ім узвышаецца Амэрыка, усьміхаецца і трымае ў руках жоўты плястыкавы дыктафон з функцыямі зьмены тэмбру голасу і хуткасьці прамаўленьня.

«Дарагі Амэрыка, падары ці абмяняй мне гэты дыктафон, прашу цябе! – і Саша шморгае носам. – Мне ён патрэбны як самая галоўная рэч у жыцьці, я шалёна прагну мець гэтую рэч».

**6**

Адным волкім вечарам, калі мы ўсе стаялі на прыпынку й чакалі 313-га аўтобуса «Зялёны Бор – Лесапарк», аўтобус праехаў паўз нас, мінуўшы прыпынак. Мы падумалі, што гэта выпадковасьць, нехта высунуў здагадку, што прыпынак перанесьлі ці адмянілі праз тое, што аўтобус хуткасны.

Праз два дні гэта паўтарылася. Праз тыдзень зноў.

Аднойчы Печань пабачыў у абед, як 313-ты спыніўся на нашым прыпынку і забраў пасажыраў.

І нам усё стала зразумела!

Значыць, ва ўсім вінаваты той самы кіроўца, той злосны псэўдавыхавальнік!

Як мы на яго ўзлаваліся!

Хтосьці прапанаваў яго адлупцаваць, добра так скруціць, зьняць штаны й адлупцаваць, каб сорамна яму было ўсё жыцьцё.

Хтосьці высунуў ідэю пераапрануцца, трапіць у салон аўтобуса і закідаць яго дзярмом.

Хтосьці з нас нават прыдумаў адсачыць, дзе той жыве і разьнесьці нахуй кватэру.

Тым разам, калі сыпаліся прапановы, прыйшоў мой зорны час. Я параіў забрацца на наш пешаходны мост у парку і праз дзіркі ў мосьце насраць на аўтобус.

Спачатку ўсе рагаталі, як коні, а потым, калі адпусьціла зь першым сьмехам, усё палічылі гэта цікавай ідэяй.

Прапанову прынялі і пачалі ператвараць гэты гідкі плян у жыцьцё: дазналіся бліжэйшы працоўны дзень таго кіроўцы, каб на іншага не насраць, разьмеркавалі ролі, разьбіліся на пары.

Да самага вечара ніхто не хадзіў у прыбіральню, усе трывалі.

**3**

Я сяджу ў Вользіным пакоі на падлозе, у руцэ пляшка піва. Я разглядаю сьценкі старой аблупленай хрушчоўкі. Сьценкі пустыя, вызваленыя ад шафаў, сэрвантаў і кніжных паліцаў, і замест шпалераў заклееныя постэрамі не вядомых мне людзей. І постэры гэтыя, плякаты і партрэты спрэс зробленыя нейкім няўмелым савецкім фатографам.

– Гэта ўсё партрэты маіх любімых актораў беларускага тэатру, ёсьць фота яшчэ з савецкага часу. Ну, проста мой бацька быў актaрам, прынамсі так мне казала маці, – кажа Вольга, заўважаючы, як я кручу галавою.

Вольга набліжаецца да мяне. Зьнізу яна здаецца высокай, стромкай і нават вытанчанай, і трохі засмучанай. Яна спыняецца за паўкроку і пачынае няўклюдна, але пацешна рухацца, нібыта танчыць, спрабуючы рабіць гэта эратычна. Я заўважаю ў яе левай руцэ пульт, якім яна ўключае музычны цэнтар, і адтуль пачынае гугнява і стомлена сьпяваць

свае незразумелыя сюррэалістычныя песьні Барыс Грабеншчыкоў.

Вольга: кароткая кучаравая фрызура, ямачкі на шчочках, танчыць і прываблівае яна зусім ня ўмее. Але лёгка купляе мяне сваёй дзіцячай, німфэтачнай наіўнасьцю.

Вольга: тонкая хлапечая фігурка і доўгія кіпцюрыкі. Яна спачатку пужаецца таго, наколькі хутка апынулася на ложку, распранутая. Яна спрабуе рукамі мяне адштурхнуць, але ад пачатку выбрала памылковы спосаб супраціву гвалту, бо пакуль яна засяродзілася на тым, каб адхіліць маю галаву, рукі і плечы, я ўжо пасьпеў рэзка і балюча ўвайсьці.

Мае рухі паскараюцца. Нішто так ня ўзрушвае, як супрацьстаяньне.

Вольга супакойваецца, і я адчуваю, як яна стогне са мною ва ўнісон, і яе сьцёгны рухаюцца ў аднолькавым тэмпе са мною. Яна макаўкаю ўдараецца аб драўляны бок ложка, і я вызваляю правую руку і абхопліваю яе галаву, каб ёй было не балюча штораз дакранацца галавою.

Хвіліны, і мы зь ёй ужо ляжым і глядзім у столь. Яна запальвае, маўчыць. БГ скуголіць новую песьню. Хто прыдумаў, што «Акварыюм» і Грабеншчыкоў – гэта космас? Звычайны расейскі рокавы абсурд, ні аб чым.

Празь пятнаццаць хвілінаў я сыду па валізу на вакзал, але насамрэч проста зьнікну ў невядомым кірунку, каб гэтай худой кучарашкі больш ніколі ня ўбачыць.

**2**

Калі ў мяне прарэзаліся зубы, я ўсё яшчэ працягваў смактаць грудзі, пакусваючы смочкі. Мне гэта было неабходна, пра гэта паведамлялі цэнтры задавальненьня, пра гэта распавядаў салют у вачох. Я нічога ня еў, акрамя

малака маці, і настолькі да гэтага прызвычаіўся, што потым, калі застаўся пакінуты на бабку, я вечарамі завітваў у хлеў і смактаў вымя каровы Машкі.

Малако было цёплае, тлустае, і несла ня толькі смак і салют у вачох, але і адчуваньне, што ўсе цягліцы майго цела напружваюцца, пачынаюць выпускаць салодкі прыемны сок па скуры, і ты, як істота, што здольная назіраць сябе звонку, робісься бязважкі і расьцякаесься цёплым малочным сочывам па падлозе.

Гэтае далучэньне да сакральнай першакрыніцы жыцьця адбівалася на маім выглядзе, валасы працягвалі бялець, пакуль зусім не зрабіліся малочнага колеру.

Бабка аднойчы заўважыла, што я вечарамі затрымліваюся ў хляве, і, падлавіўшы момант, адлупцавала, спачатку папругаю, а калі тая выскачыла з рук, біла цяжкімі далонямі па сьпіне, галаве, дупе, куды трапляла.

У той момант мне было не да ружова-пэрсікавага сочыва, мяне падлавілі, я адчуваў боль, душэўны боль.

Я мушу стаць няўлоўным драпежнікам, каб ніколі больш не адчуць таго болю.

**5**

Я спыніў машыну, уключыў жоўтыя габарыты. Мозг не адразу ўсьвядоміў, што салён аўто наскрозь прапахнуў перагарам, а сам я не пасьпеў працьверазець, і калі апушчу вакенца, на даішніка проста вывергнецца плынь алькагольных пароў, таму я са спазьненьнем, але ўсё-ткі зразумеў, што калі я выйду з машыны, сьвежае паветра разьвее вакол мяне гэтае ambré.

Я пэўна занадта жвава выскачыў з машыны з дакумэнтамі і правамі кіроўцы, як каўбой, што выклікае

на перастрэлку, таму сяржант трохі напружыўся, калі да мяне падыходзіў. Ён прадставіўся і папрасіў мяне прайсьці ў машыну ДАІ.

Сэкунда, і я ўжо, нібы валацужны сабака, пацягнуў ногі, прадчуваючы непазьбежнае разьвітаньне з правамі, ці, што яшчэ горш, – з машынаю. Пахмельле не давала засяродзіцца на праблеме, настрой скокаў, сэрца гучна грукала.

Адчыніўшы пярэднія пасажырскія дзьверы машыны, я сеў побач зь іншым даішнікам, які быў за стырном, ён адразу мяне папярэдзіў, што ідзе запіс, і што яго супрацоўнік на заднім фатэлі праверыць дакумэнты.

Я, не азіраючыся і спрабуючы як мага радзей дыхаць нават праз нос, перадаў усе дакумэнты.

Даішнік за стырном выйшаў з машыны – такі сабе вучань Хрыста, лавец душаў з паласатай палачкай, – і як толькі дзверы за ім зачыніліся, я пачуў за сьпінай:

– Ну, табе толькі ў казыно сёньня і ехаць, з такой удачай.

– Што? – я не зразумеў адразу.

– Я кажу, віншую цябе, алкаш ты недарэзаны, пашчасьціла табе. Сёньня я патрулюю твой раён замест іншай каманды.

– Бляха, ты?

– А то, давай, пасядзі тут яшчэ хвіліну, камэру я даўно выключыў… Пасядзіш, потым выходзь з дакумэнтамі й піздуй адсюль на ўсе чатыры бакі.

– Сёньня надзвычайны дзень, абавязкова пайду гуляць у покер!

– Як сам?

– Усё добра, нармальна, дзякуй.

– Ну то добра.

– Сам як? Як там твае?
– Норм.
– Ну ок.
– Усё, давай, выходзь. Рук не паціскаем.
– Давай.

**7**

Сусед сказаў, што можна міліцыю выклікаць, ён мае права да дзесяці хоць з прастытуткамі ябацца, і яны будуць віскатаць як рэзаныя, і замкнуў дзьверы.

Тады я счакаў, калі суседка сыдзе, выйшаў у тамбур і пагрукаўся ў дзьверы.

Мы спакойна пагутарылі, ён крыху працьверазеў, хоць спачатку я адчуў ад яго нейкі сьмяротны подых.

Я яму распавёў пра сваю маці, калі яна таксама была ляжала ў ложку, і што калі гучыць нейкае музычнае лайно гэтак, што ажно шкло ў вокнах дрыжыць, гэта зусім кепска для пачуваньня ня толькі хворага, але і ягоных блізкіх, і што ён, вядома, цяпер малады і моцны, але ўсё мінае, і мы ня вечныя.

Шмат чаго яму нагаварыў, і пра космас, і сэнс існаваньня, і пакуль яму распавядаў, думаў, што альбо ён мяне ня слухае і застаецца далёка, моўчкі невядома чаму трываючы мяне і маю лекцыю, альбо я сваёй казаньню натхніў яшчэ адну згубленую душу і накіраваў да сьвятла.

Сусед зрабіў музыку цішэй, ня выключыў. Музыку было ўсё адно чуваць, але ня так гучна. Магчыма, чалавек ён для сваіх і не зусім лайно, але кожны з нас можа на хвіліну апынуцца на месцы Хрыста, і цяпер Хрыстом ёсьць той самы стары, які паверхам вышэй памірае над

оргіяй і скрухай, злом і нянавісьцю, каб выратаваць гэтага гопніка.

Раённае, побытавае ахвярапрынашэньне, што будзе асэнсаванае пазьней, калі надыдзе час.

**8**

Я забіраю накроеную бастурму.

Іду на касу.

На касе выкладаю на стужку віно, хлеб і вэнджанае мяса.

Думаю, як распавяду сьмешную гісторыю пра свой паход у краму Тэрэзе, тут тавар даяжджае да касіркі, і яна пачынае абсалютна абыякава праводзіць штрыхкоды трох пляшак сухога белага, пакуль да яе не трапляе пакет зь ялавічынай:

– А вы ўсю бастурму забралі?

– Так. А што?

– Шкада. Я яе так люблю! Яна для мяне, як чыпсы ўвечары перад тэлевізарам. Бывае, сяду, і так увесь пакет і зьем.

– Вы сёньня яе не купілі б. На гэты кавалак мяса была ўжо чарга. Сёньня проста вечар бастурмы.

– Пашчасьціла вам.

– Ну, калі хочаце, адкладу вам тут пару кавалачкаў.

– Ой не, ня трэба, дзякуй!

Я расплочваюся і сыходжу. Дарогаю іду і ўсьміхаюся, нібыта скарб прыдбаў.

Заходжу ў пад’езд, адмыкаю дзьверы, і разумею, што Тэрэза не прыехала, напэўна, пасварылася са сваім.

Будзе самотны вечар з сухім белым і ганарова адваяванай бастурмой.

**9**

«Галоўная твая мэта, сябра? Ты хочаш данесьці інфармацыю, навучыць, захаваць гісторыю, панастальгаваць? Ці галоўнае тут сам працэс стварэньня?»

«Я б сказаў, што для мяне галоўнае – ператварэньне звычайнага сюжэту ў мастацтва. Можа, гэта будзе трансфармацыя, а можа, рэальнасьць наўпрост памяняецца месцамі зь літаратурнымі героямі, з маёй групай першых чытачоў, і гэта стане пэрформансам, які будзе па-рознаму паўтарацца з папраўкай на гермэнэўтычны падыход кожнага чытача, бо калі ты ўзяў у руку кнігу і прачытаў назву, ты ўжо робісься суаўтарам. Так і тут, мае сябры, чытачы, рэдактары пачынаюць выконваць ролю аўтараў, каб канчаткова дапісаць кнігу. І тут і цяпер галоўныя ня кніга і не дыялёгі зь іншымі, тут важна зрабіць падмену мастацкага тэксту і рэальнай гісторыі, каб немагчыма было знайсьці пачатку і канца, і тады з гэтага можа атрымацца ўнівэрсальная гісторыя асобна ўзятага адрэзку часу, эпохі, субкультуры».

**1**

Трэці раз у кавярні «Рукі Мадонны» я вырашыў, што буду абедаць як нармальны, адэкватны чалавек.

Паабедаў, нават пазьней удалося напісаць некалькі старонак. Пачаў пазяхаць. Адчуў, што трэба замовіць кавы.

І тут мяне нечакана знайшла мая старая сяброўка, ну як знайшла – вядома, праз маю любоў пра ўсё на сьвеце паўсюль пісаць, і асабліва пра новыя, адкрытыя мною месцы, дзе можна ня толькі паесьці, але і выпіць.

З дарагой сяброўкай мы зь сярэдніх клясаў прайшлі праз мноства жыцьцёвых перамогаў і паразаў: браліся шлюбам, разводзіліся, сьпіваліся і цьверазелі, мянялі

адукацыйныя ўстановы і працу, сьветапогляды і нават рэлігію і гастранамічныя густы, але заўсёды знаходзілі час, каб не забывацца на нашае сяброўства.

Яна прыехала да мяне ў гэтую кавярню, села насупраць, сумная, вочы апухлыя. Я падумаў, што ніколі зь ёй ня спаў. Дзіўна, чаму ніколі ня спаў? Дзіўна, чаму пра гэта падумаў, можа яе сумныя вочы расчулілі маё сэрца?

– Штосьці здарылася? – я запытаўся першы.

– Так, дарагі мой, у мяне рак.

– Бля.

Дарагая мая сяброўка за пяць гадоў пахавала маці, бабулю і цётку, і цяпер сама ў свае трыццаць з хвосьцікам, безь дзяцей і мужа, сядзіць перада мною, з празрыстымі вачыма, і кажа, што ў яе знайшлі рак.

У гэты вечар мы напіліся да бяспамяцтва, і нас трывалі толькі рукі Мадонны, малітвамі мы былі яшчэ жывыя.

Мая дарагая сяброўка ніколі не піла, ніколі ў жыцьці не піла да гэтага вечара.

Яе ванітавала, і яна праклінала ўвесь белы і чорны сьвет, і выбачалася, і плакала, і прасіла Бога і Д’ябла, і ўзгадвала нас у дзяцінстве, і казала, што ўсё мне прабачыла, нават тое, што я ніколі не хацеў зь ёй спаць.

**7**

Я люблю беларускія скасабочаныя, запэцканыя, зьдзічэлыя ўтульныя двары за непрадказальнасьць і суцэльную скрушнасьць. Калі не раённы кантынгент, то абавязкова расколатыя дамы прымушаюць вусьцішна азірацца і пытацца «Дзе я?», альбо: «Чаму менавіта я?».

Тыдзень таму я выйшаў з пад’езду. За мною замкнуліся з характэрным мэталёвым гукам дзьверы, закурыў.

Вечар. Сёньня цёпла, амаль па-летняму. На дзіцячай пляцоўцы сядзяць падлеткі ды жлукцяць з пляшак слабаалькагольнае, абавязкова адзін зь іх захаркае вакол сябе ўсю лаўку...

Я вырашыў ня думаць пра малых і накіраваўся да прыпынку.

Вось дом скончыўся, і я раптам заўважаю мінівэн, фольксваген, шэры – і сапраўды, я на яго ніколі б не зьвярнуў увагі, каб не лягатып на баку, невялікі, але вядомы амаль кожнаму.

На машыне напісана «Brazzers».

Разумееце.

У маім расцудоўнейшым дворыку стаіць аўтамабіль, які належыць найбуйнейшай амэрыканскай парнастудыі.

Я спыніўся... стаю, азіраюся навокал, прыслухоўваюся.

У галаве зьяўляецца думка, што вось цяпер у нечай кватэры здымаюць порна з такімі жаданымі і памаранчавымі ўсходнеславянскімі бляндынкамі. Яны там усе смокчуць і ліжуць, піхаюць і прасоўваюць, нацягваюць і лашчацца.

Прыгажосьць! Тут і цяпер адбываецца салодкае, і ня вельмі, пранікненьне, уваткненьне і вывяржэньне, мне нават падалося, што я пачуў гукі, вунь там, зь пятага паверху, з адчыненай форткі.

**4**

Амэрыка яшчэ шырэй усьміхаецца і аддае дыктафон хлопцу, які на вачах школы апусьціў сябе і свой гонар ніжэй за мармуровую падлогу першага паверху.

Мінуў год. Час ісьці ў адзінаццатую клясу.

За лета шмат чаго зьмянілася, і Амэрыку я цяпер мог бачыць і назіраць не здалёк, але ў агульных кампаніях падлеткаў-альтэрнатыўнікаў.

Нашым любімым месцам сачкаваньня ўрокаў, курэньня і выпіваньня была вэранда суседняга закінутага дзіцячага садка.

Вэранда была размаляваная клясычным наборам словаў: анархія, сука, хуй, бабы, дынама, панкі не памерлі ды іншым. Але нашая адрозьнівалася ад рэшты вэрандаў на плянэце тым, што мела вялікі надпіс балёнчыкам з чорнай фарбай: «АМЭРЫКА ЎБЛЮДАК». Гэтак мы нашае месца і называлі – ублюдак.

«Сустрэнемся на ўблюдку», «Пабачымся каля ўблюдка», «Я табе разаб’ю твар на ўблюдку»...

Амэрыка, да таго як зрабіцца «ўблюдкам», быў на той час ці ня самым крутым пацаном, што аціраліся на раёне і вэрандзе.

**6**

Час Ч. надышоў а сёмай вечара. Калі цені сталі доўгімі, і апалая восеньская лістота набыла шэры колер, я, Печань, Верабей і Нэрв, зьняўшы штаны й майткі, сядзелі кожны над сваёй дзіркай. Праз колькі сэкундаў у наш бок мусіў рухацца трыста трынаццаты аўтобус, згодна з раскладам ён толькі што ад’ехаў ад прыпынку і праз адзін паварот апынецца пад мостам.

А вось і ён, родненькі!

Дзесяць, дзевяць, восем, сем, шэсьць, пяць, чатыры, тры, два, АДЗІН! Давай!

Я закрычаў, і ўсе мы пачалі выціскаць зь сябе доўгачаканыя каўбасы. Першым выпаражніў кішэчнік Верабей, і ягонае лайно трапіла на лабавое шкло аўтобуса, за ім праз сэкунду Нэрв – трапіўшы на дах. Печань, неверагодна сьмярдзючым струменем, падобным да аўсянай кашы,

трапіў на прыадчынены люк аўтобуса, я дадаў прыгажосьці па заднім шкле.

Адразу пасьля таго, як лайно пачало бамбаваць аўтобус, мы пачулі віскат тармазоў, скрыгат, крыкі, лаянку.

Мы былі задаволеныя тым, як ладна спрацавалі разам, падцягнулі майткі й джынсы ды з крыкамі і рогатам кінуліся ў змрочныя цені ляснога парку, толькі нас і бачылі.

З таго вечара мы больш не хадзілі па маршруце трыста трынаццатага, і не траплялі на вочы злому кіроўцу.

Мы сталі героямі ў сваім раёне, казалі, што мы ладна правучылі злоснага мужыка, суседзкія бабкі толькі рукамі разводзілі ад такой навіны. А пакуль усе абмяркоўвалі прыгоду і дзяліліся навінамі, як там кіроўца, хто быў з пасажыраў, ці адмылі аўтобус, міліцыянты шукалі нас у парках і завулках, у пад'ездах і на дахах, а мы пасьпяшаліся знайсьці новае месца для вечаровых тусовак, і гэтае месца зрабілася чароўным, і да таго ж блізкім да цэнтру гораду.

**3**

Прабадзяўшыся з тыдзень у раёне Нямігі, у існасьці, згвалціўшы дзяўчыну і драпануўшы з кватэры, я начыў, дзе атрымлівалася: вакзал, пад дахам, у пад'ездах.

Сьвета і Маша самі мяне знайшлі, пасьля таго, як я трэці дзень запар наведваў адну піцэрыю. Дакладней, я заходзіў у суседнія ад піцэрыі дзьверы, у танны бар, па гарэлку і бутэрброд з салам і цыбуляй. А ў піцэрыі карыстаўся сарцірам і барнай стойкай – кульнуць пяцьдзясят дарагога брэндзі. Дзяўчаты штовечар бавілі час у вялікай кампаніі парваных і перакроеных гранжаў, якія звычайна скідваліся на пару флянаў, колу і – о шык і шок – кожнаму бутэрброд зь селядцом. Але да барнай стойкі ў піцэрыю дзяўчаты

таксама падыходзілі, каб выпіць кактэйль, абвесьці навакольных эратычным позіркам і, можа, каго вычапіць з грашыма, ведаю я такія позіркі, добра ведаю.

Дзяўчаты, ужо добра нападпітку, падышлі да мяне за барную стойку.

– Добры вечар.

– Добры?!

– І што гэта малады чалавек тут самотны трэці дзень сядзіць?

– Ды так, пляную, чым заняцца.

– А можа быць, мы заплянуем самі, чым заняцца маладому чалавеку?

– Я ня супраць. Мне абыякава. Я кепскі чалавек.

– Можна падумаць, мы тут спусьціліся зь нябёсаў, хер ты патлаты, – і яны весела зарагаталі, не зусім так, як мне магло б спадабацца, але, як я і сказаў, мне было абыякава.

**2**

Першы раз штосьці калматае паміж ног я ўбачыў пад сталом, дзе коўзаўся ў брудных паўзунках, гуляўся з коткаю і маленькім чырвоным гумовым мячыкам. Я пабачыў ногі сваёй бабулі, якія былі шырока расстаўленыя, і адтуль, з-пад спадніцы, выглядаў куст валасоў, я наблізіўся да куста, панюхаў яго, ён пах рыбаю і потам, гэты пах прымусіў мяне адвярнуцца, і ня проста адвярнуцца, страціць прытомнасьць, бо мінула колькі часу, і я расплюшчваю вочы, і навокал нікога не знаходжу, абедзенны стол усе пакінулі.

Мая бабка, як высьветлілася, ніколі не насіла споднягa, яна як нарадзілася аголеная, гэтак толькі сукенку й надзявала, і хустку, а ўзімку наверх кажух.

Я пачаў назіраць за бабкаю, і яшчэ больш высьветліў: вось яна позна ўвечары сядала на вядро, і праз сэкунду чуваць, як струмень вады грукае па блясе, быццам дождж, потым пук, а потым плясь, і бабка ўстае зь вядра й апускае спадніцу, разносячы вакол сябе нясмачны пах.

Гэта выглядала прыватна, інтымна, для мяне пасьля піцьця з грудзей і вымя пахі з прамежнасьцяў былі новыя, і цікавілі ня менш за ўсё астатняе, што можа цікавіць малога драпежніка, ахвочага, ня ведаючы чаго яшчэ ў жыцьці.

**5**

Мы тады вельмі добра пасядзелі. Клясычна. Кіра хацела, каб усё было, як раней, як звычайна мы сустракаліся. Каб было толькі віно, і нічога больш. І цыгарэты, вядома. Яна за шмат гадоў жыцьця ў Эўропе перарасла ў вэгетарыянку, але ад добрага віна і тытуню не адмовілася.

Я заехаў дарогаю з працы па чатыры пляшкі віна. Зьбіраўся спачатку набыць дзьве, а пакуль ехаў, зразумеў, што кожны раз нам не хапае яшчэ бутэлькі, і заўсёды нехта вымушаны ісьці па пляшку.

Калі быў ужо перад шэрагамі з напоямі, спакусіўся ўзяць на ўсялякі выпадак яшчэ больш.

Такім чынам, у мяне на пярэднім пасажырскім фатэлі дзынкалі адна аб адну чатыры бутэлькі белага сухога віна, і целяпаліся два пакункі смачнага тытуню для самакрутак.

З Кірай мы ня бачыліся тры гады.

Кіра запрасіла на сустрэчу яшчэ і іншых сяброў.

Я ехаў, нават не ўсьведамляючы, што еду ці не на самую буйную п’янку ў годзе.

Сярэдзіна тыдня, як для чалавека, што спрабуе быць працавітым анёлам, – не найлепшы час выпіваць.

Машына ўвечары застанецца там, дзе мы пачнем піць, – гэта аксіёма, гэта правіла здаровага чалавека, ягоны слушны выбар.

Гэта ўжо раніцай мае праблемы – сядаць за стырно ці не, і гэта мая праблема, што рабіць зь перагарам, а можа быць і ап'яненьнем, якое нікуды не падзенецца.

Кіра папярэдзіла, бо добра мяне ведае: «Раніцай таксі. Таксі раніцай. Табе патрэбнае будзе раніцай таксі!»

**7**

Мінуў тыдзень.

Нам з суседам пазванілі ў дзьверы, гэта была доктарка, якая папрасіла дапамагчы вынесьці цела мужчыны ў машыну хуткай дапамогі, але пра кватэру і паверх не сказала, і мы з суседам накіраваліся за ёю і апынуліся ў той самай кватэры суседкі, якая гэтак прасіла цішыні, зь яе зусім старым і хворым бацькам. У пакоі было страшэнна цяжка глядзець на хворага… Суседка плакала.

Мы дапамаглі пакласьці цела на мяккія насілкі. Старога накрылі пледам, у ягоных выцьвілых блакітных вачах чыталіся толькі жах і неразуменьне.

Сусед узяўся за пераноску каля галавы, а я трымаў ногі, і гэтак мы спускалі дзеда па сходах.

Я паглядаў на суседа, стараўся зразумець ягоныя пачуцьці. Ён быў чырвоны, глядзеў долу. Я адчуваў, як яму было ня проста несьці цела мужчыны, скроні ягоныя пульсавалі, было відавочна, што гэта пульсуюць думкі.

Ці гэта былі думкі адчаю і няёмкасьці за свой грэбаны дваровы гангста-рэп, накручаны да максымуму і пад сабвуфэрнымі басамі? Альбо ён думаў пра тое, што не пасьпеў

дапаліць цыгарэту, калі яго адцягнулі ад справы званком у дзьверы? Невядома.

**8**

Быў я ў гасьцях у гэтай Тэрэзы. Быў там. Сапраўды быў і застаюся сьведкам той маніякальнай чысьціні, якую яна наводзіць кожны дзень.

Гэта страшна і жудасна.

Гэтыя стэрыльнасьць, аскетычны бляск і адсутнасьць іншых формаў жыцьця выклікаюць жаданьне закрычаць у гістэрыцы і пачаць плявацца, каб забрудзіць памяшканьне.

Тэрэза хадзіла да мазгаправаў, ёй выпісвалі антыдэпрэсанты і разводзілі рукамі… з гэтым застаецца толькі жыць.

Яна гугліла пра сваю хваробу і глядзела перадачы пра тое, як людзі з абсэсіўна-кампульсіўным сындромам прыходзяць да брудных людзей і дапамагаюць адмыць кватэру, дом, сарцір і кухню.

Яна сьцерла пальцы ўшчэнт, пазногці раскісьлі ад хімічных вадкасьцяў для ачысткі прыбіральні ды кухонных паверхняў.

Тэрэза дзесяць разоў працірае падлогу, ніводныя пальчаткі не вытрымліваюць яе імпэту, ніводны плінтус яшчэ не пражыў тут больш за месяц. Усё трэба выцерці, усё трэба адмыць і абавязкова працерці вадкасьцю ад мікробаў.

А потым гэты датчык, люмінамэтар, які паказвае колькасьць бактэрыяў на квадратны сантымэтар, а потым гэтая фіялетавая лямпа, люксмэтар, якой яна праводзіць па сьценках і шукае плямы, якіх так проста не відаць.

Тэрэза ня можа ня мыць, яна ня здольная жыць па-іншаму, і ёй цяжка так жыць.

Калі Тэрэза дома – яна мые і шкрабе. Калі Тэрэзы няма дома, яна часта ўспамінае, як штосьці не дамыла.

Муж Тэрэзы даўно прапаноўваў аплачваць клінінгавыя паслугі, каб яе не напружвала, але сам ён ніколі, нікому і ні ў якім разе не даверыць памыць сваёй машыны, бо толькі ён ведае, як слушна яе мыць, каб не падрапаць, і моцна перажывае, як прапускае хаця б адзін дзень з жыцьця, калі не пасьпявае ўранку дбайна адпаліраваць свой «ікспяты».

Калі Тэрэза прыяжджае да мяне ў госьці, яна робіцца абыякавая да ўсяго навокал, яна не прыкмячае ня толькі майго бруднага посуду і падлогі, але часам кажа, што ёй нават даспадобы, што я такі брудны мужчына, і пасьля сэксу просіць мяне ня мыцца, заставацца потным і прапахлым.

**7**

У новым раёне я для сябе адкрыў новую катэгорыю людзей – «былы мент».

Так, я ведаю, што існуюць міліцыя, паліцыя, інспэктары, афіцэры, генэралы і палкоўнікі – гонар і ўзор чалавечай якасьці, але ў маім доме пасяліўся самы сапраўдны «былы мент». І гэта страшны мужык. І яшчэ не вядома, хто страшнейшы: ён ці ягоная «жонка мянта», бо ён былы, але ж яна сьвята верыць, што так проста былой ня зробіцца.

Першае, што зрабіў «былы мент», калі пасяліўся, – пад сваімі вокнамі на першым паверсе паставіў агароджу з прэнтаў, такую ўкраінскую агароджу.

Усё б нічога, але з аднаго боку пруты заканчваюцца старым зьмеявіком з ваннага пакою, а далей ужо – абстрактнае мастацтва. Прэнты перакрыжоўваюцца са старой фанэрай, нейкімі тэчкамі і заканчваюцца вузламі з дроту.

Потым за агароджай «жонка мянта» пасадзіла кусты невядомага паходжаньня… потым паставіла стол… стары стол для часопісаў, на нізкіх ножках. Вакол пачалі прарастаць кветкі.

Празь месяц усе заўважылі, што сярод гэтага натурморту зьявіўся вялікі памаранчавы плюшавы тыгр, з адарваным вокам, акурат на часопісным стале.

І панеслася. Як страшная хвароба, пачалі множыцца цацкі: квяцісты плюшавы заяц, на стале вялізны стары леў побач з тыграм, па бакох агароджы, нібы вартавыя, – плюшавыя мядзьведзікі, прывязаныя за шыю і лапы, каб ніхто ня скраў. Плюшавы чабурашка, жоўты папугай і тузін лялек з вачыма і без – пакладзеныя дзе хто паклаўся.

Ісьці ўначы праз гэта вельмі страшна – цені прывідаў, ісьці ўдзень – яшчэ жудасьней, бо на цябе глядзіць столькі сумных і вар’яцкіх вачэй ватных напаўгнілых анучных жывёлінак, што зьяўляецца адчуваньне сатанінскага культу, у якім удзельнічаеш мімаволі, пакуль іх мінаеш.

Але самы жах – гэта праходзіць тут са сваім сабакам, бо «былы мент» заўжды назірае за мінакамі з пакою, ягоны сылюэт угадваецца звонку, а «жонка мянта» сочыць за дзецьмі на пляцоўцы і за мінакамі з сабакамі, з кухні.

Ты праходзіш, а гэты мужык высоўвае твар з адчыненага вакна і пачынае раўсьці:

– Ты, казёл, сабаку забрал атсюда! Слыш! Сабаку забрал, срот ана тут вездзе! Тут дзеці гуляют!

А ягоная бабішча ў гэты час здымае ўсё на пляншэт і раве, што ў суд пойдзе, сабака ж дакладна без рэгістрацыі!

Тут на крыкі зьбягаюцца дзеці ды пачынаюць бараніць нас з сабакам, і крычаць на старых, што ім ніхто не замінае, і сабаку яны любяць, і какахі гаспадар вунь зьбірае ў пакунак, і ўвогуле, не чапайце тут нікога. Злыя вы.

Калі цябе, дарослага, абараняюць дваровыя дзеці, – хутка расчульваесься і ўзмацняесься, абуджаюцца звышуласьцівасьці, такія, як сумленьне і гонар, а маючы звышсілы, можна праходзіць праз сатанінскі баль моўчкі, з высока ўзьнятай галавой.

Учора «жонка мянта» з акна падкормлівала кацянятак, пецярых, шэрых, маленькіх. А сёньня кацянятак ніхто ўжо ня бачыў. Дзеці знайшлі адно кацянё памерлым, вось тут, каля гнілога чабурашкі.

І ўсе ў двары кажуць: «Ну што паробіш… Можа, і атруцілі іх… Былы мент жа… Мазгі зусім прасралі!»

**4**

Амэрыка быў знакамітасьцю ня толькі таму, што жыў за акіянам (дый тое дзякуючы бацькам, якія працавалі ў спартовым камітэце), ён яшчэ мог выпаліць адразу пачак за трыццаць хвілінаў. Праўда, аднойчы ён страціў прытомнасьць падчас курэньня, але пра гэта ніхто ня згадваў. Круцей за Амэрыку быў толькі Тушкан – пацан, які мог выпіць нагбом бутэльку гарэлкі.

Усё было ў нас як мае быць, пакуль Амэрыка не пайшоў у сэкцыю таэквандо.

Амэрыка наведаў тры заняткі і больш не хадзіў, бо заўважыў, што рукі, ногі, тулава ў яго ўжо пастаўленыя. І каб даказаць гэта, ён пачаў выёбвацца.

Сабраліся ўвечары ўсе на вэрандзе, п’ем піва, прыйдзе Амэрыка, і як ёбне каго бліжэйшага з нагі пад дыхала, альбо зь левай у вуха каму-небудзь. Такія нечаканасьці, мякка кажучы, не камільфо ў дваровых кампаніях, але ж хто будзе пярэчыць таэквандысту, які гэтак ладна і прафэсійна б’е з нагі.

Амэрыка ачмурэў ад сваіх закідонаў, і спыніць яго было ўжо немагчыма. Пацаны трывалі.

**1**

Мяне пачалі адшукваць у рэстабары «Рукі Мадонны» ўсе, каму не лянота заліпаць у сацсетках, праз гэтыя ўсёмагутныя інстаграм і фэйсбук, праз гэты гугл-маці-яго-мэпс.

Немагчыма проста заставацца непрыкметным столькі часу, колькі табе трэба. Няма гэтага больш, як раней, скажу я вам, як стары дзяцел, калі тэлефон быў толькі хатні і ты мог сказаць, што цябе няма дома, – і быць дома, і адпачываць.

Заходзіш у бар – цябе адразу тэлефон і лэптоп просяць ацаніць месца, якое наведаў.

Ацаніць, зачэкініцца, блін, заняць гэтую кропку, ня проста на зямной кулі, але вось за гэтым сталом каля акна з парковачным даляглядам, застаўленым машынамі, паставіць зоркі ад адной да пяці, пакінуць камэнтар, пазначыць гэштэгамі.

Аднойчы я памыліўся, разьняволіўся і сапраўды паставіў выдатна «Рукам М.» у нечым кшталту рэстарацыйнага прыкладаньня, і цяпер што於разу, калі я тут, я атрымліваю паведамленьне, што магу дзяліцца сваімі эмоцыямі наконт усяго ў сьвеце: ежы, пітва, наведнікаў, абслугоўваньня, атмасфэры, утульнасьці асьвятленьня, а інакш, можа, мне цішком наплююць у каву і ўіскі, або пакінуць кавалак лайна ў катлеце.

Я ня ведаю дакладна, але я натура далікатная, і маё ўяўленьне часта перабольшвае, і я нават адчуў гэты пах лайна, і ўбачыў на ўласныя вочы колер пляўка, празрысты такі, але зь лёгкім бутэлечным адценьнем.

У «Руках» мяне адшукаў адзін мастак, знаёмы хлопец, які меў цікавую авантурную прапанову, што магла скончыцца або хуліганскім скандалам, або палітычным, і я выплыў са свайго тэлефона, і зразумеў, што ў гэтым рэстабары за хвіліну накруціў сябе да параноідальных сэпляў і экскрэмэнтаў, і шчыра заўсьміхаўся, падмануўшы мастака, які цягнуў руку для вітаньня, палічыўшы, што я ўсьміхаюся яму.

– А я вас лёгка знайшоў!

– Ня ўразілі, шаноўны.

**6**

Стадыён «Дынама», той самы знакаміты футбольны стадыён, быў для нас ня толькі месцам заўзятарства, боек і гандлёвых пунктаў з адзеньнем, дзе быў шапік для панкаў і мэталістаў. Для нас «Дынама» стаўся яшчэ й штабам, пасьля таго, як мы, абасраўшы аўтобус, вымушаныя былі часова зьнікнуць са свайго раёну.

Чатыры асвятляльныя гмахі навокал футбольнага поля аказаліся самым сапраўдным Месцам, прытулкам для нашай кампаніі. Нашымі Цёмнымі Вежамі.

На верхатурах, за тысячаватавымі лямпамі, мы пілі, цалаваліся з нашымі дзяўчатамі й спалі, бавілі найлепшыя свае панкаўскія гады.

Мэталёвая канструкцыя лямпаў настолькі пасавала нашаму ўяўленьню аб Тым Самым Месцы, што Печань нават прынёс на адну зь іх некалькі чорных пледаў, стары магнітафон з батарэйкамі й попельніцу.

Усё ў нас было файна, ахоўнікі нас не чапалі, ці ня бачылі, электрык наведваўся рэдка, правяраў перад матчам лямпы, і калі трапляў на нас, піў за нашае здароўе

дармовае піва, дзякаваў і зьнікаў, папярэдне запэўніўшы, што калі што якое, будзе даглядаць нашыя рэчы, бо пацаны мы харошыя, добрыя.

Нам было хораша, нам было цудоўна, нам было сьветла, нягледзячы ні на што.

**3**

Гэтак я пазнаёміўся зь дзьвюма дзяўчынамі і апынуўся ў кватэры Сьветы, якая адразу палезла на антрэсоль дастаць каньяк зь дзядулевай калекцыі (Сьвецін дзядуля – хірург, які ўсё жыцьцё атрымліваў ад пацыентаў бутэлькі дарагога алькаголю і сам ня піў, але зьбіраў да важных датаў: дзён нараджэньня, вясельля, пахаваньня).

Абедзьве дзяўчыны, Сьвета і яе сяброўка Маша, закінулі пільныя справы і захрасьлі са мною і артылерыяй антрэсольнага каньяку на трое сутак.

Мы не выходзілі з кватэры, дбайна выконваючы параду Бродзкага, ягоныя папярэджаньне і прапанову не пакідаць кватэры.

Каньяк быў для нас і вадою, і ракою, і хлебам.

Нейкае татальнае п’янства і блядзтва – я памятаю толькі, што абяцаў сабе шмат разоў, што калі застануся жывы і без вэнэрычных захворваньняў, абавязкова набуду крыжык на шыю і ахвярую шмат грошай, але, як пакажа бліжэйшая будучыня, крыжык мне гэтак і не спатрэбіцца, а вось грошы на лекі – то дакладна.

Гэтыя налітыя грудзі з шырокімі ружовымі смочкамі, засмокты, мінэты, скамечаныя набраклым языком клітары і пацалункі ў падпахі, адбіваліся ня толькі на маім целе, але адпячатваліся ў памяці і проста стаялі перад маімі вачыма як іконы.

Я вар’яцеў, я іх біў, душыў, пляваў і зьвязваў разам, дазваляў рабіць мне балюча нажамі ды абцасамі. Я рухаўся да свайго асабістага апагею.

Мы засталіся ў нашым пекле на тыдзень, шэсьць дзён мы пілі і трахаліся, а на сёмы – адпачывалі і татуявалі клятвы адно аднаму на целе, мы былі ахопленыя жарсьцю, распустаю і чакалі сэксуальнага апакаліпсісу.

Здавалася, гэтаму ня будзе канца, і мы хутка памрэм, патануўшы ў каньяку, спэрме і мачы, як зь лецішча на дзень раней вярнуліся бацькі Сьветы разам зь дзедам і бабуляю, і, на маё шчасьце, у момант, калі гэтыя праклятыя нязваныя госьці змагаліся з замком у дзьвярах, я, праз жудасны страх, выскачыў з балкона трэцяга паверху, падвярнуўшы нагу і абадраўшы рукі аб невядомы буйны куст.

Ацалелы, з нагавіцамі ў руках, я падняўся. І не адразу пачуў, як з балкона крычыць немым голасам нейкі мужчына. Нават не раве, а як дзікі зьвер скуголіць аб чымсьці незваротна страчаным.

**2**

З бабцяй жыць раскоша: на раніцу мачанка, бліны і шкваркі, на абед салата «гарошак», увечары хоць да сьмерці пад’ядай усё, што бачыш і хочаш, і запівай усё алычовым кампотам. Бабця – гэта ежа, але адной ежай шчасьлівы ня будзеш, хочацца яшчэ новых эмоцыяў, такога задавальненьня, якое не залежыць ад ежы.

Упершыню жаночыя грудзі я ўбачыў, вядома, у маці, але грудзі, якія мне запомніліся на ўсё жыцьцё, былі ў мае зялёныя шэсьць гадоў, калі маці прыехала на тыдзень з гораду, каб узяць мяне на Мора.

Сонца. Пясок. Менскае мора. Маці і я зь яе сябрамі. Маці прымушае зьняць плаўкі й голым швэндацца па пляжы, яна зусім ня ведае мяне, і напэўна забылася, што я ўжо зусім дарослы. Я адчуваю цьмяную няёмкасьць, якая са сталеньнем можа перарасьці ў псыхоз.

Перад вачыма два велізарныя гарбузы. Самыя сапраўдныя вялікія цыцкі, неверагодныя сіські, дойкі. Як заўгодна іх назавіце, і фэміністкі могуць мяне ўкрыжаваць, але ад такога відовішча і ў маленстве можна зьехаць з глузду, яно прыносіць кайф і асалоду толькі ад погляду. Геданізм чыстай вады паўстаў перада мною, і я ўжо быў згодны на ўсё, што скажа маці, абы адчапілася. Дзякуй табе, Божа, за маміну сяброўку!

Гэтыя грудзі так напружана ды імкліва вывальваліся з купальнага станіка, спрэс аточаныя ледзь бачнымі венамі й кропелькамі радзімак, яны клікалі ў свае прахалодныя пакоі, вабілі, запрашалі на спатканьне, прапаноўвалі высалапіць язык і як мага шчыльней прыціснуцца да смочак, аблізаць іх, пакусаць, абсмактаць.

Маці зьняла зь мяне майткі, і я кінуўся да вады, бо абсалютна дакладна адчуваў, што мне трэба схавацца, на хвіліну, ня болей, і адразу вяртацца гуляцца са сваімі машынкамі побач з гэтай Вэнэрай, кім бы яна ні даводзілася маці, хоць роднай сястрой, цёткай, сяброўкай, каханкай, мне трэба будзе абавязкова вярнуцца да гэтых прыўкрасных грудзей зноў, і зноў, і-з-н-о-ў, і так адвечна.

**5**

Каму патрэбна было раніцай таксі, я запамятаваў, а можа, і проста не хацеў успамінаць. Упартасьць, яна такая, сука яшчэ тая.

Прачнуўся, азірнуўся, пазнаў у пакамечаных тварах побач Кіру і свайго сябра, які спаў галавою пад пахай у маёй старой, як сьвет, сяброўкі.

Трэба ехаць. Ехаць трэба. Добра, што машына прыпаркаваная каля пад’езду. Прынамсі, я спадзяюся, што прыпаркаваная.

– Я б табе ня раіла ехаць машынай, вазьмі таксі, – кажа мне Кіра, расплюшчыўшы адно вока.

– Не, нармальна. Нармальны я. Вельмі нават нармальны.

– Вазьмі таксі, пашкадуеш потым, што ня ўзяў. У цябе маторыка парушаная, ты яшчэ п’яны.

– Я – нармальна. Нармальна. Дзякуй за пусты клопат.

– Ладна, давай. Звані, калі што.

– Пазваню, калі што, то абавязкова.

Я выходжу на вуліцу, сонца асьляпляе. Вільготная сьпякота пасьля навальніцы нагадвае лазьню.

Адшукаўшы машыну, заводжу яе, палю на вуліцы, дыхаю сьвежым паветрам і потым сядаю ў сапрэлы і гарачы салён ды выяжджаю з двара.

Праехаўшы тры кварталы, я зусім ачуняў, вочы расплюшчыліся, і вось яшчэ двойчы павярнуць у правы бок на сьвятлафорах…

І тут перада мною апынаецца машына ДАІ, зь якой гучыць голас інспэктара: «Аўтамабіль з рэгістрацыйным нумарам 3839, просьба спыніцца каля бардзюра!»

Я нічога ня чую. Музыка грае ў салёне, на ўсю катушку. Мяне раптам торкае памяняць маршрут, і я праз дзьве суцэльныя лініі вырашаю разьвярнуцца, і потым таплю газ нагой і еду пад «цагліну».

Даішная машына пераразае мне шлях, і праз сэкунду іншы аўтамабіль закрывае выезд.

Я выскачыў і закрычаў, што спачатку ўсе яны будуць гутарыць з маім адвакатам, я вось зараз набіраю яго, свайго дарадцу і сабутэльніка Раўля Д’юка. Але ён не адказвае на званок, а я ўжо не такі і малады, каб бегаць кругамі вакол машыны ад патрульных.

Мяне скручваюць, і трэці патруль, які пад’яжджае ўжо з апаратурай для алькатэсту, прымае мяне, яшчэ цёплага, у свае кіпцюры.

«У дадзеным выпадку ніякіх сумневаў – ці алькаголь, ці наркотыкі, раніцай, неадэкват… Клясыка жанру», – кажа адзін ва ўніформе, другому.

«Лепш бы ты таксі ўзяў», – кажа мне сяржант, які запісвае мае праміле ў крыві.

«Лепш бы ты таксі ўзяў», – кажа мне па тэлефоне сваякдаішнік, да якога я са спазьненьнем, але датэлефаноўваюся.

«Таксі!» – піша мне мой адвакат, бо адказваць на званкі ня можа, праца.

«Заплаціў бы восем рублёў за таксі, і ніякіх праблемаў», – Кіра забівае апошні цьвік у галаву.

**6/9**

«Сябра, у цябе шмат рамантыкі ў кнізе, ты быццам забыўся на ўвесь той трэш, што з намі адбываўся, калі можна было лёгка атрымаць у вока толькі таму, што ты перайшоў дарогу і апынуўся ў іншым раёне.

Ня ведаю, можа быць, з узростам забываесься пра ўсё змрочнае, і памяць пакідае толькі сьветлыя ўспаміны, але згадай хаця б тыя бойкі, што ў нас здараліся, калі мы выяжджалі гуляць у баскетбол у цэнтар… Альбо калі «пад гадзіньнікамі» атрымлівалі ад хардкораў скейтамі, альбо самі давалі па галаве тым, хто гуляў у сокс?!

Быў выпадак, калі я здрадзіў сваёй сяброўцы.

Вечар, баскетбольнага мячыка ўжо не відаць, на спартовай пляцоўцы на Карламарла толькі адзін ліхтар сьвеціць акурат на стол для пінг-понгу, мы сядзім на стале, я, яна і два сябры, адпачываем пасьля стрытболу. Апранутыя па-спартоваму – хто там разгледзіць у нас панкаў? Раптам зь цемры выплылі мясцовыя панкі, пяць бастардаў, сьмярдзючых і п’яных, галоўны зь іх выйшаў наперад, на ім была чорная байка «Сектор газа».

Мае сябры хутка здаліся, аддалі колькі было грошай, і ім дазволілі сысьці. Той, што ў байцы, не зьбіраўся так проста адпускаць мяне і маю сяброўку. Ён вышмаргнуў вайсковы рэмень, склаў яго і пачаў гучна пляскаць, пакручваючы бляхаю з савецкай зоркаю.

Я здаўся, я здрадзіў, гэты тупы мудазвон на маіх вачах цалаваў яе, а я ня мог паварушыцца, я глядзеў то на яе вусны, то на яго гнілыя зубы, то на вайсковы рэмень.

Зь мяне нічога матэрыяльнага не ўзялі. Мы зь сяброўкай засталіся сядзець на стале для пінг-понгу, маўчалі, самотныя, і я гадаў, пра што яна думае.

Але потым, калі мінула тыдні два, мы на раёне паднялі ўсіх мясцовых: панкаў, мэталістаў і нават гэтых заўсёды сумных і самотных гранжаў, прыехалі на Карламарла, знайшлі мясцовых «сэктаргазаў» і добра іх адпізьдзілі, шкада толькі, што мая сяброўка гэтага ўжо ня бачыла, бо мы разышліся зь ёю».

**8**

Тэрэза любіць рабіць мне манікюр. Яна любіць мае рукі і ногі. Кажа мне, што яны надта акуратныя, арыстакратычныя. Рукі дык дакладна ад маці, а вось ногі – дужыя і для

мужчыны занадта стройныя – напэўна, таксама ад маці, але я ёй кажу, што ў майго бацькі ногі таксама – агонь. Тэрэза кажа, што ног майго бацькі ня бачыла, але ахвотна верыць.

Падчас сэксу для Тэрэзы самае галоўнае – кантакт або з рукамі, або з нагамі, у скрайнім выпадку – пальцы рук. Яна вельмі любіць кранацца біцэпсаў, альбо запускаць свае кіпцюры ў сьцёгны, смактаць пальцы, асабліва вялікія на руках ці нагах, усё залежыць ад позы.

Мы зь ёй у ложку, яна разглядае мае рукі, я ёй распавядаю гісторыю сваіх рук.

Вось гэты шнар, бачыш, ад нажніц, і гэты, і нават гэты, але ўжо ад нажа.

А гэты – у маім юнацтве была такая кучаравая русалка, што я сабе ледзь не адрэзаў палец, так хацеў ёй паказаць, што я моцны і ўсёмагутны. Я піў зь ёй «Крывавую Мэры», дзе таматны сок замяняў на крывю.

А вось гэтыя рубцы на вялікім пальцы – вынік апэрацыі… ня ведаю, што здарылася, але аднойчы ў мяне гэты палец так апух, што выглядаў як сасьпелы гарбуз. Я трываў, пакуль адной ноччу палец ледзь ня луснуў. Прыехала хуткая дапамога, доўга глядзела на мяне, на палец, на палец, на мяне, бо да фэльчара і мэдсястры не даходзіла, што можна жыць з такой напухласьцю.

А я ім: працаваў шмат, справы былі тэрміновыя, усё такое, не да пальца мне было.

У бальніцы, калі доктар абкалоў палец абязбольвальным, для хірургічнага ўмяшаньня, палец раскалоўся, як перасьпелы гарбуз, і глюз пайшоў ручаінамі па руцэ.

Толькі праз два месяцы палец зашылі, калі ўвесь бруд выцек.

А вось тут шнар ад дызайнэрскага нажа… Быў такі час у мяне рамантычны, студэнцкі, увесь у каханьнях і думках

пра суіцыд. Цяпер ні гэтых каханьняў, ні сяброў, ні калегаў не відаць, але шнары засталіся, як напамін пра тое, іншае жыцьцё.

А вось тут, на правай руцэ, няправільна зрасьліся косткі, акурат пасярод вонкавага боку далоні, бачыш, я калі сьціскаю руку ў кулак, яны адразу выступаюць… бо неяк упаў неакуратна на руку, зіма, лёд, адразу і зламаў далонь. Гіпс зьняў на шосты дзень, бо замінаў жыць.

А вось гэты, сярэдні палец, я зламаў, калі біў люстэркі ў менскім начным клюбе, штосьці мяне торкнула, злавіў шызафрэнію, паразьбіваў кулакамі ўсё нахер, а потым спрабаваў выкруціць і зламаць краны ў прыбіральні, але мяне ўжо самога круцілі ахоўнікі.

А гэты, указальны палец, ён, калі згінаеш, бачыш, паварочваецца ўбок. Аднойчы была бойка, і мой супернік не надумаў нічога лепшага, як ухапіцца за палец і выкруціць яго пазногцем унутр… Уяўляеш, я тады да таго, як прыехала хуткая, сам пад халоднай вадой укруціў палец на месца, і ў бальніцы толькі гіпс паклалі, але гэтага гіпсу я не здымаў, бо ён мне не замінаў.

А вось гэтыя шнары ўздоўж усёй левай рукі – ад хлебнага нажа. Я хацеў сябе забіць, але не атрымалася, згубіў шмат крыві і спустошыў дванаццаць бутэлек сыропу ад кашлю, мінакі знайшлі на вуліцы ў сьнезе, забрала хуткая.

Тэрэза кожны шнар і пералом разглядае ўважліва, цалуе яго сваімі цёплымі вуснамі, я адчуваю да яе жаданьне. Жарсьць з прысмакам крыві, гарэлкі і цытрыны.

**7**

У савецкі час людзей тэставалі, і паводле вынікаў – флегматык, халерык, сангвінік, мэлянхолік – накіроўвалі

атрымліваць адпаведную прафэсію. Было такое, і былі нават тыя, хто вучыўся на такога спэцыяліста і меў адпаведныя падручнікі, каб тэставаць іншых.

У маім доме на чацьвёртым паверсе жыве Батоныч. Мужчына на пэнсіі, мажны, лысы, а што з валасоў засталося на скронях, – сівое.

Батоныча так празвалі, бо ён як Антоныч, але мяккі ды цёплы, як хлеб.

Батоныч – палкоўнік у адстаўцы, былы кадэбэшнік. Але былых кадэбэшнікаў не бывае. Ён вельмі камунікабэльны, абсалютна шчыры і адкрыты да ўсіх і да ўсяго на сьвеце, такі свой, суседзкі *Yes Man*, які можа прыйсьці на дапамогу, хочаце вы гэтага ці не.

Калі Батоныч п’е, а п’е ён часта, – у двары сьвята, бо ён адразу робіцца ўтрая больш шчыры і пачынае раздаваць грошы направа і налева. Пройдзе міма хлопец зь іншага пад’езду, Батоныч цягне яму ў вітаньні руку, цісьне, мякка так, па-сяброўску, і левай рукой дае пяць баксаў. Вось і мясцоваму старому кампазытару-алькаголіку пашчасьціла – пяць рублёў.

Мне ён неяк даў сто эўра…

Батоныча, калі ён п’е, любяць усе, акрамя жонкі і суседзяў, якім ён, засумаваўшы, можа набраць любую кватэру на дамафоне а другой ночы, каб запрасіць расьціснуць сто грам.

Мне часам здаецца, што гэты палкоўнік у адстаўцы штохвіліны на працы, такі ветлівы, прыязны і шчыры. Грошы ўсім раздае, п’е з кожнай кампаніяй. Так і хочацца яму распавесьці ўсё сваё жыцьцё, нават выдаць яму ўсе свае пін-коды.

Файны дзядзька, але апасны. Як на мяне, занадта шмат у яго сакрэтаў, бо часам я назіраю, як да яго

прыяжджае чорны форд, і ён кудысьці зьяжджае ў камандзіроўку, як кажа. На месяц, два.

Жонка ягоная ўжо не крычыць у двары, каб ішоў дамоў і не напіваўся як сьвіньня, бо гэта ж Батоныч, яму трэба з усімі перацерці. Цёплы ён такі, блізкі і родны, як хлеб.

**4**

Спачатку на вэрандзе зьявіўся вялікі тлусты подпіс, які інфармаваў пра тое, у каго ператварыўся навасьпечаны баец, – УБЛЮДАК.

Амэрыка гэтак нікога і не адшукаў дзеля помсты, але і не зафарбаваў словаў, палічыўшы такое прыніжэньнем ягонай асобы, толькі пачаў пасьля гэтага яшчэ больш і мацней біцца.

На вэранду часам завітваў Юрка, хлопец шчыры, вясёлы і сяброўскі. «МАТЭМАТЫК!» – казалі пра яго мясцовыя бабусі, бо Юрка на абласной алімпіядзе заняў першае месца па матэматыцы. Юрка і матэматыкам быў някепскім, і сябрам файным, і піў, колькі ў яго магло ўвайсьці, а гэта для дваровага хлапчука – ужо біяграфія на выдатна.

Аднойчы Амэрыка прыйшоў «на ўблюдак», пачаў ізноў біцца зь першым, каго сустрэў, і сустрэў ён тым разам Юрку, які чамусьці ня стаў скукожвацца і прасіць яго не чапаць, але выпрастаўся пасьля нечаканага ўдару нагой у сьпіну, павярнуўся, паставіў блок пад левы хук Амэрыкі ды як зарадзіў таму ў нос леваю, а потым зьверху ў галаву кулаком. Той гэтак і паваліўся, давялося адмочваць яго півам.

Пасьля гэтага выпадку Амэрыка перастаў біцца, наведваў нашую вэранду ўсё радзей, а потым і ўвогуле зьнік з поля зроку.

**6**

Галоўным баўленьнем часу на асьвятляльных вежах футбольнага стадыёну былі, вядома, піва, панк-рок і гутаркі пра тое, хто за каго каму мог бы надаваць у твар і хто каму даў у ложку. Але ні з чым нельга параўнаць чаканьне ўсходняга ветру, таго самага ветру, які дзьме табе ў сьпіну, калі ты, напіўшыся піва, счакаўшы да самага-самага, калі мачавы пухір цісьне на скроні, ня толькі на жывот, падхопліваесься зь месца й пачынаеш тлуста сцаць зь верхатуры, а сябры, кінуўшыся да краю, назіраюць, як твая мача разьлятаецца на дробныя кроплі й вецер яе нясе на гандлёвыя шапікі, дзе, як звычайна, багата пакупнікоў.

Грыбны дождж! Надвор’е яснае, абед, субота. Можна і адпачыць.

**1**

У бар «Рукі Мадонны» заваліўся мой стары сябра, мой літаратурны дарадца і пісьменьнік, да якога хацелася б цягнуцца, але заўсёды знойдуцца справы і апраўданьне ўласнай лянівай срацы не дацягнуць, не дапісаць, не дачытаць і не даглядзець.

Сябра праз адчыненыя дзьверы запусьціў марозны вецер, сьнег і цяжкі, густы пах каньяку.

– Ну прывітаньне-прывітаньне. Ну як ты? Што робіш?

– Я нармальна, добра. Пішу тут кнігу пра невядома што. Складаную нейкую, сам сябе загнаў у фармат, экспэрымэнтальны, сам ужо не разумею, куды накіроўваюся і што з усім гэтым рабіць.

– Ага, зразумела. Добра. Дасі пачытаць?

– А то – вядома, дам. Ты першы будзеш. Толькі дапішу. Сам як?

– Прыкра мне. Млосна. Усё гэтак кепска, здаецца, далей ужо немагчыма жыць. Рухацца кудысьці.

– Што за настрой?

– Ня ведаю. Хм. Ведаю. Я стаміўся, і мне не падабаецца гэтая статыка вакол літаратуры. І, здаецца, ужо зіма, усе падводзяць рахункі, а мне ня хочацца ніякіх рахункаў. Гэтых шаблённых выхвальстваў.

– Давай вып’ем. Я вось на сухім белым. Проста хтосьці ганарыцца пражытым годам, а хто не, то і моўчкі.

– Я вазьму каньяк.

– Проста, мне падаецца, мы больш нікуды ня рухаемся, усе стаім на месцы. Гэтыя літаратурныя вынікі, прэміі і стыпэндыі, куды мяне не ўключаюць, настолькі сталі мне абыякавыя, што я лаўлю сябе на думцы, што часьцей думаю аб тым, калі пачынаць у наступным годзе ставіць агароджу на лецішчы, але не пра новую кнігу.

– Я цябе разумею. Але гэта не галоўнае, прэміі там і стыпэндыі. Ты зірні, як мала ўвогуле тых, каму цікава чытаць. Мы ўсе самі сябе чытаем. Я цябе чытаю, ты мяне. Трэці рэдактар, ён вымушаны нас абодвух чытаць, а яго ніхто ўвогуле не чытае.

– Часам, калі я атрымліваю ліст ад кагосьці з чытачоў, я спачатку разумею, што ня радуюся свайму дасягненьню, але проста жадаю яго, моцна жадаю пераспаць са сваім гэтым чытачом, адплаціць яму за ўвагу да майго тэксту.

– Думаю, хутка ўсе мы будзем самі прапаноўваць сэкс-паслугі за чытаньне нашых кніг.

– Не кажы.

Нам прынесьлі віна і каньяку. Мы выпілі. Паназіралі за суседзямі, якія эмацыйна спрачаліся, карміць дзіцёнка мясам ці толькі кашай. Я паглядзеў у акно, заўважыў, што яшчэ дзень, і ў кавярні ёсьць наведнікі зь дзецьмі, якія

замаўляюць абедзеннае мэню, а я і мой сябра ўжо добра нападпітку.

– Слухай, можа пакурым, разьлічымся і паедзем у «Ў»? Хутка ж ня толькі галерэя зьедзе, глядзіш, і кнігарні нашай не застанецца, а там, можа, і нічога не застанецца.

– Так, давай. Я, дарэчы, тут прыехаўшы, не спыніў тваёй працы?

– Слухай, не, ты мне ніколі не перашкаджаеш, тым болей, тэкст гэты, што я сёньня настукаў, – гаўно!

– Ну, глядзі сам.

**3**

Пасьля Сьветы з Машай, я, радасны, што ўдала ўцёк, вырашыў далей жыць самастойна, толькі ўжо па-даросламу.

Трэба тэрмінова знайсьці кватэру ў Менску, працу – такую, каб не напружвала, і працягваць здымаць вяршкі са сталіцы.

Варта было б затрымацца, абрасьці знаёмцамі, уласнымі барамі й кнігарнямі, пачаць жыць як мясцовы прыгожы малады алькаголік з прэтэнзіяй на інтэлектуала, і можа быць, дазволіць сабе злоўжываць, бо каб абнуліцца, выйсьці на шлях асэнсаванага жыцьця, абавязкова трэба нырцануць, глыбока нырцануць, і ня проста на дно бутэлькі.

У адной кавярні на паліцах буккросінгу я знайшоў біяграфію Бадрыяра і, пакуль яшчэ цьмяна ведаючы, хто гэта, я чытаў пра яго, прыжмурыўшы вочы, але мяне не абмінулі гэтыя радкі: «Паніка, якая надаецца мужчыну вызваленым жаночым суб’ектам, падобная хіба што да яго-най безабароннасьці перад парнаграфічным зьзяньнем адчужанага полу жанчыны, жаночага сэксуальнага аб’екта. Ці прыводзіць жанчыну ўсьведамленьне рацыянальнасьці

яе ўласнага жаданьня да патрабаваньня асалоды, або, захопленая татальнай прастытуцыяй, яна саму сябе прапаноўвае як сродак асалоды, ці выступае жаноцкасьць суб’ектам ці аб’ектам, вызваленай або выстаўленай на продаж, – у кожным выпадку, яна паўстае як сума полу, ненаедная прорва, пражэрлівая пашча. Магчыма, – распавядае Бадрыяр, – што парнаграфія і існуе на тое, каб уваскрэсіць гэтае згубленае рэфэрэнцыяльнае, каб – ад адваротнага – даказаць сваім гратэскавым гіпэррэалізмам, што дзесьці ўсё-ткі існуе сапраўдны сэкс. Парнаграфія, такім чынам, ёсьць «нулявой ступеньню» вытворчасці гіпэррэальнасьці, яна «праўдзівейшая за праўду».

І я, напэўна, мог бы стаць на свой шлях парнаграфіі, жыцьцёвага порна, своеасаблівага снафа, і, можа быць, з гэтага атрымаецца прыклад ці ня самага шчырага ладу жыцьця.

**2/3**

Гэтак мінуў той летні дзень, калі я распачаў адвечнае мужчынскае вяртаньне: грудзі, хвалі, сонца, машынка з кубікамі, майткі і зноў грудзі.

Мы ўсе ішлі ад Менскага мора да «капейкі», каб ехаць у горад, піць халодныя малочныя кактэйлі, есьці марозіва; дарослыя – піць піва з сухой рыбай. Як раптам з грукатам і віскатам затармазіў аўтобус. Ён тармазіў цэлую вечнасьць.

А потым БАХ! І галава жанчыны паскакала мячыкам па дарозе, а цела засталося ляжаць.

Галава пракацілася яшчэ колькі мэтраў і спынілася.

І цэлы сьвет зрабіў сальта перад маімі вачыма.

Сэкс і сьмерць. Эрас і танатас. Memento mori. Жыцьцё толькі пачынаецца.

**6/9**

«Учора перад сном пачаў чытаць тваіх панкаў на сваю галаву. Ня мог спыніцца да трэцяй ночы. Прачнуўся а восьмай з думкамі пра панкаў і працягнуў чытаць. Ня выспаўся ніц, наперадзе цяжкі дзень. Але я задаволены! Даўно не прачытваў кнігу літаральна за ноч. Там усё нібыта пра мяне. Я таксама шмат тусіў у бабулі ў вёсцы. Жыў пэрыядычна нібыта ў двух сусьветах: гарадзкім і вясковым. І той і іншы – панкаўскія. Усе гэтыя дачыненьні зь дзяўчатамі, гэтыя размовы, жарсьці. Сумесь Букоўскі з Ўэлшам з Жаданом (Анархі ін зэ Юкрэйн), але са сваім стылем. Шчыра, адкрыта напісана. Добра перададзеная атмасфэра тваёй-маёй маладосьці, так бы мовіць. Проста прыемна, што нехта жыў, як я, і ў яго амаль тыя ж успаміны. Тыя ж этапы сталеньня. Алькаголь, дзеўкі, гітары і панкаўскі погляд на жыцьцё. Я рады, што ты ўключыў і мае прыгоды. Частка мяне ў тваёй кнізе. Крута))

Як усе гэтыя гісторыі перамяшаныя – вельмі падабаецца. Першыя дзесяць старонак адаптоўваесься, а потым разумееш канцэпцыю, і зацягвае з галавой. Яшчэ такое адчуваньне, што я ўсё гэта ведаў дагэтуль – нешта чуў ад цябе, нешта чытаў з таго, што ты выкладаў у сеціве. І ўсё гэта склалася ў кнігу. Нібыта прагледзеў свой альбом юнацкіх фотаздымкаў. Крута, кажу табе! Ты малайчына, я проста вельмі рады за цябе. Што рухаесься, што спрабуеш і ўрэшце расьцеш. Ня ведаю, што яшчэ дадаць. Ёсьць пытаньні адносна менавіта маіх прыгодаў, нешта пададзена не зусім так, як было, але гэта неістотна, напэўна. Яшчэ падумаў, што гэта ж панкаўскі пэрыяд, і ў ім абавязкова мусіць быць музыка, назвы гуртоў, песень. Можа, цытаты якія. Прынамсі, мне здаецца, што музыка займала для нас, юнакоў, зусім не апошняе месца.

Недзе на адным радку з бабамі ды алькаголем. Такія думкі. Дзякуй табе».

«Мне прыемна. Дзякуй. Музыка, так: «Сэктар газу», «Гроб», «Сэкс Пісталс».

«Так. Вось гэта вось усё».

«І крыху «Арыі», бо яны былі рамантычныя. God Save the Queen!»

«Божа, храні каралеву і яе фашысцкі рэжым!»

«А гэтая песьня:

*Я ядреный, как кабан,*
*Я имею свой баян,*
*Я на ём панк-рок пистоню,*
*Не найти во мне изъян.*
*Первый парень на весь край,*
*На меня все бабки в лай.*
*А-а-а-ай, ну и няхай!»*

«Сэктар газу»! Усё гэта дваццаць гадоў ня слухаў, але бачыш радок, і ўзгадваеш палову тэксту. Гэта ня выкінуць з галавы. Яно назаўсёды».

**5**

Машына ня можа быць проста машынай у жыцьці мужчыны, таму машына – гэта таксама ягоная жанчына.

У сучаснага мужчыны заўсёды дзьве жонкі – хатняя, і тая, якая запаркаваная каля дому ў двары. Таму мужчыны любяць іх называць ластаўкамі ды іншымі сонечна-цёплымі словамі.

Мужчына можа сысьці ад хатняй жонкі, але сваю ластаўку ён можа толькі прадаць у надзейныя рукі, альбо

калі ня знойдзе такіх рук, то ўвогуле нікому, ніколі і ні за што, і давядзецца ластаўцы іржавець пад балконам, пакорліва панурыўшы фары долу, і рассунуўшы колы ў розныя бакі.

Тое адчуваньне, калі ты выходзіш з пад'езду, а твая жанчына, падвешаная ўгары эвакуатарам, ажно зьзяе дном, хутка будзе пагружаная і адпраўленая на штрафную паркоўку. Такога пачуцьця ні зь якім іншым ня зблытаць: роспачы ад гвалту, злосьць, што нічога ня можаш зрабіць, і нянавісьць да сусьвету і касьмічных абставінаў.

Гэты мярзотны, танюткі галасок перад інспэктарам, гандляваньне, спробы вярнуць ластаўку на месца.

Шквал эмоцыяў, якіх ніколі не чакаеш у жыцьці.

Я толькі аднойчы дазволіў эвакуяваць сваю машыну. Другім разам ужо нахабна саскочыў з эвакуатарнага трактара, даўшы назад, сарваўшы паднятыя пярэднія колы з кранштэйна, пагнаў куды вочы павядуць.

Ехаў і ўсю дарогу чакаў даішнай пагоні. І толькі ўвечары, дома, супакоіўся.

Тыдзень чакаў пакараньня. Было ціха, і я зразумеў, што нахабствам можна і дамы перамяшчаць, ня тое што машыну скрасьці з эвакуатара на вачах інспэктара.

Другім разам я сягнуў касьмічных амбіцыяў. Калі, заседзеўшыся на тратуары побач з машынай, не прыкмеціў, як дарогу перакрылі адразу два эвакуатары і даішная машына, і пачалася апрацоўка кепскіх паркоўнікаў з двух бакоў.

Калі я адарваўся ад тэлефона і абедзеннага летняга сонца, на машыну зьверху апусьцілі тросы. Ня доўга разважаючы, я скокнуў у салён аўто, уключыў аварыйныя сыгналы, і перад аслупянелым эвакуатарнікам, заехаўшы на ходнікі, парушыўшы падвойную белую лінію, я выскачыў з палону.

Рэцыдывіст са стажам і пыхаю памерам з каралеўскі гонар, пазбаўлены ліцэнзіі кіроўцы, я ляцеў са сваёй

ластаўкай у будучыню, за гарызонт падзеяў, сьмяяўся ўголас, круціў галавою ў розныя бакі, бо заўсёды ведаў, што такімі казачнымі ідыётамі бываюць толькі кіроўцы BMW.

Усё добра, мая дзетачка, мы прарваліся праз заслону, прарвемся і далей. Наперадзе нас чакае толькі шчасьце і процьма каханьня, і мы з табою памрэм у адзін дзень, дарагая, альбо спрахнем разам каля пад’езду.

## 8

Мая Тэрэза верыць у Бога Чысьціні. Яна сьцерла пазногці, растварыла пальцы ў хімічных вадкасьцях, яна спрабуе адбяліць свае дачыненьні з мужам, ачысьціцца ад усяго бруду, у якім пасьпела не аднойчы выкачацца, гэта зразумела, але той факт, што яна кожную хвіліну распырсквае на далоні і твар антыбактэрыяльны лясьён, – патлумачыць немагчыма.

Для Тэрэзы чысты дом – гэта іхнае з мужам каханьне, якое б яна хацела бачыць і якім бы хацела жыць, але ні ў яе, ні ў яго не выходзіць, няма казкі, няма пачуцьцяў, якія мусілі б быць доказам.

На дадзены момант – гэта не дачыненьні, гэта хвароба.

Я б зь вялікай радасьцю жыў з Тэрэзай, але я лайдак, мне нават лянота рабіць нешта, каб мяняць сваё жыцьцё. Гэта можа вымагаць адказнасьці, давядзецца шмат дзейнічаць. Мне падабаецца, што яна проста прыяжджае да мяне, калі ёй захочацца. Мяне ўсё задавальняе, мне нават цікава сачыць за ёй і яе мужам, і чакаць, на якой ноце, на якім моманце ўсё скончыцца.

Аднойчы яна мне распавяла, як цэлы дзень назірала, як яе мужчына чысьціў сваю машыну ад сьнегу, у яго былі тры розныя шчоткі, самай вялікай ён зьняў агульны пласт

сьнегу, потым сярэдняй рупліва прайшоўся па фарах, нумарах і бакавых шкельцах, і ўжо маленькай шчоткай акуратна павымятаў сьнег і пясок са шчылін і адтулін.

Ювэлірная, абсурдная праца, бо на дарогах пясок, соль і чорны мокры сьнег.

Удвая абсурдная праца, бо муж гэтым займаўся падчас сьнегападу, невялікага, але ж.

Утрая абсурдная праца, бо, калі ён упэўніўся, што машына чысьцюткая, але ўжо пад тонкім слоем сьнегу, то вярнуўся ў кватэру і нікуды не паехаў.

А потым яна падумала, што напэўна, ён падрыхтаваў машыну на зіму, але праз тры гадзіны, праседзеўшы моўчкі перад тэлевізарам і расьціснуўшы бутэльку настойкі, ён зноў выйшаў з шуфлем і зноў ачысьціў ад новага сьнегу машыну і вярнуўся дадому.

Я даслухаў Тэрэзу да канца, яна ўладкавалася ў маім старым фатэлі, аголеная, і яе левая смочка амаль казытала падлакотнік, я больш часу правёў, гледзячы на гэтую смочку, замест таго, каб прыслухоўвацца.

– Я ня ведаю, што табе адказаць, але гэта цікава, каб падумаць, потым, пасьля ўсяго, – я азваўся нязграбна, абы адказаць, і Тэрэза гэта адчула, бо яе смочка паднялася вышэй за падлакотнік, а потым увогуле схавалася ў скрыжаваных на грудзях руках.

**7**

За нашай кухоннай сьценкай здымаюць кватэру хлопец і дзяўчына, сьпярша мы былі і радыя такім суседзям – яны з сабакам, беленькім, невялікім. Я заўсёды лічу, што людзі, якія трымаюць сабак, – вельмі добрыя, але звычайна я памыляюся.

Як выявілася, малады чалавек любіць піць, і любіць запрашаць сяброў, зь якімі звычайна напіваецца да бяспамяцтва.

Наш тамбур на тры кватэры, з аднаго боку жыве гопнік, з другога сабакар-алькаголік. Звычайны вечар, у тамбуры стаяць два пацаны, п’яныя, адзін сьцякае крывёю, другі яму штосьці тлумачыць, сваю праўду. Вельмі гучная ў яго праўда, і да ўсяго балючая. Удары, плескачы, хрыпы. Дзьверы рыпяць, ключы зьвіняць, шэпт, лаянка, і зноў удары. Сабака за дзьвярыма скуголіць. Кроплі крыві на падлозе, гэтак любіў распырскваць фарбу на палотны Полак, размазаныя там-сям, як выявы мяса на карцінах Суціна, – пастозна, размашыста.

Добра, калі ціха, то няхай б’юцца, але ў кватэры ўключылі гучна музыку, і я выправіўся на свае страх і рызыку разьбірацца.

У тамбуры ўжо нікога, дзьверы кватэры прыадчыненыя, і адтуль на мяне адным вокам пазірае белы сабачка.

На кухні сядзяць двое залітых да зрэнак хлопцаў, а гаспадар кватэры ціскае каля лядоўні сваю дзеўку. Сабака нават не набліжаецца да іх, сеў каля мяне – відаць, расчараваўся ў такім ладзе жыцьця.

Мяне ўбачылі адразу ўсе разам, як быццам я Гары Потэр, і толькі што скінуў свой магічны капялюш, музыку выключылі, і ад цішыні зазьвінела ўвушшу. Сусед кідае ў мой бок:

– Ты кто, бля? Как попал сюда? Какое імееш права захадзіць!?

– У вас тут музыка на ўсю, і дзьверы адчыненыя!

– Я гавару, как ты смееш сюда захадзіць? Эта бля мая кварціра!!!

Я не знайшоў, што сказаць, пацаны хутка падхапіліся з-за стала і далучыліся да п’янога правадыра. Мяне ўратавала тое, што я трыма крокамі заскочыў у сваю кватэру, і замкнуўся на тры замкі.

У дзьверы званілі, грукалі, але ня доўга.

Раніцай падышоў да мяне на вуліцы гэты самы гопнік.

– Ты эта, я там, какбэ, ну набухался, – прамаўляе ён мне, а сам у асфальце расколіны пералічвае, а ягоная сяброўка трымае ў адной руцэ шворку, а ў іншай – ягоную руку, на якой набітая віхрастая татуіроўка, абодва яшчэ бухія, але ўжо культурныя.

**4**

Амэрыку звалі Валік Рамашоў. Ягоныя бацькі ў свой зорны час скарысталіся магчымасьцю выяжджаць за мяжу на спаборніцтвы, падпісалі ў Штатах кантракты са спартовымі арганізацыямі, і ўжо там нарадзілі сына.

Мінула пятнаццаць гадоў, у сусьвеце ўсё пачало мяняцца, бацькі Валіка вырашылі паспрабаваць вярнуцца на радзіму, а калі што – заўсёды ёсьць магчымасьць зьехаць.

Тата ўладкаваўся ў алімпійскі камітэт, маці пайшла працаваць галоўным інструктарам у элітным вэлнэс-клюбе, ведучы заняткі па гімнастыцы і ёзе.

Бацькам усё падабалася на радзіме, але Валіку далёка ня ўсё – ён марыў вярнуцца дадому, на сваю радзіму, у свой амэрыканскі двор са сьцягам, ва ўласны пакой.

Амэрыка зьбіраў грошы, ён рабіў гэта як мог: бойкі, гандаль, шантаж. Ён паступова ператвараўся ў нэрвовага, злоснага падлетка, не задаволенага жыцьцём і абставінамі,

і найбольш яго злавала тое, што ён траціў былы аўтарытэт і бляск. Даводзілася за кожны дзень змагацца, і ня толькі з ранішнім гадзіньнікам і мамаю, але з чымсьці больш сур’ёзным і неміласэрным – рэпутацыяй у раёне і жаданьнем вярнуць колішнія шчасьлівыя дні на іншым кантынэнце.

**3**

Жыцьцёвага порна не атрымаецца, нічога не атрымаецца. Альбо я ператваруся ў маладога бамжа і змарную юнацтва ў танным алькаголі, альбо вярнуся дадому. Нагуляўся ўжо, дзякуй усім за такі казачны трып зь дзяўчатамі і алькаголем, але надта баліць выкручаная нага, я ўжо не магу на яе ступаць. Хочацца банальнага хатняга цяпла, бо за апошні тыдзень нічога ўтульнейшага за батарэю ў пад’езьдзе я не знайшоў.

Надышоў час засунуць гонар у сраку і паехаць дадому.

Прыеду, пазваню ў дзьверы, маці адамкне, а я такі:

– Усё, нагуляўся, кармі прыблуднага ката!

Пажартую гэтак удала, каб яна адразу засьмяялася і абняла мяне, і будзе шчасьце. Будзе самы натуральны *happy end*.

Горад, вяртаньне праз столькі тыдняў.

Цікава, а колькі тыдняў?

Немагчыма ўспомніць і дакладна палічыць. Памятаю, была Вольга, потым Сьветка і Маша, і паміж імі былі сябры, знаёмыя і не вядомыя мне твары, і сярод усіх гэтых камунікацый, сэксу і дыялёгаў было шмат віна і каньяку.

Я цьмяна памятаю, што ў мяне была мэта дасягнуць чагосьці. Даказаць маці, што я магу быць крутым і самастойным, як Супэрмэн.

Здаецца, я толькі размантачыў грошы, якія гэтак доўга зьбіраў.

**6/9**

«Там на гэтай вышцы стадыёну ў мяне ледзьве ня здарыўся сэкс. Мы былі там удвох. Сябравалі зь дзяцінства, і ўжо закруцілася-завярцелася, але да сэксу не даходзіла. Баяліся ўсё сапсаваць, ці што. І вось яна ляжала на мне там, прыціснуўшы цыцкі мне да самых вуснаў, і трэба было проста трахнуць яе. Як праходжу міма гэтых вышак калі-нікалі, думаю толькі пра тое, чаму не зрабіў тады гэтага. Быў бы наш першы сэкс у небе, а не на падлозе ў кухні. Не дае спакою мне гэтая думка.

Бацькі і дагэтуль жывуць там, побач са стадыёнам, і балкон іхны глядзіць проста на гэтую вышку. Дзявяты паверх. На той жа вышыні, што і пляцоўка на мачце. Бацька выходзіць на балкон паліць, я зь ім іду паназіраць за вышкамі. Ён паліць, я ўспамінаю. Разумееш, калі там стаіш, проста стаіш нават і глядзіш уніз, то бачыш, як яны гайдаюцца. Улева, управа. Яны, вышкі, уверсе гайдаюцца, нават калі вецер слабы. І я думаю, што калі там трахацца, то напэўна ўсё гайдалася б яшчэ мацней. І было б добра, калі б у самы пік гэтая вышка разгайдалася і проста павалілася разам з намі. Чысты панк. Ня ведаю, навошта я табе гэта напісаў. Цяпер жыві з гэтым, як я.

Абсалютна культавае месца. Цалкам. Увесь час хадзілі чуткі, што мянты лавілі раз-пораз юнакоў адтуль. Бачылі і чакалі ўнізе і лупцавалі тых ня дай божа. Усё кожны момант магло скончыцца мянтамі і дубінкай. Аднойчы мы сказалі бамжу, што там наверсе поўна бутэлек. Калі палезьлі туды наступны раз, бутэлек ужо не было».

**2**

Мая бабка зь юнацтва працуе ў сталоўцы, пачынала памагатаю памагатых – круціць фарш, піхаць каўбасы, абіраць бульбу, і так паступова дайшла да галоўнага кухара.

Раённая сталоўка месьцілася на ўскрайку вёскі, ля калгасных палёў і малатарні, і ў абед было носа ня ўбіць праз мясцовых.

Да сталоўкі прыяжджала машына, яе нагружалі бітонамі з кампотам і супам, а таксама рондалямі з кашай і катлетамі, і тая развозіла абед па палёх.

У бабкі я бавіў усё лета, а потым застаўся жыць.

Я рос на сьвежым паветры, і праз тое, што ніхто навокал не цікавіўся маім лёсам, я адкрываў гэты сьвет па-свойму, і быў рады ўсім адкрыцьцям.

Гэтак я пазнаёміўся зь мясцовымі, яны былі старэйшыя за мяне і ўдвая бруднейшыя, і ведалі процьму гульняў, адна зь якіх была такая: хтосьці шпурляў у залю сталоўкі мячык, і мы гурбай кідаліся пад сталы яго шукаць, а пакуль мы там сноўдалі, то пасьпявалі разгледзець ня толькі жаночыя ногі, але і дакрануцца да каленяў, альбо ў самай прыгожай разгледзець майткі. Хтосьці са старэйшых пацаноў набіраўся нахабства і пасьпяваў наблізіць твар вельмі блізка да споднягa, і панюхаць – гэта лічылася вяршыняй спрыту. Мы былі малымі зьвяркамі, дзікімі драпежнікамі, і нам гэта падабалася.

А яшчэ мы кідалі мячык у каровіну ляпеху, і лавілі ўсплёскі лайна на адзежу і адкрытыя часткі цела.

**5**

Машына працягвала зьдзіўляць.

Я сам сябе дзівіў як кіроўца.

Першыя дні езьдзіць без правоў было страшна, але потым зрабілася сумна і будзённа, хоць вазьмі ды напіся і едзь, каб зноў перажыць вясёлыя прыгоды і адчуць адрэналін.

Я засумаваў, і спачатку на хуткасьці пачалі стукаць колы, а потым, на ляжачым паліцэйскім (добра, што не за горадам) адвалілася задняе кола. Проста паклалася на бок, і ўсё.

Адным вечарам я ехаў з камандзіроўкі зь Берасьця і заснуў за стырном, а прачнуўся ўжо на сустрэчнай паласе, але выкруціўся і, абмінуўшы фуры, дабраўся дадому.

Потым на хуткасьці машына выключылася, а пазьней і ўвогуле парваліся тросы ад мэханічнай скрыні перадачаў.

Дзе, калі, у які жыцьцёвы момант штосьці пайшло ня так, ня ведаю, мяне суцяшала толькі тое, што Тэрэзе спадабалася кахацца ў аўтамабілі, і мы пачалі ўсё часьцей і часьцей наведваць лесапаркі, цёмныя самотныя паркінгі.

Я ўрэшце вывучыў усе пад’язныя шляхі да рэк і азёраў вакол гораду. Дасьледаваў усе мясьціны для каханьня.

Нас некалькі разоў выганялі, пакідалі лісты з пасланьнямі, каб мы больш тут ня трахаліся, але гэтага юру гэтак проста не суцішыш, бо калі робіцца нецікава гэта рабіць у кватэры, пачынаеш дасьледаваць новыя магчымасьці.

– Бля, машына заглухла, Тэрэза! – крычу я ёй, але яна працягвае трымацца за мае яйцы, і ўжо неяк ня так і вусьцішна, што машына вырубілася і імчыць сто кілямэтраў на гадзіну, з заблякаваным стырном і без тармазоў. Галоўнае, што яйцы ў надзейных руках.

Ручнік уверх, і мы зь віскатам пачынаем спыняцца, а я ледзь не канчаю.

Мая машына штодзень мяне зьдзіўляе.

Тэрэза зьдзіўляе мяне ня менш за машыну.

**1**

Чарачная «Рукі Мадонны» ў абед была перапоўненая.

Пятніца, дзень, калі ўсе сумленныя беларусы заканчваюць працу раней, бо наперадзе выходныя ды ўвогуле сьвята – Пятніца. І ня проста Пятніца як сьвята, а яшчэ і дзень выплаты заробкаў, таму кожны працоўны беларус атрымаў на свае карткі «па пяццот» і гатовы быў як мага раней нажлукціцца, кінуць манэты на вецер, папярэдне пасёрбаўшы разбаўленых бармэнам кактэйляў, альбо тут лепш сказаць, недалітых моцным алькаголем кактэйляў, – але талерантным і працавітым беларусам не да гэтага.

Мой настрой быў такі складаны, нібыта я жанчына і ў мяне вось-вось пачнуцца тыя самыя дні, хацелася скардзіцца і крыўдаваць на ўсіх, было шкада сябе роднага, і шкада бяздомных, і сіротаў, і шкада было сваёй машыны, якая шмат ад'езьдзіла, а ўчора ўвечары я яе так акуратна прыпаркаваў, здолеў уціснуць у такую вузкую прастору, што сьпераду і ззаду было дваццаць сантымэтраў да іншых машынаў. Я паглядзеў на яе, здалёк, азірнуўшыся: стаіць яна такая, прыціснутая іншымі, самотная ў халодным двары, і зрабілася мне яе гэтак шкада, што яшчэ крок, і ажно да самагубства можа дайсьці.

Усё навокал здаецца несправядлівым. Я пачаў пісаць апавяданьне пра страшную жанчыну, якая працуе загадчыцай аддзелу рэалізацыі на гарэлачным заводзе «Крышталь». І вось гэтая крышталеўская жанчына такая ўся сука, пачвара і старая рохля. Прынамсі мне адчайна хочацца яе такой паказаць, але апавяданьне хіліцца да банальнасьцяў, да аблезлых і ўзьнёслых сказаў, быццам я тут і цяпер ня сам сябе знайшоў, але адкапаў зь нетраў прапаведніка, сьвятога Пятра нарадзіў.

Стала непрыемна ад сябе, і праз тое, што пачаў жорстка пісаць пра жанчыну не на сваім месцы і пра завод.

Я спыніўся. Падыхаў, глыбока-глыбока. Суцішыў гэтыя незразумелыя сьлёзы. Схадзіў пакурыў. Плюнуў на згвалчаны літарамі «Крышталь» і самотную старую, выпіў да дна каньяк і вырашыў, што сёньня абавязкова мушу камусьці дапамагчы, бо я ж сёньня само цнатлівае, неспакойнае, плакучае сумленьне.

Праз трыццаць хвілінаў, так атрымалася, я ўлез у бойку каля гэтых самых «Рук Мадонны».

**8**

Тэрэза сказала, што кінула піць таблеткі, хоча ад мужа дзяцей. Мне сьмешна. Яна кажа, што нам цяпер можна толькі бясьпечны сэкс. Кажа, што вось калі ўзяць і аб’яднаць мяне з мужам, атрымаўся б для яе ідэальны мужчына – ніколі б ад такога не сышла, і не падманула б.

Я ня веру Тэрэзе, бо яна шмат пра што можа размаўляць з аднолькавым захапленьнем і імпэтам. Яна здольная шчыра, як дзіцё, гуляцца з маім сабакам – і з такім жа захапленьнем з маім пэнісам. Я кажу Тэрэзе, што ёй спачатку добра было б разабрацца ў сваіх хворых дачыненьнях з мужчынамі, бо мне, вядома, прыемна, што яна прыяжджае, але я ёй параіў бы разабрацца, па-сапраўднаму.

А яна мне адказвае, маўляў, гэта не справядліва, што мужчыны могуць мець палюбоўніц, а жанчыны – не. Што яна, можа, кахае абодвух, і ёй складана вызначыцца.

Тэрэза магла б і трох кахаць, мне здаецца, а мо і чатырох. Яна шчыра гэтаму верыць, а я, вось такі ўвесь прыгожы і ладны мужчына, набыў цэлую стужку прэзэрватываў – але гэта так, напаказ, каб падмануць давер.

Мой геніяльны плян. Мой вар’яцкі плян. Мой плян помсты – зрабіць ёй дзіцёнка, няхай гадуе яго разам са сваім чыстаплюем мужам.

**7**

Характар раёну – гэта людзі, а ўсе людзі суседзі.

Табачны сусед звычайна пакідае пах таннага тытуню яшчэ ў тамбуры. Ён запальвае цыгарэту, калі замыкае кватэру і дабіраецца да ліфта. Спускаецца на першы паверх і пасьпявае затушыць недапалак ці аб кнопкі, ці аб дзьверы ліфта, і кінуць на падлогу. І кропка тут – плявок на вуліцу, калі дзьверы зачыняюцца.

Ёсьць яшчэ такія суседзі, якія сьмярдзяць сьмецьцевымі пакетамі, едуць у ліфце, наелі сьмярдзючага, назьбіралі дома featuresрознага лайна, запакавалі і едуць зь ім. І вядома, такіх суседзяў можна прабачыць, але толькі пасьля таго, як гэты сьмецьцевы пакет будзе завязаны і выкінуты ў кантэйнэр для біяадкідаў.

Мой любімы сусед – сусед-сцыкун – такі небарака, да кватэры не даносіць, сцыць у ліфце, зрэдзьчас на лесьвічнай пляцоўцы, і ў тых жа месцах дазваляе сабе і цалкам разьняволіцца – насраць. Малымі пацанамі мы падлавілі аднаго такога. Была цемра, мы на дзявятым паверсе ў сябра на лесьвічнай пляцоўцы на старой канапе сядзелі. Пілі піва. Як раптам драўляныя рыпучыя дзьверы ліфта адчыніліся, і мужык пабег на лесьвічны пралёт срацьsexualidad, і нават не заўважыў агеньчыкаў ад нашых цыгарэтаў, калі выбягаў.

Спусьціў нагавіцы, майткі, прысеў каля сьмецьцеправоду… як нечакана мы ўсёй гурбай як заравем. Мужык зь перапуду на сраку шлёпнуўся, не ўтрымаўся на кукішках,

акурат у свае выпаражненьні, потым, як мог, нацягнуў нагавіцы і ўніз па лесьвіцы, толькі і чулі ад яго праклёны і трохпавярховую лаянку.

Сусед-бомж. Гэты бядак адвечна з кімсьці з суседзяў сядзіць каля ліфта, ці на лесьвіцы, у тэпцях, трэніках і майцы-алькагалічцы, адвечна ў яго справы: пагутарыць, выкурыць пачак, выпіць колькі пляшак. І гэты бомж можа так усе выходныя цягацца па паверхах, вызвоньваць аднадумцаў або спрабаваць прыляпіцца да кампаніі падлеткаў.

У суседа-бамжа няма прытулку, але ёсьць колькі манэтак на хлеб і гарэлку, таму ён даволі карысны шматлікім іншым суседзкім рыбкам у іхных акварыюмных кватэрках.

І сусед-спам, гэта той самы мудзіла, які, адамкнуўшы сваю паштовую скрыню, выкідае ўсе рэклямныя буклеты і флаеры, купоны і бясплатныя газэты проста на падлогу. Такі сусед нават ня ведае, што яго ўжо даўно праклялі ў прафсаюзах дворнікаў і рэклямнікаў. А бабка Лера з чацьвёртага пад’езду навяла сурокі, каб усё жыцьцё ежа яму смакавала як той шчыльны рэклямны аркушык з друкарні, і каб усё тое, што ён шпурнуў на падлогу каля паштовай скрыні, адкаснулася ад яго: мэбля, новыя вокны, і сушы-вёслы, і дзьверы на замову, і новы інтэрнэт, і зьніжкі на тавары ў «Эўраопце».

**4**

Зоркамі ў старэйшых клясах былі два Лёшы.

Абодва высокія, абодва накачаныя, адзін – бляндын, а другі – брунэт.

Лёшы былі ня проста зоркамі, яны былі самымі яскравымі плянэтамі, вакол якіх круцілася процьма спадарожнікаў, што гатовыя былі ваксаваць ім да бляску абутак ад цыгарэтнага попелу. І, вядома, каля іх утульна

ўладкаваўся Амэрыка. Ён не выглядаў побач зь сябрамі трэцім – хутчэй прыстасаваньнем, дадаткам, але дадаткам карысным: тут і грошы, і вядомасьць, і адсутнасьць страху і розуму.

Абодва Лёшы працавалі ахоўнікамі ў рэстарацыі, але толькі ў вечаровыя гадзіны, усё-такі паводле дакумэнтаў яны былі яшчэ непаўналетнія.

Лёшам, акрамя вучобы, астатняе давалася проста і лёгка: стомэтроўка на пяць, алькаголь у краме бяз пашпарта, каханьне з кожнай дзяўчынай.

Стасункі Лёшы заводзілі хутка, проста і неверагодна крута.

Новая практыкантка па біялёгіі стажуецца ў дзявятых клясах – абавязкова адзін зь Лёшаў зь ёй круціць раман, і не істотна, наколькі яна прывабная, прыгожая і ўвогуле ці падабаецца, у Лёшаў быў плян – кожная новая практыкантка мусіць трапіць да кагосьці зь іх у ложак. Яны вялі падлік ды спрабавалі адзін аднаго перамагчы ў сэкс-эстафэце.

**3**

Я сам не заўважыў, як з паламанаю нагою і разьбітай галавой апынуўся каля знаёмага пад’езду.

Я прыехаў дадому ня як Супэрмэн, і нават ня як малады праграміст, але як шкадлівы сабака.

Адчыніў паламаныя ўваходныя дзьверы і падняўся на трэці паверх.

Пазваніў.

Цішыня.

Пагрукаў кулаком.

Пачулася нейкае варушэньне ў кватэры.

– Мама. Мааам. Гэта я.

Пачулася, як замкнёныя дзьверы замкнуліся на дадатковыя абароты ключа.

– Я ведаю, што гэта ты. Навошта прыйшоў?

– Вярнуўся дадому.

– Я цябе чакала, шукала, усе вочы выплакала, сэрца сваё разьбітае ледзь сабрала. Скаціна ты няўдзячная!

– Мам, ну ўсё, ну чаго ты, давай адчыняй. Я галодны, халодны і нямыты. Сорамна па горадзе хадзіць.

– Не, не адчыню, хопіць зь мяне ўсяго гэтага гаўна!

– Што?!

– Ты, як твой бацька, эгаіст і алкаш. Толькі падавай баб і бухло!

– Да ну нахуй! Адчыняй!

– Ідзі з Богам, сынку, але я стамілася за цябе перажываць і чакаць. Жыві сваім жыцьцём, і дай мне жыць.

За дзьвярыма пачуўся нейкі іншы голас.

– Ты там з кім!? А?! Адчыняй! Што, пакуль мяне не было, хахаля сабе завяла!?

**2**

Я рос хутка і нястрымна на бабуліных блінах і мачанцы. Гульні мяняліся кожны месяц, і неяк незаўважна ад машынак у пясочніцы і вайнушак з палачкамі-пісталетамі мы ўсёй вясковай бандай перайшлі на іншыя забавы. Цяпер мы гулялі ў бутэлечку і сьляпога ката.

Сьляпы кот – гэта калі адной зь дзяўчат завязвалі вочы, раскручвалі яе, але ня моцна, і яна мусіла кагосьці з нас злавіць, зразумела, што ўсё гэта быў фарс, а не гульня, бо дзяўчына, расчырванелая, і залапаная хлопцамі, у паветры лавіла толькі іхныя твары і машонкі, якія яны зь вялікім імпэтам падстаўлялі, рагочучы. Дзіўна, але ніводная

дзяўчына не адмаўлялася ад гэтай гульні, а некаторыя самі прапаноўвалі, калі было сумна сядзець у яблыневым садзе і паліць.

Бутэлечка – гэта пацалункі і засмокты выпадковасьці праз раскручаную бутэльку, якая ўсіх аб’ядноўвала і абсалютна бесстаронна абірала партнэра.

Жыць у вёсцы – верх асалоды, сябраваць зь мясцовымі – галоўнае дасягненьне для падлетка, але мары пра горад заўсёды з табою, пагатоў калі начамі відзежы гарадзкіх пэйзажаў усплываюць у памяці: як маці вазіла цябе ў парках у вазку, і казытала табе шчочкі сваімі доўгімі валасамі, альбо калі ты, падгадаваны, разам зь сябрамі незаўважна праточваўся ў кінатэатар «Беларусь» на першы фільм пра Гадзілу, і як вы перш як трапіць у кіно, абавязкова абкрадаеце вішнёвае дрэва, каб было чым заядаць таннае віно. Дзіўныя відзежы, нечаканыя сьненьні, нібыта зь іншага жыцьця.

Можна пераехаць куды заўгодна, але горад зь цябе не пераедзе проста так.

Можна пераехаць куды заўгодна, але вёска ня зьнікне зь цябе.

Можна пераехаць куды хочаш, эміграваць нават…

Я нашу свой горад з сабою, як і сваю вёску, і яны – два бакі маёй жыцьцёвай манэты, што з нараджэньня ўзбагачаюць мяне.

5

Жыцьцё грукаецца ў вокны і дзьверы маёй машыны. У двары хтосьці паркаваўся, раскалоў бампэр і зьнёс аўтамабільны нумар.

Надоечы інспэктар выскачыў на другую паласу дарогі, каб спыніць мяне на трэцяй, але спужаны мата-

цыкліст побач са мною скіраваўся да машыны ДАІ, палічыўшы, што гэта па ягоную душу. У люстэрка задняга агляду я бачыў, як сумныя вочы інспэктара праводзілі мяне.

Я прыехаў дадому, дарогаю прыкінуўшыся хаця б для сябе, што нічога не заўважыў, каб было як мага праўдзівей, калі будуць затрымліваць міліцыя разам з ДАІ каля пад'езду, пад камэры і з дручкамі.

«Нічога страшнага – калі ў лядоўні ёсьць пляшка белага сухога, можна і парушыць хуткасны рэжым на дарогах гораду», – вырашыў я сам сабе і праз гадзіну, па абедзе, заляцеў у сраку джыпу. Клясыка. Джып пераладаваўся і даў па тармазах перад маім носам, вырашыўшы ня гнаць на мірганьне сьвятлафора. Я гамаваў як мог, яшчэ крыху, і ногі б шоргаліся аб асфальт.

Добра так засандаліў, зь віскатам тармазных калодак скрышыў у драбочкі бампэр аўтамабілю, у дзесяць разоў даражэйшаму за мой.

Уключаю аварыйныя сыгналы, адшпільваюся і выходжу з машыны: у галаве толькі думкі, што на рамонт гэтага джыпу пойдуць усе бліжэйшыя заробкі, што ніякая Варшава мяне не пабачыць у выходныя, бо квіткі давядзецца здаць, што больш я не наведнік алькагольнага аддзелу ў крамах, буду піць таннае пойла.

Я трапіў у аварыю без правоў і пад віном. Тут абавязкова трэба неяк дамовіцца з кіроўцам джыпа. Неяк дамовіцца. Дамовіцца!

Падыходжу бліжэй і бачу, што за стырном маладая дзяўчына, вочы вялікія, спужаныя. Я пачынаю нешта прамаўляць, прашу адчыніць дзьверы.

– Я шчыра ня ведаю, што рабіць, але можа неяк без ДАІ разьбярэмся? – прашу я.

Мы пераглядаемся, яна не зьбіраецца выходзіць, гэта дакладна. Сэкунды непаразуменьня, расьцягнутыя на хвіліны… І тут джып зрываецца зь месца, і дзяўчына зьнікае за паваротам.

Што гэта было?! За што мне такое шчасьце?

**8**

Тэрэза ў маім ложку. Ноч, утульная зімовая сьцюжа звонку. Я побач з Тэрэзай, мы толькі што кончылі, і абодва глядзелі ў столь, я хацеў курыць, але не хацеў падымацца, і ўвогуле варушыць рукою – на плячы ляжала галава Тэрэзы, я акуратна кранаў яе вуха ўказальным пальцам, яна гладзіла мне жывот.

– Са мною аднойчы здарылася такая рэч, – кажа мне Тэрэза. – Я, калі вучылася ва ўнівэрсытэце, аднойчы зьнікла на два месяцы.

– Гэта як?

– Я раніцай прачнулася, сабрала рэчы і паехала ў іншы горад, я зьехала ў Пінск, там пражыла ў здымным пакоі – малявала акварэлямі і хадзіла ў бар, піла настойку, якой ніколі б у жыцьці ня стала б піць. Мяне шукалі ў сталіцы, у росшуку была. А потым вярнулася дадому. Пра маё падарожжа толькі праз гіпноз даведаліся.

– Слухай, ты такое распавядаеш пра два месяцы, а ў мяне адчуваньне, быццам я пражыў усё юнацтва не сваім жыцьцём, а за кагосьці іншага. Мае ўсе юнацкія ўспаміны схаваныя далёка, недзе па-за сцэнаю жыцьця тут і цяпер, замкнёныя ў адмысловым пакоі. Кожная гісторыя дзяцінства ахінутая туманам, гэта дзіўна.

– Доктар сказаў, гэта дысацыятыўная фуга. Мяне запрашалі дактары на дасьледаваньне, у нашым горадзе такі

пацыент, як я, – нейкі цуд. Я хацела выцесьніць сваё жыцьцё, замяніць яго на іншае. Разумееш. Было цяжка.

– Мне таксама было пізьдзец як цяжка, і я штодня альбо чакаў маці, альбо выжываў сярод такіх жа вясковых хлопцаў, з бруднаю сракаю і саплівым носам.

– А маці дзе была?

– Усе працоўныя дні – у сталіцы. У выходныя магла прыехаць. Я ёй быў не патрэбны.

– Можа, яна спрабавала зарабіць грошы для цябе, а сама на ноч заставалася ў сяброў, ці яшчэ ў каго.

– Я ведаю толькі, што яна, бывала, начыла на працы. Гандлявала ў нейкім фэшн-моле, там і начыла. Я зь сям'і галадранцаў. Потым зьбег.

– Як гэта зьбег?

– Самым натуральным чынам. Паслаў усіх, назьбіраў грошай і зьехаў у горад.

– Ты такое распавядаеш. Прыдумляеш тут, напэўна, мне. Табе толькі кніжкі і пісаць.

– Хто ведае, можа, мы з табою таксама цяпер жывем не сваім жыцьцём, а проста зьбеглі ад усіх сваіх праблемаў? Як там яно завецца? Фуга? Як нейкі музычны інструмэнт. Фагот. Фуга. Габой. Клярнэт.

**7**

У маім доме жыве жанчына, якая штораніцу выдзірае ў двары траву з расколінаў асфальту, а таксама на ўзбочынах і паміж фігурнай пліткай.

Яна кожны дзень выходзіць зь вядром, нажом і маленькай матыкай, і пачынае ірваць і выдзіраць дзьмухаўцы, краскі, траву, усё, што адчайна прарастае і цягнецца да неба, і кідае ў вядро.

Часам я назіраю, як яна прымушае сваю дачку-падлетка дапамагаць – ісьці, а дакладней, паўзьці за ёю і праполваць тое, што яна прапускае.

Гэтая жанчына – раённы Сызыф.

**4**

Аднойчы, калі вясна нікому, акрамя батанаў, не давала моцы выседзець на ўроках і ўсе бадзяліся па раёне каля школы, Лёшы сядзелі ля пад'езду, пілі піва і ашалела рагаталі разам з маладой практыканткай-фізычкай і яе сяброўкай-пэтэвэшніцай, а побач стаяў Амэрыка, паліў і гучна сьмяяўся, ён таксама разьлічваў на кагосьці зь дзяўчат.

З пад'езду выходзіў малады мужчына, каля трыццаці, і зрабіў кампаніі заўвагу, што наплявалі тут, накідалі шалупіньня, недапалкаў.

Амэрыка, доўга ня думаючы, надаваў маладому чалавеку ў твар. Маладзён ледзь вырваўся і зьнік у арцы дому, скіраваўшыся ў бок крамы.

Мінула пара гадзінаў, калі да школы зь віскатам шынаў пад'ехалі тры BMW. З машынаў павыходзілі хлопцы, якія выглядалі як сапраўдныя бандыты зь нейкага фільму, аднак гэта быў зусім ня фільм.

Лёшаў і Амэрыку адразу адшукалі, вывелі на задні двор школы, і перад трыма старшаклясьнікамі, крутымі пацанамі, паўстаў той самы малады мужчына, які зрабіў ім заўвагу і быў за яе пакараны.

**3**

Я яшчэ пакрычаў у зачыненыя дзьверы, беспасьпяхова пагандляваўся, пакуль не стаміўся і не пачуў за

дзьвярыма, як мая родная маці выклікае на мяне ці то хуткую, ці то міліцыю.

Тады я пару разоў на разьвітаньне ўдарыў у дзьверы і насцаў на іх, і пайшоў вонкі, куды вочы глядзяць.

Усё ў маёй гісторыі вярнулася да лягічнага пачатку. Ізноў чыгунка, ізноў табло руху цягнікоў. Гэтым разам я сапраўды зьеду.

Паеду, можа, на захад, адкуль прыйшлі мае продкі, і, зрабіўшы кола, замкну на сабе род.

Паеду да бабкі…

**2**

Калі мне споўнілася трынаццаць, маці прывезла на дзень нараджэньня тэлевізар і відэамагнітафон, і я пачаў жыць паводле новага раскладу: ганяў на старым бабуліным ровары ў гарадзкі пасёлак, даставаў там порнакасэты і фірмовыя цыгарэты і ехаў дадому. Цяпер кожная раніца пачыналася з мастурбацыі. Я прачынаўся, бабуля ўжо даўно займалася гаспадаркаю: давала сьвіньням, перш як па яе прыяжджала сталоўкаўская машына, каб забраць на працу. Я выбіраў, чаго паглядзець: «Чырвоны Каптурок», «Беласьнежку», «Ніну Фэрары – порнастар», «Напалі», і процьму іншага, што я хаваў у сваім пакоі, пад дошкамі ў падлозе.

Мастурбаваць вясною альбо летам не камільфо – паўсюль кружляюць мухі, сядаюць на рукі й ногі. Пот. Сьпёка. Большай сумесі пекла і асалоды нават не ўявіць – але што было, тое было. Я звычайна мастурбваў як ашалелы, і потым сьціпла выходзіў на двор. Мыў у калодзежным вядры рукі, зьліваў ваду, набіраў сьвежай, халоднай, што ажно эмаль на зубах трашчала, і піў вялікімі глыткамі.

Знаходзіў чаго паесьці на кухні ды зьнікаў да вечара ў палёх і лясах зь сябрамі. Бавіліся размовамі пра баб і мастурбацыю. Хтосьці абавязкова шторазу вёўся на старыя, як сьвет, жарцік пра валасатыя далоні праз ананізм.

**5/6/9**

«Ох, сябра, прачытаў я тваю кнігу… Скажу шчыра, раздражняла крыху, як ты скокаў з тэкстам, нейкая мазаіка атрымлівалася, але норм, зацягнула, і нават не заўважыў, як дакрочыў да фіналу.

Ведаеш, што мяне зачапіла, гэта гісторыі пра аўтамабіль. Колькі свайго асабістага згадаў адразу, неверагодны карагод малых гісторыяў: падарожжы, начныя завірухі, невялікія ДТЗ, вялікія коркі, нечаканыя лясныя дарогі з намётам у багажніку і п’янай зграяй пацаноў, калі мы літаральна ледзь не разьбіліся, выскачыўшы на верх узьбярэжжа Вяллі, і проста павісьлі над цёмнай халоднай вадой.

Альбо вось, шыкоўны момант, калі я забіраў сябра з жодзінскай турмы.

Імчым у Менск, ззаду ідзе поўнай хадою жлукценьне, я ня п’ю, машына без тэхагляду, без працоўных габарытаў і чырвоных стопаў, адна фара ледзь гарыць… На задніх месцах Ю. і Ш. заліваюцца да самых зрэнак.

І нас спыняюць перад уездам у горад, я кідаю машыну на супрацьлеглым баку ўзбочыны, сам накіроўваюся да машыны ДАІ, будуючы ў галаве праўдзівую прамову, чаму аўто ў такім храновым стане…

– Разумееце, лейтэнант, я на гэтай машыне ня ежджу, але сёньня ў сябра памерла бабуля ў Жодзіне, ён быў такі сумны, скрушны, я вырашыў рызыкнуць, завезьці яго, цяпер вось з пахаваньня дадому едзем – я ж, вы бачыце, ня піў.

Я лапачу без супыну, даішнік разам з калегам, які сядзіць на заднім месцы, хітаюць галовамі, з разуменьнем. Яны вырашаюць, што справа сапраўды вартая, каб заплюшчыць вочы на штраф. Лейтэнант пранікнёна пазірае, можа ў яго хтосьці нядаўна памёр?

І тут раптам заднія дзьверы маёй машыны наросхрыст, і дзьве зусім п’яныя пачвары выпаўзаюць з салёна й пачынаюць сцаць на дарогу, на колы машыны, трымаючы ў зубах запаленыя цыгарэты, – у адной руцэ пэніс, у іншай у кожнага пляшка шампанскага. Я так і самлеў у даішнай машыне, дупаю адчуў, як пот прасачыўся скрозь поры на ўсёй скуры».

«Не магу спыніць гэтых відзежаў, як мы ганялі на машыне навыперадкі ад адной бутэлькі шампанскага да другой, па начных крамах – жах, нянавісьць, адвага і адсутнасьць мозгу».

**1**

Пасьля доўгага перапынку я зноў наведаў гэты дзіўны сквот, паб, кнайпу «Рукі Мадонны». Мне было хораша ад таго, што я даўно сюды не завітваў, бо назьбіралася працы, якой у хатніх умовах немагчыма разабраць, скончыць, дапісаць і раскласьці па адпаведных тэчках і захаваць на вонкавым вінчэстэры, бо я ўжо дастаткова стары і вопытны, каб не пакідаць тэкстаў ды іншага на адным носьбіце. Цешыла, што будзе магчымасьць сканцэнтравацца толькі на тэкстах, толькі на літаратуры, і ня будзе матраца, на якім можна заснуць, і бруднага посуду, які захочацца памыць, і нават ня будзе лядоўні, у якую бясконца зазіраеш у спадзеве, што там зьявіцца нешта смачнае.

Я пасьпеў толькі разгарнуць сваю кнігу, як дзьверы адчыніліся, і на парозе намаляваліся тры вернікі, казачныя габрэі.

Я адразу згадаў усе свае памкненьні пагутарыць з загінулымі габрэямі ў менскай Яме. Згадаў, як п’яны ўкленчваў уначы каля касьцёлу і каля зачыненай царквы, як я ілбом спрабаваў праламіць дзьверы дамоў, дзе жыве Бог. Мне чамусьці стала няёмка перад гэтымі даўгімі сівымі пэйсамі за ўсё, што я нарабіў за жыцьцё. За свой разьбіты лоб, за ўцёкі з Кальварыйскіх могілак ноччу, калі там бадзяўся і спрабаваў маліцца, – толькі каму і пра што, ня памятаю. Я быў відавочна не гатовы да літаратурнай працы, і маю ўвагу адцягвалі любыя гукі ды каляровыя выявы.

– Прывітаньне, даражэнькі!

– О! Прывітаньне! – нечакана перада мною зьявілася Аліса, тая самая Аліса, зь якой мы яшчэ ў школе пасьпелі правярнуць столькі справаў у раёне, што хапіла б на тузін справаў для сьледчага.

– Ты ж мне пісаў, што я цябе тут знайду сёньня.

– А, так, дарэчы.

– Што, ужо і забыўся нават? Правер перапіску.

– Не, не забыўся, я сам толькі прыйшоў, і нешта завіс у сваіх думках. Ня хочацца сёньня нічога пісаць і чытаць. Вунь на габрэяў глядзеў…

– У цябе такі выгляд, нібыта толькі што асудзілі на пажыцьцёвае.

– Не жартуй так!

– Ладна, прабач. Я да цябе не надоўга, даўно хацела з табой пабачыцца і сказаць, што я табе ўсё даравала.

– Што ўсё?

– Абсалютна ўсё.

– Не разумею, але працягвай. Каву? Гарбату? Белае сухое?

– Джын. Лімон. І давай спачатку сходзім пакурым!

– Добра.

**5**

Можна верыць, што дарагая машына альбо джып сапраўды вызначаюць камфорт у тваім жыцьці, дадаюць істотны сэнс, калі ты, доўга працаваўшы, назьбіраў грошай і нарэшце набыў машыну мары, але ўсё гэта можна лёгка перакрэсьліць звычайнымі жыцьцёвымі абставінамі, бо калі ёсьць каханьне, калі ёсьць жаданьне жыць, кожны аўтамабіль лёгка і хутка ператвараецца ў вялікі ўтульны дом.

Гэтак здарылася аднойчы са мною… Я пасьпяшаўся набыць машыну, кіруючыся адно тым, каб яна была новая і не дарагая. І ў мяне зьявілася малалітражка, «зэдлік на колах», паводле словаў сяброў… Куля сьмерці.

Спачатку гэтая машына падавалася нечувана маленькай, пукатымі фарамі яна нібыта выбачалася за тое, што зьявілася ў маім жыцьці.

Здавалася, што такога, сядай за стырно і кіруй уласным раскладам дня. Але любіць яе я пачаў праз паркоўку.

Такую малую рэч, якая важыць крыху больш за сямсот кілеграмаў, вельмі лёгка можна паркаваць у абсалютна немагчымых закуточках і ў неверагодных умовах. Я зразумеў, што яе можна паставіць нават у тых месцах, якіх я раней не заўважаў. Малыя памеры машыны пашырылі мой кругагляд, я адшукаў багата куткоў у горадзе, дзе яна лёгка можа зьмясьціцца, і яшчэ застанецца.

У маім жыцьці пачалі зьяўляцца думкі і жэсты, зусім не характэрныя для анархічна настроенага баявога чалавека.

Адны гэтыя размовы пра машыну і прыгоды на ёй пачалі хутка і незваротна ператвараць мяне ў сноба, у такога ж мясцовага мужчыну, які даўно забыўся, што сам быў маладым, і цяпер лічыць, што нічога ня вернеш, а суседзкая моладзь – тупыя гіпстэры.

У які момант, у які дзень ад мяне адкалоўся той я, што безразважна гатовы быў на ўсё ў сьвеце, абы толькі не было сумна і лягічна? Ня ведаю, але я пачаў мяняцца.

**8**

Тэрэза сказала, што сышла з дому, кінула мужа, сказала, што ёй досыць усяго гэтага.

Я спытаў, чаго досыць.

Яна адказала: вось гэтага ўсяго, і разьвяла ўбакі рукі.

Тэрэза хоча паехаць да сваёй старой бабкі ў вёску.

Тэрэза нікога ня слухае, бо яна вырашыла, што паедзе. Ёй трэба падумаць, што рабіць.

Тэрэза вельмі хоча, адчайна жадае зьбегчы. Нічога не вырашаць. Проста зьехаць. Пакінуць, як ёсьць. У яе гістэрыка. У мяне – транс, я ня ведаю, што ёй сказаць, я толькі назіраю. Даўно ўжо толькі назіраю і на ўсё пагаджаюся, што б яна ні прапанавала.

Тэрэза папрасіла завезьці яе ў вёску.

Я пагадзіўся.

Яе бабка. Яе бабця Ліда, усё, што яна рабіла, – гэта кожны вечар піла, седзячы на ганку. Піла пасьля ўсяго: вайны, праполатых градак і нават пасьля таго, як дала сьвіньням. Піла свой родны самагон, першачок, які ладна капаў з носіка яе пузатага самавара.

Я кажу Тэрэзе, што ёй там рабіць, з бабкай – хіба піць?

Тэрэза кажа, калі што, то толькі піць, і я паеду зь ёй.

Ніхто ня ведаў, што рабіць. Бабка казала, што ўсё, зь яе хопіць усяго гэтага, яна свой жыцьцёвы плян выканала, нават, можа, і перавыканала: усіх, каго трэба, – нарадзіла і выгадавала, каго трэба – забіла падчас вайны, каго здолела – уратавала, галодных – накарміла, голых – апранула, пакуль працавала на гарбарні. Ёй больш няма чаго рабіць.

Бабка хоча пажыць для сябе: спаць як мага менш, піць – як мага больш. Прыедзе Тэрэза – добра. Не прыедзе Тэрэза – таксама добра.

«А, вось што! Не! Насамрэч ёсьць адна рэч, якой я ня выканала, – я нідзе не была», – казала бабка ўсім навокал.

Тэрэза, як прыехала, падключыла бабе Лідзе сто сорак тэлеканалаў – калі ласка, падарожнічай!

Спачатку з бабкай Лідай здарыўся зэпінг – яна гадзінамі магла сядзець і пераключаць тэлеканалы, не адрываючыся ад пітва.

Тэрэза кажа, што яе бабка гэтак да сьмерці і шчоўкала б каналы, калі б не спынілася на раварыстах.

На адным з спартовых каналаў упараныя спартоўцы гналі адзін за адным то ўверх, то ўніз, то налева, то направа па эўрапейскіх дарогах.

Бабцы спадабалася, яна пачала цікавіцца анонсамі і вечарамі глядзець гэты шматгадзінны «Турдэфранс» онлайн.

У галаве не ўкладалася. Бабка Ліда не адказвала на пытаньні Тэрэзы, яна ўвогуле была не ў гуморы, бо ўнучка тут захрасла зь нейкім мужыком. Ходзіць побач, турбуе, трахаецца на рыпучым ложку.

Мне таксама было ня надта ўтульна, асабліва бянтэжыў факт, што прыбіральня была на вуліцы: сраць у дзірку й падціраща жоўтай газэтай часоў Брэжнева тая яшчэ забава.

Можна заплюшчыць вочы на прытхлую калодзежную ваду і рыпучы ложак, але на працэс ачышчэньня – не. Я вырашыў зьехаць на пару тыдняў, каб вярнуцца.

**7**

Акрамя суседа-гопніка, побач са мной жывуць прыўкрасныя людзі, якіх я вельмі паважаю і высока цаню за чысьціню і тактоўнасьць, а таксама за тое, што ўсе яны, зь першага і другога паверхаў, высаджваюць вакол пад’езду і пад вокнамі кусты і дрэўцы, і нават хтосьці пасадзіў самы сапраўдны плюшч, які паціху ўжо дацягнуўся да другога паверху.

Мае другія суседзі, насупраць – гэта цудоўная сям’я, з мужа, жонкі, старэйшага і малодшага сыноў і дзядулі… Бабуля летась пакінула іх.

Я часта бачу бацьку і старэйшага сына на балконе, яны любяць пакурыць і пагаманіць, ціха так, спакойна, і звычайна, калі я праходжу адзін або са сваім сабакам, або з жанчынай, – абавязкова вітаюцца: «Добры дзень», «Добры вечар», «Вітаю вас». І што мне асабліва падабаецца, калі яны вітаюцца – яны нібыта выказваюць табе яшчэ і павагу, ня толькі выконваюць культурныя па, але і надаюць гэтаму нешта асабістае.

Малодшы сын у іх тыповы падлетак – футбольны заўзятар, гарэзьлівы, падстрыжаны машынкай пад нуль, увесь у «Адыдасе», з сумнеўнай кампаніяй, якая часта завітвае па яго, і яны ідуць у парк – з усяго відаць, альбо зожнік, альбо фанат. Я бачыў на ўласныя вочы, як яны ўсёй кампаніяй прайшліся нагамі па капотах дваровых машынаў, але іх ніхто не спыняў і не рабіў заўвагаў.

Усе яны, гэтыя пацаны, абсалютна культурныя людзі, заўсёды вітаюцца, прапускаюць першым у пад’езд, і нават калі бачаць, што вы набліжаецеся да дзьвярэй, – расчыняюць іх перад вамі.

У мяне часам узьнікае такое пачуцьцё да іх, сумесь стакгольмскага сындрому і любові да сябе роднага, бо я быў падобны да іх.

**4**

Зьбітым мужчынам аказаўся Шэры, той самы Шэры, якога ніхто ніколі нідзе ня бачыў, але ўсе ведалі, што раён належыць Шэраму.

Зразумела, «брыгада» не зьбіралася на вачах у школьнікаў, настаўнікаў і дырэктара займацца забойствам альбо зьбіваць непаўналетніх, няхай і такіх бамбізаў.

Шэры падышоў спачатку да аднаго Лёшы, дастаў запалкі, чыркнуў адну, даў у руку хлопцу, папрасіў яе трымаць як мага вышэй перад вачыма, і ня дай божа, каб яна пагасла.

Стаяць Лёша-адзін, Лёша-два і Амэрыка, кожны трымае запалку перад вачыма, а Шэры спрабуе патушыць агонь. Але ня так і проста яго патушыць, бо Шэры, замест каб дзьмуць, плюе на запалкі, і шторазу міма, і пляўкі трапляюць у твар хлопцам.

Публічнае прыніжэньне скончылася толькі на дзясятай запалцы, калі абодва Лёшы былі запляваныя і плакалі ды скуголілі, што яны нікога не чапалі і нават не зьбіраліся чапаць, ва ўсім вінаваты гэты вырадак Амэрыка, і не зразумела было, дзе іхныя сьлёзы, а дзе сьліна Шэрага. Амэрыка маўчаў, ён хацеў толькі аднаго – зьнікнуць.

**2/8**

Бабка Ліда мела добры настрой, бо ў той дзень я нарэшце прыехаў забіраць Тэрэзу ў горад, прыхапіўшы з сабою літр каньяку. Тэрэза нажылася ў вёсцы, крыху прычасала думкі і нэрвы, і таму бабка Ліда радавалася, смактала паціху з прыцмокваньнем дзяснаў лімон у алькагольнай вадкасьці, і выдала нам на разьвітаньне:

– Гэта маё падарожжа: вось я гляджу, празь якія краявіды гэтыя раварысты праяжджаюць: палі, лес, не вядомыя мне дрэвы, казачныя вёскі. Я гляджу на ўсё гэта, і быццам я сама там, на багажніку ровара, трымаюся за гэтага ўспатнелага мужчыну, і мне пятнаццаць, а вакол мяне ўсё толькі пачынаецца: жыцьцё, цудоўныя адкрыцьці, каханьне. Я сапраўды там, у гэтым тэлевізары, падарожнічаю па сьвеце. І празь мяне праносяцца і вецер, і сонца, і новы дзень. І я тут яшчэ думаю, што вам час выпраўляцца ў дарогу, а мне – наліць сабе яшчэ паўкубачка.

**2**

У мае трынаццаць маці нечакана прыехала пасярод тыдня, наказала сабраць рэчы і завезла на месяц у лягер «Пярлінка».

Можа, бабуля заўважыла ўва мне завысокую цікаўнасьць да сэксу і жанчын, а можа, маці адчула тое інстынктыўна, але я трапіў у хрысьціянскі лягер. Ніякіх табе п’янак, эратычных гульняў і абмацваньня дзяўчат, ніякіх порнакасэтаў.

Хрысьціянскі лягер – гэта малітвы, абсалютна дзіцячыя конкурсы на найлепшы малюнак, верш пра Хрыста нашага, шмат спорту і гітарных сьпеваў увечары каля вогнішча. Усе дзяўчаты ўмелі граць на фартэпіяна песьню

Сэлін Д’ён з «Тытаніка». Мне не заставалася часу на тое, каб рукаблудзіць, і я нават не шукаў шанцаў магічным чынам застацца на самоце. Мне ўсё было цікава.

Я пачаў бегаць, качаць прэс і падцягвацца, наш важаты паставіў трынаццаты пакой на спартовы шлях. Я ўдзельнічаў у конкурсе банцікаў, мне на галаве дзяўчаты завязалі іх рэкордную колькасьць, і я выйграў маленькую пластыкавую сьвінку. Ад такога хараства, чысьціні ды прыгажосьці я адразу забыўся на ўвесь уласны бруд і свае псыхатраўмы. Я быў закаханы адразу ў трох дзяўчат, адной зь якіх раніцай падараваў букет з красак, і было гэта так: я яшчэ да пад’ёму зьбег у лес, а калі вяртаўся, у вокны мяне ўжо ўвесь лягер бачыў. Я ўсім паказаў, які я магу быць дзёрзкі.

Я пайшоў шукаць сваю дзяўчыну, пайшоў на гук фартэпіяна на вачах усіх лягерных дзяцей. Яна, вядома, грала «My Heart Will Go On».

Прыйшоў.

Падарыў краскі.

Атрымаў пацалунак.

І гэтага пацалунка мне было больш чым дастаткова.

Было праз край.

У вёсцы я адразу палез бы пад сукенку.

А тут пацалунак, і ўсё.

**1**

«Рукі М.». Стаім, прадзьмуваныя ветрам, курым. Аліса, пасьля тэатральнай паўзы, працягвае:

– Я знайшла сваю палову, свайго блізьнюка, праз полымя манадаў.

– Што? – я нават забыўся зацягнуцца, затрымаў цыгарэту каля вуснаў.

– Слухай, я цяпер займаюся эзатэрыкай.

– Чакай, ты ж нядаўна займалася дызайнам, а да гэтага экаежай, а раней выкладала матэматыку на мэхмаце ў БДУ. Што здарылася?

– Я зразумела, што мне бліжэйшыя ўсходнія практыкі, зьезьдзіла ў Грузію, і там мне ўсё адкрылася, я ўсё зразумела.

– Ты была адна, мэдытацыя і ўсё такое?

– Не, я пазнаёмілася з адным фатографам у Менску, і там мы неверагодна зблізіліся духоўна.

– А, ну гэта называецца – каханьне, наколькі я ведаю, і тут эзатэрыка не патрэбная.

– Не, усё адбылося, як паводле тэорыі пра полымя блізьнятаў. Я яго ўбачыла і адчула, што ведаю яго ўсё жыцьцё. У нас адны і тыя ж думкі, паводзіны, пачуцьці, рысы характару.

– Ну пашчасьціла тады.

– Да ўсяго, я адчуваю паколваньне чакраў і пульсацыю сэрца.

– Што? Чакры паколваюць?!

– Так, давай сур’ёзна. Тым больш, нашыя энэргіі імкнуцца да збліжэньня!

– Ну блін, ясная рэч, вашыя геніталіі імкнуцца да збліжэньня! Ты мне яшчэ распавядзі пра позіркі ў будучыню, і вашыя аднолькавыя пляны, і подыхі, і жаданьні завесьці маленькіх манадак, падобных да вас.

– Разумееш, мы сустрэліся ў дзіўных абставінах, у мяне ўсе памерлі: маці, бабуля і цётка, і тут выявілася, што бацька, гэты гандон, які мяне маленькую кінуў, падае ў суд, каб забраць сабе кватэру, і тут раз – і ён, мой Коля, такі прыгожы, выцягвае мяне з жыцьцёвай багны, і вось мы ў Грузіі, п’ем віно і ямо сыр.

– Я цябе віншую, але навошта ты мне тут пра душы, блізьняткі і манады?

– Я захацела сказаць табе, што прабачыла табе ўсё, ну і параіцца, што рабіць, мой Коля жанаты, і ў яго чацьвёра дзяцей, і гэтая яго жонка, сука гэтая, дастае мяне па тэлефоне, пагражае прыехаць.

– Слухай, Аліса. Значыць, ня ўсё ў цябе так эзатэрычна прыўкрасна, і аднымі мэдытацыямі ды чакрамі не абысьціся. Добра, пойдзем усярэдзіну, пагутарым. Але я табе адразу кажу, выкінь нахуй зараз з галавы ўсё, пра што мне нагаварыла, і пра што яшчэ не пасьпела.

– А як жа песьні душы, сустрэчы ў снах, эмацыйная блізкасьць, выяўленьне экстрасэнсорных здольнасьцяў! Чакай, куды ты!?

**5**

Зразумела, усё пачалося ня толькі з паркоўкі, бо інакш гэта мяне не натхніла б напісаць столькі літараў пра машыну.

Сам факт зьяўленьня жанчыны ператварыў маю чатырохколавую рухомасьць адначасова і ў дом, і ў бар, і ў кабінэт псыхоляга.

Гэтая машына зрабілася і намётам, і чоўнам, і, часткова, – ложкам ва ўтульным доме на беразе ракі альбо ў лесе на сонечнай палянцы.

Да зьяўленьня жанчыны я езьдзіў, рызыкуючы ўсім у сьвеце: жыцьцём, грашыма і сябрамі. Мяне лавілі, фіксавалі камэрамі ды пазбаўлялі правоў, але яна ўсё зьмяніла, яна ператварыла машыну ўва штосьці сваё, роднае і сямейнае.

Мінула некалькі халодных сэзонаў, і я пачаў думаць пра тое, каб памяняць машыну на навейшую і большую.

Але як можна прадаць сваё самае блізкае, свае ўспаміны, эмоцыі, каханьне і сэкс?

Пакінуць машыну на балконе? Яна ня зьмесьціцца. Каля пад’езду заржавее.

Шкада прадаваць, бо гэта даўно ня проста аўтамабіль, гэта мой асабісты космас, мая плянэта, на якой я магу перамясьціцца куды заўгодна, перавезьці ў ёй усё самае для мяне каштоўнае.

**8**

– Аднойчы мой муж узяў мяне на рыбалку. Упершыню ў жыцьці ён узяў мяне з сабою на сваю мужчынскую справу. Гэты казёл езьдзіў са сваім сябрам кожны сэзон на Браслаўскія, пад самую мяжу з Латвіяй. Кожны сэзон у яго зьяўляўся вольны тыдзень, грошы і абсталяваньне для свайго цнатліва чыстага джыпа пад неабходны сэзон рыбалкі. Ну як два каханкі з гэтай грэбанай «Гарбатай гары». Я спачатку, калі ён толькі пачаў езьдзіць, была радая – тыдзень волі і тусовак, але потым пачала падазраваць штосьці няладнае. Пачала заганяцца, і праз гэта, часткова праз гэта, мяне пачало накрываць. Я магла цэлы дзень думаць толькі пра тое, што ён вось цяпер са сваім сябрам на прыродзе, вудзіць рыбу, яны кураць і п’юць пакрысе, і можа быць, нават цалуюцца… І вось я такая накручаная пыласошу, напрыклад, альбо глянцую люстэркі ў доме да бляску.

Тэрэза зрабіла вялікі каўток віна і працягнула:

– А потым ён узяў на рыбалку мяне, на цэлы тыдзень. Я была, як у казачным сьне. Мы зь ім за пяць дзён зьмянілі пяць месцаў уздоўж ракі, мы былі паўсюль, я зьбірала ягады і грыбы, мы варылі юшку, пілі партвэйн, і я танчыла каля вогнішча, я была самая шчасьлівая і прыгожая, а ягоны

джып быў заляпаны брудам і травою, а яму было ўсё адно. Я тады вырашыла сабе, што ён мог бы і раней браць мяне ў такія падарожжы, і таму ідзе ён у сраку са сваёй чысьцінёй і домам. Таму я цяпер сяджу побач з табой, але бачу, што табе гэта зусім не цікава і не падабаецца. Што такое? У чым справа? – Тэрэза глядзела мне ў вочы проста і пранізьліва.

Я ня ведаў, што адказаць, я глядзеў убок, і ўпершыню ў жыцьці адчуваў штосьці падобнае да рэўнасьці.

**9**

«Ну слухай, тут занадта натуральна выглядаюць дачыненьні з замужняй жанчынай. Неяк я падазраю цябе ў такім вопыце».

«Я не магу дакладна адказаць пра тое, што рэальна ў кнізе, а што не. Дзе мастацтва заканчваецца, і пачынаецца рэальнасць і побыт.

Усё, што зьвязвае аповеды ў кнізе, ёсьць тым самым жыцьцёвым сэнсам, калі рэальнасьць і мастацтва не існуюць асобна, а толькі разам.

Мне падабаецца ствараць інтымныя рэчы ў літаратуры, яны мне нагадваюць момант, калі выпадкова засьпяваеш чужых людзей падчас жарсьці, а цябе ня бачаць, і толькі табе вырашаць, ці застацца далей падглядаць, альбо ціха сысьці.

Я стараюся ва ўсіх сваіх кнігах і сцэнах жыцьця пакідаць асабісты досьвед, але ня ўсё, што напісана, павінна быць на сто адсоткаў праўдай».

«А наконт пэрсанажаў што? Ты іх з рэальных людзей лепіш? А раптам хто сябе пазнае?!»

«Ну, пэрсанажы ствараюцца не з рэальных людзей, кожны літаратурны герой гэта сумесь характарыстык,

са шматлікіх крыніцаў: кіно, мінакі, гісторыі, літаратурнае эпігонства, мастацтва, нават анэкдот можа адыграць ролю ў нейкай характэрнай рысе, уласьцівай толькі яму. Літаратура як такая суб’ектыўная, і з гэтым немагчыма змагацца, таму калі хтосьці знаходзіць сябе ў кнізе, гэта хутчэй ягонае меркаваньне і жаданьне быць там, бо без імёнаў і прозьвішчаў і без адпаведных біяграфічных дэталяў – гэта чыстая літаратура».

«Гэта нагадвае маньякаў, ахвяра сама прагне быць ахвярай».

«Так, і гэта датычыць увогуле мастацтва: кожны бачыць, што хоча, і з гэтага часта атрымліваецца дзіўная рэч – як, напрыклад, пошук новых сэнсаў у кнізе, калі пазьней ствараецца з аўтара прарок, бо ён быў здольны прадбачыць большае. Але гэта, я думаю, звычайная інтуіцыя і абазнанасьць у тэме.

Самае папулярнае пытаньне да аўтара: дзе ён сапраўдны, і колькі там праўды. І гэтае пытаньне моцна надакучыла, бо яно ўзьнікае ў чытача толькі ў той момант, калі ён не адмяжоўвае пісьменьніка ад ягонай літаратуры, і атрымліваецца блытаніна.

Кожны пісьменьнік вывучае прадмет апісаньня, паглыбляючыся ў тыя дэталі, якія яму больш цікавыя і блізкія, і гэтыя дэталі робяцца адметнымі каменьчыкамі сярод пяску апавяданьня».

**1**

Вечарамі «Рукі Мадонны» з гастрабару, кавярні і проста сталоўкі ператвараюцца ў клюб-рэстарацыю.

Калі затрымацца на «Руках М.» і праз літаратурныя высілкі не заўважыць, як праляцеў час, калі офісныя працаўнікі і праграмісты, сакратары кампаніяў і шматдзетныя

сем’і з суседніх дамоў, што прыйшлі паабедаць першым, другім, трэцім плюс кампот, паступова памяняюцца месцамі з тымі, хто любіць увечары не заседжвацца дома, а пад музычныя біты выпіць кактэйль, пакурыць кальян і, можа быць, пазнаёміцца, то можна са сваім ноўтам апынуцца ў іншай атмасфэры.

Гэтак было сёньня, я падняў вочы ад манітора і заўважыў, што за акном цемра, навокал усё зьмянілася, за кожным сталом і барным месцам былі іншыя наведнікі, больш вольныя, зь вечаровым мэйкапам, агорнутыя пахам парфумы, у зіхценьні біжутэрыі і ў бляску каляровага шкла.

Да мяне падышоў чалавек, запытаўся: ці можна разьлічыць? Я спачатку не зразумеў, чаго ад мяне хочуць. Стары мужчына, не падобны да афіцыянта, прынамсі, афіцыянтаў такога ўзросту я ні разу не бачыў. Праз гучную музыку я літаральна па вуснах зразумеў, пра што ў мяне пытаюцца.

– Не, дзякуй, я пакуль замоўлю сабе дзьвесьце гарэлкі і памаранчавы сок, і лімон.

– Дабраславі цябе і твой народ, пане, будзе ў цябе дзяцей і ўнукаў, як лямпачак на гэтай столі. Толькі табе трэба перастаць піць. Хопіць. Я кажу, хопіць ужо запраўляцца гэтым палівам, цяпер усе карыстаюцца энэргіяй сонца, геданістамі сталі. Колькі можна ўжо цябе папярэджваць і выратоўваць?! – адказаў мне стары.

Я ўзьняў вочы і заўважыў адно пару доўгіх лямпаў.

– Але ў мяне да гэтага часу няма дзяцей! І тут, на столі, усяго некалькі дзіўных лямпаў. Што за жарты?! І пры чым тут алькаголь?

Аднак побач нікога ўжо не было. Толькі пах з кухні лунаў навокал, і было адчуваньне, што такое ўжо калісьці было. І быў час, калі мне варта было б зьбірацца, але я замовіў сабе зашмат, і з гэтым мне змагацца тут і цяпер.

**7**

Мой сусед – кампазытар. Ён мажны, вялікі і азызлы сівы мужчына, клясычны кампазытар. Валасы дырыжорскай даўжыні, якіх не зьбярэш у хвост і не падстрыжэш карацей, і яны такія ад ветру кудлацяцца і ў вочы трапляюць.

Кампазытар гэты п’е нечувана шмат, і ня так, як Батоныч альбо сусед у трэніках, які ходзіць да ўсіх у госьці. Кампазытар п’е, нібыта апошні раз у жыцьці, і калі напіваецца, то ісьці ўжо ня можа, кійка ў правай руцэ ўжо не трымае. Сам ён добра, калі побач з домам на лаўцы застанецца, але ж бывае, ён і далёка дзе нап’ецца, дык можна яго за два прыпынкі ад дому пабачыць – на газоне, каля дрэва або пры краме, калі яго яшчэ не пасьпеюць занесьці некуды ахоўнікі ці забраць міліцыя, ляжыць ён, абасцаны.

Ня скажаш, што ён стары, – пяцьдзясят. Калі б ня піў, выглядаў бы цудоўна.

Неяк ён дазнаўся, што я мастак, ну быццам музыка там ці паэта, пачаў вітацца і запрашаць выпіць, я адмаўляўся дзясяткі разоў – цяпер ён і не вітаецца нават.

Учора назіраў, як ён выходзіў з пад’езду ў краму разам з жонкай. Ідуць абодва, яна сумная і глядзіць кудысьці ўбок, апранутая акуратна і бедна, у руцэ трымае скамечаны пластыкавы пакет, а ён, пераважваючыся, абапіраючыся на кіёк, вачыма ўніз, ідзе, і нібыта ўвесь сьвет супраць яго. І я думаю, варта было б зь ім аднойчы і напіцца, можа быць, ён бы мне распавёў пра сваё жыцьцё, і пра тое, як музыка давяла яго да невымоўных пакутаў і алькагалізму.

**2/3**

У нашым лягерным хлапчуковым пакоі ўсім было трынаццаць, і там жыў хлопец без рукі, які быў вельмі

цікавы суразмоўца, ён шмат чытаў, даваў мне звычайна нейкія парады адносна дзяўчатак і вар'яцеў ад анэкдотаў.

Побач з нашым пакоем быў пакой з дзяўчаткамі чатырнаццаці гадоў, яны былі бадай самыя дарослыя, адна нават была закаханая ў важатага, такія чуткі былі, звалі яе Ліна. Яна была шумная дзяўчына, прыгожая і недасяжная. На яе можна было толькі глядзець здалёк, гэта дазвалялася, нічога болей.

Ліна шмат малілася, вельмі шмат.

Аднойчы Ліна скакала на ложку ў сваім пакоі, і яе сукенка была амаль на галаве.

Я праходзіў міма... Гэта быў дзень, калі ўвесь лягер паехаў на экскурсію, а я застаўся прастуджаны.

Я аслупянеў. Перад маімі вачыма луналі ледзь акрэсьленыя грудзі ў дзявочым белым станіку і майткі, такія сапраўдныя шырокія майткі, але па-свойму захапляльныя.

Я прамовіў толькі «Амін» і кінуўся на яе з адчуваньнем невыноснага голаду і жарсьці.

Ліна не пасьпела апусьціць сукенку, напэўна, яна думала, што засталася ў лягеры адна.

**5/7**

Апошні раз я спрабую зьмясьціць усё ў адной машыне. Апошні раз я кажу сам сабе слова «апошні». Я знайшоў усе свае ноўтбукі, ладавальныя прылады, вонкавыя вінчэстэры, адкапаў з калідорнай шафы старую друкарскую машынку, на якой у рамантычным веку кнокаў сьмешныя вершы пра каханьне і ананімныя рыцарскія лісты дзяўчатам.

Я знайшоў сваю гітару і барабанныя палачкі, а таксама загрузіў у машыну мангал, намёт і баскетбольны мячык.

Я ня ведаю, што мне спатрэбіцца ў хуткай будучыні, я кляўся нікуды не зьяжджаць, калі мне званіў мой сябра.

Я кляўся сам сабе, што мне нічога і ніхто не патрэбны, што я знайшоў сваё месца, што мой раён, гэты купажаваны двор – мой лёс і кроў, радасьць і боль, але вось я ўвесь у паніцы і скрусе зьбягаю. Кожная мая былая жанчына сказала б мне, што я ўвесь у гэтым – зьбегчы і нічога не вырашаць.

Я дастаў з гаўбца ровар і прыкруціў яго да аўтамабільнага багажніка. Сабраў з сабою чыстае споднее і ўзяў дзесяць кніг, самых любімых дзесяць кніг.

Я не гатовы заставацца тут. Я зусім не гатовы.

**3/7**

Абед, сьпёка, час сіесты, я на балконе сяджу ў плеценым фатэлі, звонку мяне не відаць, я куру, гультаявата калупаюся ў пупе, скатваючы з маленькіх кутрынак і валаскоў шарык, у попельніцы дагарае самакрутка моцнай дацкай махоркі, перада мною стаіць поўная філіжанка белага сухога віна. Я амаль сплю, за паўкрока ад здаровага будысцкага прасьвятленьня.

І тут увесь двор напаўняецца тонкім, гучным галашэньнем, такім, на мяжы вар’яцтва, сьмерці, гвалту. Гэты лямант высокі, нястрымны і працяглы.

Я не адразу разумею, што адбываецца, падхопліваюся з фатэля. Аглядаю двор і заўважаю, што пад маім кухонным акном ляжыць шчанюк, можа аўчаркі, увесь перакручаны, у незвычайнай позе: пярэднія і заднія лапы ў розныя бакі, з носа цячэ крывя, пад сабакам лужына.

Адрэналін не дае засяродзіцца, каб дапамагчы сабаку. Усё навокал ператварылася ў кісель, я скачу з свайго

першага паверху ў кусты і праз два крокі апынаюся каля сабакі. Аглядаю яго, супакойваю, але шчанюк працягвае скавытаць, стагнаць ад болю і адначасова лізаць мне рукі.

Я ўпэўнены толькі ў адным: чалавецтва не заслужыла сабакаў, не заслужыла іхнай ласкі ды любові.

– Сука, падла ты гнілая! – крычу я на ўвесь двор, зьбіраючы вакол сябе мінакоў і суседзяў. Я нават не падумаў, што як ёсьць, у адных шортах, амаль голы і босы, я скокнуў з балкона, каб выратаваць сабаку.

– Вось толькі што, у абед, – буду казаць я па тэлефоне міліцыі, – зь пятага паверху мясцовы алькаголік скінуў сабаку, перад гэтым, што відавочна, нанёс ёй колатыя раны ў брухавіну і ў нос.

**6/9**

«У гэты самы цікавы час, калі мы ўсе былі юнакамі, для нас існавалі словы, якія называлі рэчы сваімі імёнамі, агучвалі нашую пазыцыю, даводзілі да грамадзтва нашыя галасы.

Я была чатырнаццацігадовай бляндынкай, якая старанна зафарбоўвала свае валасы ў чорна-сіні колер, каб мець больш брутальны выгляд. Вушы ўсе абвешвала булаўкамі, прабівала наўпрост пад сто грамаў гарэлкі, лежачы на зэдліку альбо стале. Як мне ўвогуле траплялі ў вушы ўсе тыя п’яныя падлеткі… хуй яго ведае.

Мне не падабаецца сучасная моладзь зь іхнымі тусоўкамі каля гандлёвых цэнтраў і мераньнем круцізной красовак. Так, у нас не было ўсяго таго, што ёсьць цяпер: вялікі выбар тэлевізараў, шмотак і жратвы, але ў нас быў дух і ідэя… Хоць гэтая ідэя мяне далёка не павяла, я засталася ў сваім музычным асяродзьдзі, але затое я не сьпілася, як большасьць.

Punk's not dead! Punk's not dead! Punk's not dead! Punk's not dead! Хутка назваў усе альбомы «Залатога кальца», падла, інакш пізда табе! Punk's not dead! Punk's not dead! Punk's not dead! Fuck the police! Фак усім вурдалакам у пагонах! Fuck the police… Fuck the… Fuck… and God save the Queen! Bless anarchy in the UK! Everywhere!!! Forever! Бі нахер вокны й машыны!!!»

«Зіна, асьцярожна! Зараз з лаўкі лясьнесься!!!»

«У сраку ляснуся!!! Ведаеш, што, вось тут у нас з табой быццам і дыялёг завязаўся, але бачыш ты, бухло заканчваецца, і мне ўжо не падабаецца ўсё гэта вакол панкаў і майго асабістага жыцьця, нахер усё, нахер. Punk's are sometimes dead, вось што я табе скажу, я пасьпела прасраць сваю маладосьць, а табе раю, каб паслаў ты ўсё на сьвеце, і пачаў слухаць не свае тупыя жаданьні, дзе чаго выпіць альбо сажраць, але адчуў, вось тут, пад рэбрамі, чаго ты сапраўды хочаш!»

7

Нашыя двары, асабліва двары спальных раёнаў, нічым такім незвычайным, адметным не вылучаюцца зь іншых, і наўрад ці калі-небудзь зробяцца гістарычным здабыткам або архітэктурным адкрыцьцём… Нашыя двары застануцца ў гісторыі як банальны факт жыцьця людзей ва ўмовах акварыюмных рыбак, мурашоў у сваіх норках. Двары – як помнікі, двары як надмагільлі, як непазьбежны факт прымусовага жыцьця менавіта тут і цяпер.

Вядома, шмат хто імкнецца набываць сялібы, лецішчы і нават зруйнаваныя замкі, але адначасова ўдвая больш зь вёсак пераяжджае ў сталіцу, такая несупынная плынь людзей, і калі ў нас няма культуры аднапавярховага Менску, экадамоў і такіх жа раёнаў, сапраўды даступных

сярэдняй клясе беларусаў, у нас застануцца гэтыя рэкі людзей, унутраных эмігрантаў, і рэкі гэтыя будуць цячы адна насустрач іншай, і ня будзе гармоніі, а толькі супрацьстаяньне спальных раёнаў і раскіданых вёсак.

Калі я толькі пераехаў у новую кватэру, было адзінае жаданьне – нейкім чынам палепшыць краявід з акна, уладкаваць гэтую пустэльню, дзе была месцамі чэзлая трава, неахайна запаркаваныя машыны і жудасная пясочніца для гульняў клоўна Пэніўайза.

Суседзі, зь пераменным посьпехам, утыркалі кусты і дрэўцы побач са сваімі вокнамі, але ўсё выглядала сумнеўным і марным, бо калі газонакасільшчык не састрыгаў усяго пад корань, то іх ламаў вецер або, што яшчэ часьцей, – дзеці гойсалі па двары і на расьліны падалі, а дзе і абрывалі кусты, майстравалі зь іх пісталеты, рагаткі ды магічныя палачкі.

Усё, напэўна, так бы і засталося – сумным дваром і такімі ж ваколіцамі, калі б ня нейкі незнаёмец, сусед-інкогніта, энігма, што пасадзіў за адзін вечар адразу некалькі дзясяткаў дрэваў: рабіны, алешына, ліпа, бярозы і нават туі!

Ранкам я гуляў з сабакам і проста не пазнаваў навакольля. І ўсе гэтыя дрэвы і кусты былі падвязаныя і агароджаныя, а некаторыя тонкія дрэўцы дадаткова былі абароненыя разрэзанымі плястыкавымі бутэлькамі, якія ахіналі камель ад зямлі і не давалі касілцы рэзаць.

**2/3**

І недзе паміж па-хрысьціянску чыстымі Дашай і Лінай была дзяўчына Ая, пра якую я ведаў толькі, што яе завуць Ая, а потым неяк я атрымаў ад яе ліст, дакладней, мне важаты перадаў капэрту ад яе. Яна пісала шмат пра сябе і прапаноўвала па вяртаньні ў горад ліставацца.

І я зь ёй перапісваўся шмат гадоў: паштоўкі, сэрцайкі, віншаваньні, вершы, рукапісныя лісты каляровымі алоўкамі, флямастэрамі і залатой мішурой, а часам і простым алоўкам, чорным і простым.

Дзе б я ні быў, я ёй дасылаў ліст ці паштоўку, яна адзіная ведала пра ўсе мае перамяшчэньні і падарожжы, усе мае адрасы і гарады, падарожжы і ўцёкі.

А потым мы сустрэліся, каля Сьвіслачы ў Менску, яна яшчэ здалёк далонькаю прыкрыла вусны. Я думаў, яна сьмяецца, аказалася, што ледзь ня плача. Высьветлілася, што ўсе гэтыя гады яна была ўпэўненая, што перапісваецца з важатым з хрысьціянскага лягеру.

Важаты, дарослы мужчына-баптыст, аддаў чатырнаццацігадовую дзяўчынку, яе лісты, і хатні адрас, і каханьне мне, а я яго прыняў з удзячнасьцю, але ня здолеў утрымаць.

Пасьпеў разам з Аяй зрабіць дваццаць крокаў па дарозе, калі яна павярнулася, паглядзела скрозь мяне і сказала, што ёй трэба ехаць. Больш я яе ня бачыў, гэтак абарвалася апошняя сувязь з чыстым і сьветлым ліставаньнем цягам васьмі гадоў.

**7/8**

Бывае, я паддаюся паніцы, сяджу ў сваім фатэлі, адзеты толькі ў халат на голае цела, і мне хочацца альбо напіцца, альбо паставіць кропку на жыцьці. Мне не хапае паветра, не хапае думак, не хапае жыцьцёвага досьведу, таленту пісьма.

Мая Тэрэза ў такія моманты супакойвае мяне, як можа:

– Ты можаш лепей, ты м о ж а ш ЛЕПЕЙ! Можаш лепей... Можа? ш... жа? А? М-о-ж-а-ш! Лееепей... Лепш за астатніх!

– Добра, а калі гэта мяжа… калі ўсё… гэты франтыр апошні, і пасьля яго – нічога… немагчымасьць штосьці змагчы?!

Тэрэза пачынае гладзіць мне галаву, сваімі доўгімі кіпцюрамі, гострымі пазногцямі… І я пачынаю верыць, што магу лепей, вышэй і болей, і як апошні вар’ят дакрочваю да чарговай эмацыйнай мяжы, паказваю дакумэнты, мне ставяць пячатку і дазваляюць рухацца далей.

**6/9**

«Панкі, хм, у мяне на раёне таксама былі панкі… Нічога добрага пра іх сказаць не магу – пачвары і быдла тое яшчэ, асабліва ў сьвяты напіваліся, біліся з усімі. Фу. Ня ведаю, навошта ты мне даў пачытаць сваю кнігу, але я згадала адзін скрушны момант, зьвязаны з панкамі.

Я працавала ў цырульні, і ў маёй адміністратаркі быў сын, два мэтры ростам, сямнаццацігадовы імбэцыл у байцы «Exploited» і з іракезам, які я яму і падстрыгала… Заўсёды гэты юнак быў брудны нейкі, непрыемны і гідкі, але я добра сябравала зь ягонай маці, таму і стрыгла яго.

І вось аднойчы ноччу гэтага панка, п’янага ўшчэнт, затрымалі на грамадзкім прыпынку мянты і адвезьлі ў малпоўню, а раніцай хлопец быў ужо мёртвы.

Мне Людка, маці ягоная, плакала і распавядала, што на сыну месца цэлага не было, увесь быў зьбіты, ацёклы, давялося пахаваць у закрытай труне…

Людка ў суд на мянтоў падала, а тыя толькі адмахваліся, бо такім зьбітым яго на прыпынку знайшлі, і падумалі, што ён п’яны, таму ў малпоўню адвезьлі.

Ведаеш, усё крута завярцелася, калі на мабільным, тады ж, памятаеш, былі аграменныя такія «Нокіа», знайшоўся запіс.

Хлопец, калі яго пачалі зьбіваць, уключыў на тэлефоне дыктафон.

Людка пасадзіла тады двух мянтоў, бо там абсалютна дакладна было чуваць, як перагаворваліся гэтыя казлы і абмяркоўвалі зьнешні стан панка, наколькі ён брудны, п’яны і нікому не патрэбны».

**7**

Паступовая ўсе суседзі пачалі далучацца да азеляненьня. Я прывёз куст бэзу, суседзі зь левага пад’езду замовілі сабе пад два акны і вялізны гаўбец – ляндшафтнага дызайнэра, і за тыдзень стварылі сады Сэміраміды.

А суседзі праз пад’езд – уласнаруч усё навокал засеялі газоннай травою і засадзілі туліпанамі.

Я, у сваю чаргу, засудзіў таго самага гандона, які скінуў сабаку зь пятага паверху. Напісаў у міліцыю, далучыў суседзяў. Высьветлілася, што ягоныя суседзі на пятым паверсе штоноч чулі, як сабака скуголіць і яго б’юць, але баяліся штосьці рабіць, ён жа алькаголік, і да яго ходзяць мясцовыя бічы.

Грэбаны мэнталітэт, грэбаная мая хата з краю, і грэбаны выраз «А што суседзі скажуць». Шчанюка расьпіналі ў кватэры, і ўсе гэта ведалі, але кожны думаў, што не яму вырашаць гэтыя справы.

Урэшце сабаку я схаваў на час сьледзтва, сабе набыў газавы балёнчык і паклаў біту ў машыну.

За час сьледзтва я скарыстаўся тры разы балёнчыкам супраць бічоў: «Аддай сабаку, підар!», і адзін раз адбіваўся бітай, але ўжо ад неадэкватнага кіроўцы, якога падрэзаў на машыне, але тое іншая гісторыя.

Алькаголіку зь пятага паверху далі два гады турмы, дый тое таму, бо адна мамка даказала, што падчас

здарэньня, калі сабака енчыў скалечаны пад вокнамі, яна была на дзіцячай пляцоўцы зь дзіцёнкам, які мог бачыць гвалт з жывёліны.

**1**

Knaйпа «Рукі Мадонны», прыйшоў працаваць, раніца, усё навокал струменіць цяплом і дабрынёй. Я вольны сёньня, вольны, каб назіраць, пісаць і піць віно. Гэтае шчасьце быць, існаваць проста так, дзеля любімай справы, самае неймавернае шчасьце.

Шчасьце нават проста тут і цяпер Быць.

Сеў, утульна ўладкаваўся.

Праверыў мэйл, потым яшчэ адзін мэйл ад плэймаркету.

Праверыў сваю вайсковую вёску, потым згуляў у «Crash of Cars» і «Hearthstone», «Sword of Xolan» і «South Park Phone Destroyer», і крыху онлайн у «Free Fire» і «Guns of Boom».

Паглядзеў лісты з «Фэйсбуку» і «УКантакце», дзе абыякава, але доўга гартаў стужкі зь «сябрамі».

Адказаў усім сваім у вайбэры.

Адчыніў закладкі ў гугле з навінамі… Дазнаўся, што адзін літаратурны крытык ня любіць тых пісьменьнікаў, якія пішуць у мастацкіх тэкстах пра сучасныя гаджэты. Стала сумна. Пакурыў. Падумаў. Вырашыў, што крытык мудак, бо гаджэты ў тэкстах вартыя таго.

Потым вярнуўся па ноўт і віно, і заўважыў, што хтосьці пакінуў некалькі камэнтаў у «Instagram». Не пасьпеў адказаць, як напісалі на «Telegram» і «WhatsApp».

Памарудзіўшы крыху, дачытаўшы пасты пра віно да дваццаці сямі рублёў у «Telegram» і пра «карусельнікаў» на выбарах дэпутатаў у «VK», адказаў на ўсе лісты на пошце ў «Яндэксе» і «Google», і вырашыў, што ўжо абед, надышоў час

замовіць чаго з абедзеннага мэню, але гэты грэбаны «Twitter» адцягнуў маю ўвагу да самага вечара, бо я то чытаў кароткія тэксты, то разглядаў чужыя фотаздымкі ў «Instagram».

Карацей, суцяшаў сваю душу віном, а вочы – прыгажосьцю. Часам зайздросьціў, часам зноў сумаваў, а быў момант, калі нават успамінаў гэтага крытыка і ягоныя закіды наконт сучасных гаджэтаў у сьвеце і ў мастацкім тэксьце, то тады яшчэ часьцей выходзіў курыць, пакуль не напіўся і не набраўся нахабства запаліць у зале і накатаць адкрыты тэкст крытыку ў сацсетках, але своечасова пабачыў Госпада Майго і пачуў Ягоны голас.

– Што карыснага зрабіў ты сёньня, дарагі мой? – запытаўся Бог за маім сталом, смакуючы віно.

– Я праверыў усе паведамленьні ва ўсіх сваіх прыладах, а таксама згуляў на тэлефоне ва ўсе гульні, якія ўсталяваў, – адказаў я і з адчуваньнем абсалютнай лёгкасьці і свабоды, выпіў да дна.

– Тады пі, колькі хочаш, хлопча, кніга табе не патрэбная, няхай яна гарыць тым полымем, якім палаў куст перад вачыма Майсея, – адказаў мне Бог, і я пакланіўся Яму, і зацягнуўся самакруткай, як раптам да мяне падбег афіцыянт і забраў цыгарэту.

«Палае і не згарае», – круцілася ў галаве. Я намагаўся сварыцца з афіцыянтам, каб мне вярнулі самакрутку. На тэлефон пазванілі праз «Skype» зь іншай краіны. Вечар будзе цікавы.

**2/3**

А потым я вярнуўся зь лягеру.

Мне не давялося ехаць лягерным аўтобусам у сталіцу, хоць я так моцна гэтага прагнуў, бо прадчуваў доўгія раз-

мовы на разьвітаньне, абмен сакрэтамі, адрасамі ды падарункамі, пацалункамі і спадзевамі з усімі, з кім пасябраваў і пажыў гэты кароткі месяц.

Мяне забрала маці.

Прыехалі на сялібу.

Бабкі не было ў доме.

Маці ўсю дарогу кіравала машынаю гэтак, быццам упершыню села за стырно. На ўсе мае пытаньні яна адказвала, нібыта выплывала зь нетраў. Урэшце я перастаў задаваць ёй пытаньні.

Мы прыехалі, і я пайшоў у свой пакой, зачыніўся і паклаўся на ложак. Было прыемна вярнуцца, хоць я кожную хвіліну ўспамінаў лягер і Дашу, Ліду і Аю. Хацелася ўзяць іх усіх разам у гэты ложак, і кожную асобна гладзіць, абдымаць, цалаваць, і з кожнай спаць адначасова, і паасобку, і з кожнай гадаваць дзяцей… разам і паасобку. У гэты момант я гатовы быў даць якую заўгодна індульгенцыю мусульманскаму шматжэнству.

**4/9**

«Чувак, ну ты даеш, ты напісаў кнігу і нідзе, абсалютна нідзе не згадаў пра бырла?! Якія ж панкі без чарніла на лаўцы ў двары?!! Вось што, калі ня будзе гісторыі пра чарніла, нахер нікому ня будзе патрэбная твая кніга, таму я табе напісаў коратка і зьмястоўна пра нашае любімае пойла!

«Крыжачок» – віно, якое танчыць. Невядома, хто яго так назваў, напэўна, проста прыжылося ў народзе, але гэтае азначэньне, «чарніла», я пачуў ад кагосьці са старшаклясьнікаў і распавёў свайму сябру ў чароўны момант непасрэднага знаёмства зь віном… Мы былі

ў невялікім дворыку, з усіх бакоў абнесеным зялёнай сьцяной каштанаў, гэта стварала ўтульны настрой для кампаніі ды хавала нас ад мінакоў. Дзьве лаўкі зручна разьмясьцілі нашыя целы, нас было восем, ня лічачы некалькіх старшаклясьнікаў, якія ведалі, што рабіць з гэтым пойлам…

Глыток — і тухлая, салодкая, гнілая вадкасьць прайшла па страваводзе ў страўнік... Цэлую шклянку нагбом! Сяброўкі глядзелі на мяне як на героя… Старшаклясьнік толькі лыбіўся, а мы яму падыгрывалі, мы былі такія ж дарослыя, як і ён… Пасьля першай, другой, трэцяй шклянкі ўсе запалілі. Праз хвіліну кожны з нас быў ужо ня ў гэтым сьвеце, усе ап’янелі й паводзілі сябе як вар’яты… Нам захацелася пайсьці ў клюб, які быў літаральна за два крокі ад нашага дворыка. Мы дапілі «Крыжачок» і скіраваліся туды.

Мяне хістала, сьвядомасьць разьдзірала на часткі.

У клюбе, не дамаўляючыся, мы ўчатырох: дзьве бабы і я зь сябрам, накіраваліся ў прыбіральню… Нас ахапіў шал – натуральна, не было ніякага сэксу, проста мы пачалі цалавацца, мацаючы адно аднаго, чарніла вынесла нам апошнія мазгі, мы зь сябрам мяняліся бабішчамі, якія толькі і падстаўлялі раскрытыя вусны языкам.

Мінула колькі часу, чарга каля прыбіральні ня доўга трывала, і нашую дзіцячую оргію разагналі, і мы выпаўзьлі на сьвежае паветра зь цьвёрдым рашэньнем, што на сёньня больш ні кроку ў клюб і ані кроплі сьпіртнога, адна зь дзяўчат пакінула на лесьвіцы клюбу яркія кроплі званітаванага «Крыжачка». Мы сьмяяліся, калі яе ванітавала.

Вось як гэта было, першае знаёмства з чарнілам: сувора і рамантычна адначасова!»

**2/3**

Мне пашчасьціла нарадзіцца двойчы. Першы раз у вёсцы, другі раз – у горадзе. Я доўгі час уцякаў ад бацькоў і ад бабкі, ад вясковых мухаў і жоўтага сала, я ўсім навокал казаў, што толькі такі пацан, як я, гарадзкі ў трэцім пакаленьні, можа распавесьці вам пра горад, пра гэтую каляровую сталіцу – цэнтар жыцьця. Але мой цэнтар акурат у вёсцы, там сэрца на дне калодзежа са сьцюдзёнай вадой, там, у вёсцы, каля сталоўкі ў кустах пакінуты мною мяч, бо я вярнуся, і трэба будзе згуляць зь мясцовымі.

І насамрэч ніякі я не гарадзкі ў трэцім пакаленьні, я такі самы, як кожны беларус, – прыехалы ў другім пакаленьні.

Тэрэза кажа, што я самы сапраўдны вар’ят з падваеньнем асобы, бо яна ўжо сама заблыталася, дзе я і хто такі.

Аднойчы мы выратавалі сабаку, літаральна выхапілі з кіпцюроў сьмерці, і гэта нас зьмяніла. У нас быццам зьявіўся дзіцёнак, свой сын.

Мы пачалі разам клапаціцца пра здароўе шчанюка, гадаваць, адукоўваць, вучыць жыцьцю, мы пачалі лашчыцца да яго, цалаваць яго ў нос, гуляць зь ім у мяч, ганяць разам котак у двары.

Паводле сацыяльнага факту, сям’я толькі тады лічыцца сям’ёй, калі двое дарослых гадуюць дзяцей. Нас аб’яднаў сабака.

Гэты грэбаны Букоўскі, імя, якое сапраўды пасавала ягонай задуменнай пысе і нястрымнай радасьці падчас адкаркоўваньня мною піва.

«Гэй, Бук, подзь сюды, півас адчыняю, – і гэты боўдзіла ўжо нясецца, кульгаючы на правую пярэднюю, – як я добра цябе разумею, сябра, у самога сёньня ажно

палае ўнутры, трэцяя гадзіна дня – надышоў час выпіць!»

Я ня проста так назваў сабаку Букоўскі, мне падалося, што гэта добра адлюстроўвае мой эгацэнтрызм, жаданьне караць і сьцябацца з выбітнага пісьменьніка ў выглядзе сабакі, і адначасова яго любіць, як самага блізкага сябра, такі мой уласны жыцьцёвы аксюмаран, мой замах на сусьветную літаратуру.

**0/7**

Пасьля таго, як усе заварушыліся і насаджалі дрэваў і кустоў, у двары ўзьнікла такая атмасфэра ідэальнага жыцьця, што, здавалася, сам Усявышні лунае па-над дзіцячай пляцоўкай, засталося толькі дачакацца, калі ўсе гэтыя расьліны заквітнеюць, тады, можа, Бог спусьціцца на лаўку, каб адпачнуць і пагутарыць з пацанамі і Батонычам, перацерці за жыцьцё і сэнс існаваньня.

На кожны пад'езд павесілі камэру, цяпер кожны плявок і сьмецьцевы пакет ня ў сьмецьцевым баку будуць кантралявацца і фіксавацца.

Жыць стала ідэальна проста, і я пачаў сумаваць па мясцовых бамжах, па адной дзіка рамантычнай парачцы, якая летам любіла кахацца за сьмецьцевымі бакамі. Весела было тады – ідзеш выкідаць пакеты, а там родныя, як піжама, бомж з бамжыхай у позе па-сабачы – прыгажосьць. Такі ўнікальны доказ, што жыць трэба далей, і твае праблемы нішто, у параўнаньні з тым, як бы скончыць свае жарсьці да таго, як пагоняць з двара.

Усё прычасалі ды нашмаравалі воскам, навялі шык і шоўк, пасадзілі скуралупа, пахавалі наркамана зь ягонымі нычкамі, выгналі бамжоў, і жыць стала сумна – але

прыгожа, проста, але зноў жа – сумна.

**0/3**

«У першы дзень пасьля школьнага выпускнога я зьнік. Самым сапраўдным чынам зьнік. Я сышоў. І сышоў не абыкуды, я падрыхтаваўся. Грошай, якія я назьбіраў, мусіць хапіць на доўгатэрміновае падарожжа, альбо каб дваццаць месяцаў аплочваць здымную кватэру».

– Зьбірайся, паедзем у Менск, – з маіх юнацкіх, вільготных мараў мяне выштурхнула маці. Бабка зноў выганяе нас з дому. Скандалаў больш ня будзе, бо ня будзе гэтай старой.

– Спадзяюся мы сюды больш ня вернемся, – падхапіўся я з ложка.

– Я таксама спадзяюся.

«Мне б толькі даехаць да сталіцы, і я буду жыць, як захачу. Знайду сабе свой дом, свой раён, сваю працу, завяду сяброў, сабаку і жанчыну, у мяне зьявіцца хобі і, можа быць, дзіцё, я навучуся быць нармальным, я пачну займацца спортам, я набуду машыну, мне пачнуць зайздросьціць суседзі», – у галаве пачалі зьяўляцца новыя думкі і пляны, мне падалося нават, што з гэтага ўсяго можна было б зрабіць апавяданьне.

**3/6/9**

«З восьмай па адзінаццатую клясу я быў панкам, выстрыгаў сабе іракез, насіў сьмярдзючую байку з выяваю «ГрОб». Свайму сабаку таксама выстрыгаў іракез і фарбаваў чырвоным флямастэрам. Зь сябрамі-панкамі ў нас былі дзьве вартыя панкаў гульні: рамонак і сапля.

Рамонак: зьбіраецца вялікая кампанія, кожны гадзіць у адно месца, альбо, калі ня можа нагадзіць, шукае сабачае

лайно. Потым усе становяцца вакол гэтай кучы, утвараюць кола. Абіраецца галоўны панк, які мусіць кінуць цэглу альбо камень у сярэдзіну гэтай кучы-сьмярдзючы. Выйграе той, на каго трапіла больш лайна.

Сапля: распранальня ў школе каля спартовай залі, звычайна на перапынку, пераапранаецца некалькі клясаў. Перад дзьвярыма зьбіраюцца панкі, абіраецца галоўны і адказны за дзьверы і сьвятло распранальні. Такім чынам усе панкі заходзяць унутр, выключаецца сьвятло, дзьверы зачыняюцца і трымаюцца звонку дужым хлопцам. І пакуль у цемры паніка і крыкі, панкі актыўна плююцца і смаркаюцца ў розныя бакі. Выйграе той, на якім пасьля падлікаў будзе больш саплей.

У школе мы рабілі наступныя рэчы: уключалі краны ў прыбіральнях на паўдня і кідалі ў лайно дрожджы... лавілі малых падшыванцаў і выстрыгалі ім плешыны на галовах... размалёўвалі парты і сьценкі... курылі на ўроках ваеннай падрыхтоўкі... зьдзекаваліся з трудавіка і гістарыцы... на ўроках расейскай літаратуры не хаваючыся пілі піва – давялі настаўніцу да бальніцы.

Цяпер адзін з нас – адвакат, другі – бізнэсмэн... трэці – хірург... а яшчэ ёсьць кандыдаты, пісьменьнікі, рэклямнікі... і ніводнага выдатніка сярод нас няма».

**0**

Дзень. Цёпла. Я, такі прыгожы, сеў за стырно сваёй машыны, дастаў запісаныя на дыск аўдыёапавяданьні Гэмінгуэя, паставіў у магнітолу, і калі ўжо пераключыўся на трэцюю перадачу, пасьля таго, як выехаў з двара, я зразумеў, што ўсе апавяданьні Гэма ня проста ідуць непасьлядоўна, але трэкі перамяшаліся такім чынам, што на маім

дыску цяпер дробна накрышаная салата зь пяці апавяданьняў, якія я буду слухаць у дарозе, і ў маёй галаве паўстане новая дзіўная вэрсія творчасьці Эрнэста, калі гвалт, паляваньне, алькаголь і жанчыны зьмяшаюцца ў адзін кактэйль, якога двойчы не згатуеш.

Я скруціў сабе і Тэрэзе самакрутку з тытуню, адразу шэсьць папяросаў, каб не спыняцца ў дарозе, і проста ехаў сабе пад сто пяцьдзясят па аўтабане... Курыў, і разумеў, што няма ніякіх межаў для творчасьці, няма нічога, акрамя мяне, гэтай дарогі, і гэтых ператасаваных старонак з кнігі, гэтых начытаных кімсьці радкоў у гуказапісвальнай студыі.

І я ехаў, і ўсе навокал мне пасьміхаліся, махалі рукамі іншыя кіроўцы, крычалі мне ўсьлед дальнабойнікі: «Удачы!» Сонца сьвяціла ў лоб, я мружыўся. Было сьветла і сьмешна, і неяк моташна.

Тэрэза глядзела ўбок. Яна закінула ногі на панэль машыны і ўсім сваім выглядам выказвала толькі адну думку, адно жаданьне – каб яе не чапалі.

На заднім месцы, невядомай пароды, ачунялы ад пераломаў, хваробы і зьбіцьця Бук, высалапіўшы язык у прыадчыненую фортку, лавіў пахі будучыні.

Я ўсіх нас у гэты момант добра разумеў, варта было б пасьпяшацца далей, не азірацца, не шукаць у наваколья згоды і дазволу, а самім, як ёсьць, незалежна вырашаць свой лёс. Тэрэза сказала, што ўнутры яе хтосьці пачаў жыць, і надышоў час рабіцца дарослымі, бо нават панкам надыходзіць час памерці, каб нарадзіцца зноў.

*Сакавік 2017 – красавік 2018*
*Готлянд, Вісьбю – Менск*

*На гэтай старонцы я хачу падзякаваць* усім маім сябрам, якія спрычыніліся да стварэньня гэтай кнігі: Аляксандру І. Бацкелю, Юлі Брызінскай, Максіму Шапялевічу, Лене Глекавай, Віталю Латышу, Аляксандры Макавік, за гісторыі і доўгія дыялёгі, за чытаньне і абмеркаваньне, за ідэі, думкі, інфармацыю і пільную ўвагу да тэксту.

*А таксама перадаць касьмічнае прывітаньне* Хою, Летаву і таму самаму хлопцу, які адвечна ў нашым двары ванітаваў на рагу школы, бо ня мог дайсьці да кустоў, а піць мог доўга, прыгожа і арыстакратычна, з адстаўленым убок мезенцам і закінутай галавой, як піяніст, які рыхтуецца да галоўных сваіх акордаў у жыцьці, а публіка вакол зьнерухомела.

Punks Not Dead, but Punks are Sometimes Dead!

